КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 30 (302) ◂ 27 ліпеня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**ЮЗАФ ПІЛСУДСКІ**

Стар. 30

**БАНКРУЦТВА КУРСУ**

Магчыма, гаварыць пра ўстойлівую тэндэнцыю рабочых бунтаў пакуль зарана, але сітуацыя для стабільнай Беларусі з сацыяльнымі білбордамі, што дэманструюць выявы шчаслівых рабочых, нестандартная

Стар. 5

**АЛЬТЭРНАТЫЎНЫЯ АЛІМПІЯДЫ**

Малавядомай часткай гісторыі алімпійскага руху з'яўляюцца альтэрнатыўныя Алімпіяды, якія праводзіліся краінамі, калі яны калектыўна байкатавалі афіцыйныя Алімпійскія гульні

Стар. 29

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**НАСТУПНЫ НУМАР ГАЗЕТЫ ВЫЙДЗЕ 17 ЖНІЎНЯ!**

З НАГОДЫ

# ЗАЙМАЛЬНЫЯ ГУЛЬНІ Ў ДЫЯЛОГ

Вольга ХВОІН

**Міністр знешнепалітычнага ведамства Беларусі Сяргей Мартынаў з'ездзіў на сустрэчу кіраўнікоў МЗС краін Еўрасаюза і «Усходняга партнёрства». У Брусэлі спадар Мартынаў спрабаваў навучыць еўрапейскіх чыноўнікаў «няўхільна выконваць базавыя прынцыпы праграмы Еўрасаюза «Усходняе партнёрства», на што атрымаў справядлівы адказ: палітвязням няма месца ў сэрцы Еўропы. Эксперты мяркуюць, што ўлады Беларусі хацелі стварыць прынамсі бачнасць «запаснога аэрадрому» на Захадзе.**




Паказальна, што летась афіцыйны Мінск са скандалам праігнараваў саміт «Усходняга партнёрства», што ладзіўся ў Варшаве. Цяпер жа Сяргей Мартынаў выправіўся на сустрэчу да зацятых апанентаў беларускага палітычнага рэжыму, дзе прадказальна атрымаў на арэхі. «Мы зноў заявілі аб неабходнасці неадкладнага вызвалення і рэабілітацыі ўсіх палітвязняў, спынення любых рэпрэсій у краіне і правядзення сумленных і адкрытых парламенцкіх выбараў у верасні, — сказала вярхоўны прадстаўнік Еўрасаюза па знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан на прэс-канферэнцыі па выніках сустрэчы кіраўнікоў МЗС краін ЕС і «Усходняга партнёрства» 23 ліпеня ў Брусэлі. — Наша пасланне Беларусі было вельмі ясным і выразным: няма месца палітвязням у сэрцы Еўропы».

У той жа час, адзначыла кіраўнік еўрапейскай дыпламатыі, ЕС захоўвае палітыку крытычнага ўзаемадзеяння з Беларуссю. «Усходняе партнёрства» з'яўляецца важнай платформай для прасоўвання Беларусі да еўрапейскіх каштоўнасцяў. Мы гатовыя паглыбіць наша супрацоўніцтва, як толькі палітычная сітуацыя ў Беларусі зменіцца», — сказала яна.

«Мартынаў выконвае тэхнічную ролю. Не ён персанальна прымае рашэнне ехаць ці не ехаць на падобныя сустрэчы, — гаворыць беларускі палітолаг Алесь Лагвінец. — Лукашэнка аддаў яму загад ехаць, бо для беларускага кіраўніка важна зараз навесці хоць якія масты з Захадам, прынамсі паказаць гэта Расіі. Па тым, што без істэрыкі былі запрошаныя на парламенцкія выбары ў Беларусі назіральнікі ад АБСЕ, можна меркаваць, што рэжым цяпер трэба паказаць сваю зацікаўленасць гульнёй у дыялог». Эксперт падкрэслівае, што беларуска-расійскія адносіны цяпер выглядаюць быццам бы беспраблемнымі, але гэта толькі фасад. Бо толькі Лукашэнку і кіраўніцтву Крамля вядома, што хаваецца за перамовамі, фінансавымі лініямі для Беларусі.

Разам з тым яшчэ на пачатку ліпеня пастаянны прадстаўнік РБ пры ЕС Андрэй Еўдачэнка заявіў, што Беларусь адмаўляецца ад удзелу ў праграме «Еўрапейскі дыялог для мадэрнізацыі Беларусі». «Мы будзем працаваць у рамках толькі тых праграм, якія будуць сумесна распрацоўвацца і ўзгадняцца. Гаворка ішла аб тым, што ЕС распрацуе гэтую праграму ў цесным узаемадзеянні з намі. Другой умовай было тое, што гэтая праграма будзе накіравана на органы дзяржкіравання Беларусі і, у той жа час, на ўсё беларускае грамадства. Ні адна з гэтых опцый не была выканана Еўрасаюзам. Беларускі бок быў не толькі не запрошана да распрацоўкі праграмы, але і дзяржорганы былі ўнесены ў яе па рэшткавым прынцыпе», — заявіў тады беларускі дыпламат.

Калі верыць інфармацыі СМІ, то ўлады Беларусі панічна баяцца дыялогу з Еўропай у абыход іх. Прынамсі пра гэта сведчаць вытрымкі з ліста Мінадукацыі РБ, накіраванага ва ўстановы адукацыі яшчэ ў чэрвені бягучага года. «Паведамляем, што Еўрапейскім саюзам робяцца спробы арганізаваць у Беларусі і за мяжой мерапрыемствы рознай тэматычнай накіраванасці ў рамках так званага «Еўрапейскага дыялогу па мадэрнізацыі Беларусі» (European Dialogue on Modernization of Belarus) з удзелам беларускай апазіцыі, а таксама прыцягнуць да іх беларускія органы дзяржкіравання і іншыя дзяржаўныя арганізацыі, — гаворыцца ў лісце за подпісам намесніка міністра адукацыі РБ Якжыка. — Такія мерапрыемствы не ўзгодненыя з уладамі Рэспублікі Беларусь. У выпадку паступлення запрашэнняў на любыя мерапрыемствы ў рамках згаданага «Еўрапейскага дыялогу па мадэрнізацыі Беларусі» неабходна адмовіцца ад удзелу ў іх, а таксама неадкладна паставіць пра гэта ў вядомасць МЗС».

«Захаванне адносінаў у той ці іншай форме патрэбнае Лукашэнку. Знешняя палітыка Беларусі — мазаічная. Лукашэнка хацеў бы мець адносіны з Еўрасаюзам і адначасова саджаць сваіх апанентаў у турму, — каментуе цяперашнія паводзіны афіцыйнага Мінска Алесь Лагвінец. — Калі заўтра будзе працягнуты працэс вызвалення палітвязняў, то ЕС будзе рабіць нейкія захады ў бок дыялогу. Але, каб вярнуць давер, Лукашэнка мусіць зрабіць вельмі шмат крокаў, што ў прынцыпе нерэальна. Разам з тым у аб'яднанай Еўропе ёсць краіны, якія б хацелі бачыць Беларусь незалежнай, хацелі б уцягваць яе ў сферу еўрапейскага ўплыву. І для гэтага трэба весць перамовы нават з такімі фігурамі, як Лукашэнка». Эксперт падкрэслівае, што еўрапейскія праграмы для Беларусі будуць эфектыўныя, калі іх уплыў будзе адчувальны для простых людзей. «У нас якая логіка выгодаў? — жартуе Лагвінец. — Купіў — прапіў. То бок эфект трэба адчуваць кішэняю».

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# «АРТ СЯДЗІБЕ» НЕ ДАПАМОГУЦЬ

Мікіта БРОЎКА

**Гэта вынікае з адказу, дадзенага на зварот журналіста «НЧ» ва ўпраўленне культуры Мінгарвыканкаму.**




Нагадаем, каля месяца таму культурнай пляцоўцы загадалі вызваліць памяшканне на заводзе «Гарызонт», якое яна займала ўсе 7 месяцаў свайго існавання. Заснавальнікі «Арт Сядзібы» распачалі ў інтэрнэце кампанію салідарнасці — яны заклікалі ўсіх неабыякавых людзей дасылаць звароты ў дзяржаўныя органы з просьбай не высяляць «Арт Сядзібу».

У звароце журналіста «НЧ» утрымлівалася просьба даць магчымасць і надалей развівацца гэтай пляцоўцы і дапамагчы ўстанове ў пошуку новага памяшкання ў сталічных фондах. Тым не менш, у адказе на зварот упраўленне культуры закранула толькі юрыдычны бок адносінаў паміж «Арт Сядзібай» і арэндадаўцам.

«Паведамляем, што будынак гандлёвага дома «Гарызонт» не належыць да аб'ектаў, якія знаходзяцца ў камунальнай уласнасці г. Мінска, у сувязі з чым Мінгарвыканкам не мае паўнамоцтваў па распараджэнні дадзенай маёмасцю. Гэтыя адносіны павінны вырашацца ў межах дзеючых дагавораў паміж юрыдычнымі асобамі», — кажацца ў адказе на зварот.

«Арт Сядзіба» ўжо выселілася са старога памяшкання. Зараз заснавальнікі культурнай пляцоўкі вырашылі зрабіць невялікую паўзу, а ўжо ўвосень яны хочуць пачаць працу ў новым месцы, і, магчыма, у іншым фармаце.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЯШЧЭ АДЗІН ЦВІК У ТРУНУ СВАБОДЫ

Вольга ХВОІН

**Затрыманы КДБ малады журналіст Антон Сурапін даслаў першы ліст сваякам.**

Пасланне, датаванае 22-м ліпеня, прыйшло бацькам у Слуцк. Антон дзякуе за атрыманую перадачу, перадае прывітанне ўсім сваякам, а таксама журналістам-фатографам, «з якімі лётае па рэпартажах». «І смайлік прымаляваны, — цытуе маці журналіста прэс-служба ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». — Там вельмі шмат прозвішчаў, я ўсе не пералічу...» Асобна ў лісце Антона прыпісана: «Усім сябрам БАЖ: Няхай жыве беларуская незалежная журналістыка!».

Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» заклікае ўлады Беларусі неадкладна вызваліць 20-гадовага фатографа Антона Сурапіна і зняць з яго ўсе абвінавачанні.

«Справа супраць Антона Сурапіна — гэта яшчэ адзін цвік у труну свабоды слова і асацыяцый у Беларусі, дзе ілжывыя абвінавачванні часта выкарыстоўваюцца ў спробах прымусіць замаўчаць тых, хто абараняе правы чалавека», — цытуе прэс-служба арганізацыі заяву дырэктара «Міжнароднай амністыі» па Еўропе і Цэнтральнай Азіі Джона Дзелхасэна.

Антон Сурапін быў затрыманы 13 ліпеня супрацоўнікамі КДБ па падазрэнні ў «дапамозе ў наўмысным незаконным перасячэнні мяжы, арганізаваным групай асобаў», яму пагражае да сямі гадоў пазбаўлення волі.

Студэнт Інстытута журналістыкі БДУ Сурапін выклаў у інтэрнэце фатаграфіі цацачных мядзведзяў, скінутых 4 ліпеня над Івянцом і Мінскам са шведскага самалёта, які незаконна перасек дзяржаўную мяжу. Па словах Антона, фатаграфіі яму былі высланыя па электроннай пошце. Акцыя шведаў была праведзена з мэтай падтрымаць свабоду слова ў Беларусі. Арганізатары «плюшавага дэсанту» — прадстаўнікі шведскай піяр-кампаніі Studio Total — заявілі аб недатычнасці беларускіх грамадзян да акцыі.

КАМПАНІЯ

# ЛЯПІС — ПРЫЯЗДЖАЙ ДАМОЎ!

Мікіта БРОЎКА

**Стартуе грамадзянская кампанія «Ляпіс — прыязджай дамоў!». Яе арганізатары хочуць мабілізаваць фанатаў легендарнага гурта, каб нарэшце пераадолець праблему «чорных спісаў».**



Галоўнай мэтай кампаніі з'яўляецца правядзенне бясплатнага канцэрта «Ляпіса Трубяцкога» ў Мінску.

«Пакуль што кампанія знаходзіцца на пачатковым этапе, але фактычна мы ўжо сабралі траціну ад неабходнай нам колькасці людзей, каля 34 тысяч чалавек, — расказаў «НЧ» адзін з кіраўнікоў кампаніі Раман Пратасевіч. — За гэтай ініцыятывай стаіць даволі вядомая суполка ў сацыяльнай сетцы «УКантакце» пад назвай «Надоел нам этот Лукашенко». У першую чаргу гэта ініцыятыва знізу, і мы дапамагаем людзям аб'ядначца, каб яе ажыццявіць. У «Ляпіса Трубяцкога» шмат фанатаў, і, безумоўна, яны ўсе чакаюць канцэрта гурта ў Беларусі. Калі наша сустрэча ў сацыяльнай сетцы «УКантакце» толькі з'явілася, многія людзі не паверылі ў тое, што гэта можа адбыцца. Шмат хто не верыць і зараз, але мы даказам, што гэта магчыма».

Па словах Рамана Пратасевіча, ідэя пачаць такую кампанію з'явілася з-за бяздзейнасці існуючых апазіцыйных рухаў: «Большасць апазіцыйных арганізацый існуюць самі па сабе і кіруюцца толькі сваімі інтарэсамі. Акцыі накшталт выстаўлення «цацачных мітынгаў» не нясуць за сабой нічога, акрамя піяру арганізацый, якія іх праводзяць. Наша ініцыятыва хоча зрабіць хоць нешта для народа».

Раман Пратасевіч кажа, што кампанія не збіраецца абмяжоўвацца толькі «інтэрнэт-барацьбой»: «Напачатку з дапамогай улётак і іншай друкаванай прадукцыі мы будзем даводзіць інфармацыю да тых, хто пра нашу ініцыятыву яшчэ не ведае. Сабраўшы крытычную масу, мы будзем рабіць ужо больш эфектыўныя крокі. Магчыма, гэта будуць вулічныя акцыі і іншыя падобныя формы пратэсту».

Кіраўнікі кампаніі пакуль не бяруцца меркаваць пра яе перспектывы. Але яны спадзяюцца на тое, што канцэрт «Ляпіса Трубяцкога» падштурхне да актыўнай барацьбы тых людзей, якія пакуль яшчэ застаюцца ў баку.

ВІНШАВАННІ

# З НАРОДЗІНАМІ, ШАНОЎНЫ ГЕНАДЗЬ УЛАДЗІМІРАВІЧ!

Генадзь КЕСНЕР

**24 ліпеня споўнілася 62 гады Генадзю Грушавому — чалавеку, якога без прыўкрас ведае палова Беларусі. Доктар філасофскіх навук, прафесар. Але не толькі навуковымі дасягненнямі гэты чалавек ужо ўвайшоў у гісторыю сучаснай Беларусі.**



Генадзь Уладзіміравіч быў дэпутатам легендарнага Вярхоўнага Савета 12-га склікання і ўваходзіў у парламенцкую фракцыю апазіцыі БНФ. Потым абіраўся дэпутатам парламента апошняга, 13-га склікання. У складзе Беларускага народнага фронту «Адраджэньне» Генадзь Грушавы ачоліў камітэт «Дзеці Чарнобыля», які праз некаторы час пераўтворыцца ў найбуйнейшую дабрачынную арганізацыю Еўропы ў галіне дапамогі ахвярам самай страшнай тэхнагеннай катастрофы XX стагоддзя — Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля».

Дзякуючы Генадзю Грушавому і тысячам яго́ных паплечнікаў па ўсёй Беларусі, а таксама ў дзясятках краінаў свету больш за паўмільёна беларускіх дзетак атрымалі магчымасць аздараўленчага адпачынку ў краінах Еўропы, у ЗША і Канадзе, у Японіі ды іншых кутках зямнога шара. Тысячы дзетак атрымалі другі шанс на жыццё пасля складанейшых аперацыяў у найлепшых клініках свету. У Беларусь прыйшлі тысячы тон гуманітарнай дапамогі, медыкаментаў, спецыяльнага абсталявання для нашых лякарняў.

Генадзь Уладзіміравіч з'яўляецца старшынёй Грамадскага аб'яднання "Дзецям Чарнобыля", бо фактычна з недалёкіх часоў нельга ў нас называцца фондам. Але для ўсіх спрычыненых гэтая структура, як і раней, — Фонд «Дзецям Чарнобыля». Родны, любы фонд. З яго таленавітым і любым кіраўніком.

Сёння ў самога Генадзя Уладзіміравіча маюцца сур'ёзныя праблемы са здароўем. Прычым выкліканы яны менавіта Чарнобылем. Але ўсе сябры, паплечнікі і проста людзі, якім дапамог Генадзь Уладзіміравіч, — мы ўсе віншуем яго з Днём нараджэння і жадаем доўгіх гадоў жыцця, папраўлення здароўя, добрага настрою і поспехаў у такой важнай дзейнасці на карысць людзей, якія зведалі ўсе жахі радыяцыйнай навалы. Усяго Вам самага найлепшага, дарагі наш Чалавек!

ПІКЕТ

# ЗНОЎ ЗАБАРОНА

Уладзімір ГУНДАР

**Грамадскасці Баранавічаў шосты раз запар не дазволілі правесці пікет.**

Грамадскі актывіст Рыгор Грык атрымаў ліст № 01-15/78 ад 19.07.2012 г. за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкаму Дзмітрыя Касцюкевіча. У ім паведамляецца, што гарвыканкам на падставе Закону РБ ад 30.12.1997 № 114-З «Аб масавых мерапрыемствах» (у рэдакцыі Закону РБ ад 08.11.2011 № 308-З) не дае згоды на правядзенне пікета 28 ліпеня 2012 года ў старым парку горада.

Гарвыканкам лічыць, што Рыгор Грык парушыў арт. 5 Закона «Аб масавых мерапрыемствах» і п. 4 рашэння Баранавіцкага гарвыканкаму ад 16 чэрвеня 2009 года № 1497. Нягледзячы на вуснае і пісьмовае патрабаванне заяўніка ўказаць, якую канкрэтна норму закона ён парушыў, гарвыканкам традыцыйна адмаўляецца гэта зрабіць.

«Праз пікет я хацеў выказаць пратэст супраць адмовы ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы Дзмітрыя Уса па збору подпісаў па ўнясенні зменаў у выбарчае заканадаўства. Людзі павінны ведаць, што ў нас ёсць грамадскія актывісты, якія хочуць змяніць выбарчыя законы ў лепшы бок, але ўлада не дае ім такой магчымасці», — патлумачыў Рыгор Грык.

Гэта ўжо шостая запар забарона пікету, які збіраўся правесці ў 2012 годзе грамадскі актывіст Рыгор Грык.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## ПАТРЭБНА ДАПАМОГА!

Крысціне Шацікавай, вядомай грамадскай актывістцы, маці дваіх дзяцей, стрыечнай сястры Змітра Завадскага, патрэбна тэрміновае і дарагое лячэнне ад анкалагічнага захворвання. На дадзены момант беларускія лекары папросту адмаўляюцца брацца за складанае лячэнне.

На першую хвалю абвестак адгукнулася шмат людзей. Але сродкаў на лячэнне ў замежнай клініцы ўсё адно катастрафічна бракуе. А гэта — адзіная надзея.

У сувязі з гэтым былі адкрытыя дабрачынныя рахункі ў «Беларусбанку»: Філіял 700/12 №01078260, Шацікаву Валеру Арцёмавічу. Для паштовых пераводаў (па шэрагу параметраў так нават лепш): г. Магілёў, Пушкінскі праспект, д. 63, кв. 207, Шацікавай Крысціне Валер'еўне.

Крысціна будзе вельмі ўдзячная ўсім, хто адгукнецца.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ПРАЛЯТАЮЧЫ МІМА…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«БелКА–2» нарэшце лётае па касмічных прасторах. Пакуль што практычнай карысці ад спадарожніка мала — першыя здымкі Беларусі з космасу мы атрымаем не раней як праз пару тыдняў. Затое прапагандысцкай рыторыкі зашмат.**

«Мы запусцілі свой спадарожнік. Беларусь стала касмічнай дзяржавай, як мы калісьці і планавалі. Усё ж такі космас — гэта найвышэйшыя тэхналогіі. Мы стварылі і новае прадпрыемства, гатовы ўжо самі вырабляць спадарожнікі», — сказаў Лукашэнка.

Кошт праекта па стварэнні і запуску беларускага спадарожніка складае прыблізна 16–17 мільёнаў долараў. Сярод задач, якія будзе вырашаць БКА, — кантроль за надзвычайнымі сітуацыямі, абнаўленне тапаграфічных карт, экалагічны маніторынг навакольнага асяроддзя.

Не, калі гэты спадарожнік — выключна так сабе, «чыста, каб пахваліцца», калі ласка. Але, пэўна, працэй было б далучыцца да іншых сістэм. Вось я днямі набыў сабе смартфон. Дык там ёсць і мапы Гугла, і сістэма GPS, і сэрвісы па прагнозе надвор'я, не кажучы ўжо пра фота і відэаздымку. Падаецца, танней было б запусціць у космас мой тэлефон — ён выконвае такія ж функцыі, што і беларускі спадарожнік. Дарэчы, на яго яшчэ і званіць можна, у адрозненне ад спадарожніка.

Але ж нам зайздросцяць сусветныя лідары. Не паспелі мы паляцець у космас, як з-за зайздрасці, не інакш, беларускаму правадыру нядобразычліўцы зладзілі «пралёт» па-за Алімпіядай. Інфармацыя пра тое, што беларускі кіраўнік не зможа наведаць Лондан, з'явілася 24 ліпеня. У «Твітэры» на старонцы першага віцэ-спікера Дзярждумы Расіі, прэзідэнта Алімпійскага камітэта РФ Аляксандра Жукава з'явілася паведамленне: «Прэзідэнту НАК Беларусі А. Лукашэнку аргкамітэт Алімпіяды ў Лондане не даў акрэдытацыю. Спорт — па-за палітыкай? А што рабіць з алімпійскімі каштоўнасцямі і традыцыямі? Кожны школьнік ведае, што ў Грэцыі на час гульняў заключалі перамір'е».

Якая дробненькая помста за нашы сусветныя дасягненні! Варта адзначыць, што ў нас і без усялякіх Алімпіяд ёсць што паглядзець — і вачыма, і з космасу. 12 ліпеня гэтага года, выступаючы на адкрыцці міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску», Лукашэнка параўнаў яго з маючай адбыцца Алімпіядай. «Па колькасці ўдзельнікаў і разнастайнасці праграмы «Славянскі базар» можа прэтэндаваць на званне летняй культурнай Алімпіяды», — сказаў Лукашэнка.

Паводле яго слоў, на фестывалі дзейнічае галоўны алімпійскі прынцып: мастацтва, як і спорт, па-за палітыкай, на сцэнічных пляцоўках пануе дух сумленнай барацьбы і шчырага захаплення талентам. «Алімпіяда вельмі адстае ад нашага «Базару», яна палітызаваная, там вельмі шмат праблем. А «Славянскі базар» — гэта астравок вальнадумства, незалежнасці, і ў нашага «Славянскага базару» многаму можна навучыцца», — лічыць беларускі кіраўнік.

Кіраўнік Беларусі, дарэчы, у Лондан і не рваўся. Ды і як ён можа пакінуць краіну ў самы гарачы час? Тут у нас авёс закаласіўся, бульба адцвітае, збожжа сыплецца — як у такі час пакінуць краіну? Хакейная клюшка больш на касу падобная, чым усякія скокі ды прабегі. Тут за дзень і так набегаешся без усялякіх Алімпіяд. Тым больш, што мэты ў нас — самыя алімпійскія.

Афіцыйны лідар заявіў пра неабходнасць сабраць сёлета прыкладна 9 мільёнаў тон зерня. «Я маю на ўвазе зерневыя, зернебабовыя, кукурузу. Для нас гэта перамога і забеспячэнне нашых патрэб практычна па ўсіх кірунках», — дадаў ён.

Ён падкрэсліў, што на пытанне якасці «трэба звярнуць асаблівую ўвагу, нельга страціць збожжа». У гэтай сувязі Лукашэнка адзначыў, што даручыў КДК узяць пад кантроль правядзенне ўборачнай. Кіраўнік дзяржавы таксама паведаміў, што найбліжэйшымі днямі плануе, пачынаючы з паўднёвых раёнаў, азнаёміцца з тым, як ідзе ўборка.

Лукашэнка нагадаў, што «калісьці, каб намалаціць мільён тон, прыкладалі проста каласальныя намаганні». «А сёння мільён тон мы намалацілі, яшчэ не ўцягнуўшыся ў масавую ўборку. Гэта амаль не заўважана», — сказаў ён.

Наш лідар выдатна разумее, што залаты медаль з баршчом не з'ясі і на срэбны медаль масла не намажаш. Таму не трэба нам вашых Алімпіяд: галоўнае — так пакіраваць, каб было што з'есці.

Гэта важней, бо Захад нам усё гадзіць і гадзіць. Колькі разоў казалі, што крызісу ў Беларусі няма і быць не можа, а ён, навалач такая, усё не зразумее. Вось і Нацбанк заварушыўся, гледзячы на такое неразуменне.

Намеснік кіраўніка Нацбанку Сяргей Дубкоў адзначае: «Пад уплывам сусветнага фінансавага крызісу пры праяве дысбалансаў у эканамічным развіцці краіны (напрыклад, якія ўзніклі ў 2011 годзе) магчымыя значныя непрадказальныя ваганні ўзаемных курсаў замежных валют».

Так у лёгкай і ненавязлівай форме Дубкоў папярэдзіў народ пра магчымасць чарговай дэвальвацыі беларускага рубля. Бо калі б курс рубля быў зусім стабільным, што нам гэтыя «ваганні валют»? Вось брытанскі фунт, нягледзячы на ўсе скокі еўра і долара, як быў стабільны, так і застаўся. Што перашкаджае і нам так?

Пэўна, толькі падкопы ворагаў, якія спекулююць на ўсім, чым можна: на Алімпіядзе, на курсах долара і на самым святым — на беларускіх выбарах.

Беларуская эканоміка стабілізавалася пасля глыбокага крызісу плацежаздольнасці, выкліканага палітычнымі рашэннямі. Аднак нядаўна абвешчаныя павышэнні заробкаў у бюджэтнай сферы могуць прывесці да новага ўсплёску макраэканамічнай нестабільнасці пасля парламенцкіх выбараў у верасні, гаворыцца ў справаздачы Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця.

Нашы заробкі, бачце, ім перашкаджаюць! Аднак, сапраўды, трэба ўлічыць, што грошы на ўборачную, грошы на выбары, грошы на павышэнне заробкаў не бяруцца з неба. «БелКА–2» іх нам не скіне. Так што трэба жыць па сродках, каб не вякаў ЕБРР.



## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### СЯРГЕЙ ДУБКОЎ

Прадстаўнік кіраўніцтва Нацбанку заявіў, што пад уплывам глабальнага эканамічнага крызісу ў Беларусі застаюцца рызыкі далейшай дэвальвацыі нацыянальнай валюты. Намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Сяргей Дубкоў заявіў, што ў беларускай эканоміцы захоўваюцца высокія валютныя рызыкі, што робіць немагчымым аднаўленне крэдытавання фізічных асоб у замежнай валюце, паведамляе «Інтэрфакс».

«Крэдытаванне насельніцтва ў замежнай валюце ўтрымлівае неапраўдана высокія валютныя рызыкі і рызыку непагашэння крэдытаў у выпадку павелічэння сум плацяжоў да такіх памераў, якія перавышаюць прыбытак крэдытаатрымальніка. Гэта звязана з тым, што грамадзяне атрымліваюць заработную плату ў беларускіх рублях», — сказаў Дубкоў у інтэрв'ю, размешчаным на сайце НББ, каментуючы перспектывы аднаўлення крэдытавання фізічных асоб.

Намеснік кіраўніка Нацбанку таксама даў зразумець, што пад уплывам глабальнага эканамічнага крызісу ў Беларусі па-ранейшаму не выключаецца далейшая дэвальвацыя нацыянальнай валюты, што прывядзе да зніжэння плацежаздольнасці пазычальнікаў у выпадку прыцягнення імі валютных крэдытаў.

Паводле слоў Дубкова, «адмова ад разлікаў у замежнай валюце паміж рэзідэнтамі на тэрыторыі Беларусі — адзін з найважнейшых напрамкаў работы па дэдаларызацыі эканомікі. Гэта спрыяе абароне і забеспячэнню ўстойлівасці беларускага рубля, у тым ліку яго пакупніцкай здольнасці, а таксама ўзмацненню даверу да нацыянальнай валюты».

### АНДРЭЙ АРАМНАЎ



Пераможца Гульняў у Пекіне ў катэгорыі да 105 кілаграмаў (цяжкая атлетыка) Андрэй Арамнаў не зможа паехаць на Алімпіяду ў Лондане з прычыны павялічанай на трэніроўцы траўмы мышцы пярэдняй паверхні сцягна, — паведамляе газета «Прессбол». Разам з тым цяжкаатлет пакуль застаецца ў афіцыйнай беларускай заяўцы на Алімпійскія гульні ў Лондане, паведаміў БелаПАН прэс-сакратар Міністэрства спорту і турызму Уладзімір Несцяровіч.

«Арамнаў стаіць у графіку прылёту. Калі не памыляюся, гэта 4 жніўня. Ніякай іншай інфармацыі няма», — сказаў Несцяровіч.

Сам Арамнаў заявіў, што яго падрыхтоўку сапсаваў галоўны трэнер зборнай па цяжкай атлетыцы Аляксандр Ганчароў, які «ўлез сваімі няўмелымі рукамі ў алімпійскі, ёлкі-палкі, рухавік».

Паводле слоў спартсмена, Ганчароў фактычна прымусіў выступіць яго на Спартакіядзе школьнікаў. «Я да гэтага 20 дзён не трэніраваўся з-за траўмы кісці і, пастаўлены перад фактам абавязковага ўдзелу ў школьнай Спартакіядзе, вымушаны быў фарсіраваць падрыхтоўку. Дык навошта рыхтаваўся алімпійскі чэмпіён — да галоўнага старту чатырохгадовага цыклу ці да дзіцячага ранішніка? Я ж, урэшце, не жалезны… У выніку атрымаў траўму, гаіцца якой трэба 60 дзён. ...Не сумняваюся, што праз два месяцы буду абсалютна здаровы, але каму я буду патрэбны здаровым праз два месяцы — Гульні ўжо пройдуць», — заявіў Арамнаў.

### АНДРЭЙ КІМ



Грамадскі актывіст Андрэй Кім прапануе новую ініцыятыву — пераклад трэйлераў да фільмаў на беларускую мову. «Сябры! Не ведаю, як вы, а я ўвесь час гляджу трэйлеры да фільмаў, звычайна ў арыгінале. А некаторыя мае знаёмыя, не валодаючы англійскай, мусяць глядзець трэйлеры па-руску. Вось я і падумаў, калі мы пакуль не маем магчымасці глядзець прэм'еры кіно на роднай мове, то ніхто не замінае пачаць з перакладу трэйлераў. Трэйлеры папулярных фільмаў, такіх, як «Dark Knight: Rises», маюць дзясяткі мільёнаў праглядаў у свеце і сотні тысяч — па-руску. Ці не цудоўна будзе, калі некалькі дзясяткаў тысяч беларусаў здолеюць паглядзець трэйлер да доўгачаканых блакбастэраў на роднай мове?» — звярнуўся Андрэй у сваім блогу да чытачоў з прапановай прыватна рабіць дубляж замежных кінапрадукцыі.

Сам Андрэй разам з аднадумцамі ўжо падрыхтаваў беларускамоўны трэйлер да фільма «Цёмны Рыцар: Адраджэнне». У Беларусі гэтая стужка будзе ісці ў кіно ад 26 ліпеня.

ДЫСКУСІЯ

# ГРАМАДЗЯНСКАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ ВАЧАМІ САЦЫЁЛАГА

Сяргей НІКАЛЮК

**Па аналогіі з каларытным персанажам з кінастужкі «Карнавальная ноч», я б адважыўся сцвярджаць, што сам факт існавання ці адсутнасці ў Беларусі грамадзянскай супольнасці (далей ГС) дакладна навуцы не вядомы.**




Паводле папулярнага пункту гледжання, яна ёсць, але знаходзіцца ў зачаткавым стане, і адказнасць за гэта варта ўскласці на аўтарытарны рэжым. І сапраўды, ці можна залічыць у шэрагі ГС структуры, створаныя паводле ініцыятывы дзяржавы (БРСМ, «Белая Русь») ці апазіцыйнымі актывістамі? Як першыя, так і другія здольныя функцыянаваць толькі пры ўмове знешняга фінансавання і ў нашу рэальнасць не ўрастаюць.

Звернемся да процілеглага, не такога папулярнага пункту гледжання. Яго прыхільнікі сцвярджаюць, што ў Беларусі грамадзянская супольнасць, безумоўна, існуе, прычым магутная і ўсёпранікальная. Яе не заўважаюць, таму што не там шукаюць. Просты прыклад. Многія гарадскія сем'і маюць сёння ўчасткі зямлі ў садовых кааператывах. Каб іх арганізаваць, людзям неабходна было супольна вырашаць цэлы шэраг пытанняў — ад выдзялення зямлі да арганізацыі аховы. Падлічыць фінансавыя выдаткі ў маштабах рэспублікі (жылыя і гаспадарчыя пабудовы і інш.) не ўяўляецца магчымым, але зразумела, што гаворка ідзе пра дзясяткі мільярдаў долараў. І ўсё гэта з уласных кішэняў грамадзян без дзяржаўнай і спонсарскай дапамогі!

На чыім баку праўда? Без Гегеля тут не разабрацца. Тэрмін «грамадзянская супольнасць» ён упершыню ўжыў у працы «Філасофія права». Паводле вялікага дыялектыка, ГС ёсць мноства грамадзян дзяржавы, якія ўзаемадзейнічаюць паміж сабой па-за сям'ёй з мэтай задавальнення сваіх агульных (своекарыслівых) інтарэсаў. У гэтым сэнсе нашы дачнікі, што супольна вырашаюць пытанні па пракладцы водаправода да сваіх «шпакоўняў», — самыя што ні ёсць тыповыя прадстаўнікі ГС.

Але на гэту праблему існуе і больш сучасны погляд. Звернемся па дапамогу да класіка паліталогіі Ральфа Дарэндорфа. Ён вылучае тры крытэра ГС. Першы — аўтаномія арганізацый (найперш ад дзяржавы). Другі — грамадзянская свядомасць. Як тут ні прыгадаць Джона Кенэдзі: «Не пытай, што Амерыка зрабіла для цябе, спытай, што ты зрабіў для Амерыкі!» Трэці — публічнасць дзейнасці ГС.

## Лазня як сацыяльны інстытут

Нескладана заўважыць, што аб'яднанні дачнікаў двум з трох крытэраў Дарэндорфа не адпавядаюць. Грамадзянская свядомасць дачнікаў за градкамі і газонамі з гномікамі не прагледаецца. А што да публічнасці, то дача — гэта ідэальнае месца для таго, каб схавацца ад усёвідушчага вока дзяржавы.

На думку аднаго з самых арыгінальных расійскіх мысляроў Сімона Кардонскага, моцная грамадзянская супольнасць, якая не імкнецца арганізоўвацца, — адзін з ключавых элементаў нашай (незаходняй) спецыфікі. Яе неарганізаванасць — адваротны бок жорстка арганізаванай дзяржавы. Адносіны паміж дзяржавай і ГС прыкладна такія ж, як адносіны паміж малюнкамі на аверсе і рэверсе манеты. Калі глядзець з аднаго боку манеты (напрыклад, з таго, на якім напісана «дзяржава»), то ГС не разгледзіш. Бачная будзе толькі карупцыя. Калі глядзець з боку ГС, то не відаць дзяржавы: яна распадаецца на дрэнных і добрых чыноўнікаў, з дапамогай якіх можна — ці нельга — «вырашаць праблемы».

Не магу адмовіць сабе ў задавальненні і працытую Кардонскага: «Існуюць агульнараспаўсюджаныя і ўстойлівыя інстытуты грамадзянскай супольнасці: хатняе ці рэстараннае застолле, лазня з дзяўчатамі і без, паляванне і рыбалка, самадзейныя клубы (такія, як гульня ў футбол па суботах у чыноўнікаў мэрыі Масквы), сумесны адпачынак, дачныя супольнасці. У апошняе дзесяцігоддзе вельмі значным інстытутам грамадзянскай супольнасці сталі канфесійныя зносіны. Падчас камунальнай рэвалюцыі фармуецца інстытут «жыхароў аднаго дому».

Асабліва відавочна спецыфіка нашай ГС, калі паглядзець на яе з пункту гледжання спецыфікі нашай дзяржавы, якая палягае ў канцэнтрацыі рэсурсаў для далейшага іх пераразмеркавання па справядлівасці. Адказнай жа за тое, што лічыць справядлівым, а што не, натуральна, з'яўляецца дзяржава ў асобе чыноўнікаў. Яны ж адказваюць і за канцэнтрацыю — а фактычна за адабранне — рэсурсаў у непасрэдных вытворцаў.

Калі даць чыноўнікам волю, то яны забяруць усё (як тут ні прыгадаць Паўночную Карэю). Але ў нас да гэтага не даходзіць, і ўсё дзякуючы ГС. Што такое «лазня з дзяўчатамі і без»? Гэта магутны сацыяльны інстытут па адчужэнні дзяржаўных рэсурсаў на карысць асобных грамадзян. Інстытут лазні — прыватны выпадак інстытута блату ці асабістых сувязяў. У гады пасляперабудовачнага хаосу яго роля ў выжыванні насельніцтва нароўні з несумленнасцю надзвычай узрасла (глядзі табліцу), але і ва ўмовах так званай «стабільнасці» ён здолеў замацавацца на «прызавым» другім месцы.

**ДЫНАМІКА АДКАЗАЎ НА ПЫТАННЕ: «ШТО ЧАСЦЕЙ ЗА ЎСЁ, НА ВАШУ ДУМКУ, СПРЫЯЕ БАГАЦЦЮ?», % (МАГЧЫМЫ БОЛЬШ ЗА АДЗІН АДКАЗ)**

| Варыянт адказу | 12'93 | 01'07 | 03'08 |
|---|---|---|---|
| Асабістыя сувязі | 72 | 43 | 47 |
| Несумленнасць | 56 | 16 | 25 |
| Праца | 37 | 68 | 59 |
| Талент | 32 | 35 | 25 |
| Шанцаванне | 30 | 39 | 34 |
| Адукацыя | 22 | 38 | 32 |

Тут і далей прыводзяцца звесткі паводле НІСЭПД

## Рэінкарнацыя «прывадных рамянёў»

Свой погляд на ГС ёсць і ў дзяржавы. Прывяду цытату з Паслання–2011: «На Захадзе ўкаранілася памылковае меркаванне, нібыта ў Беларусі толькі апазіцыйныя партыі і нефармальныя арганізацыі вызначаюць паняцце «грамадзянская супольнасць». Але гэта ім так хацелася б, мы іх разумеем... Аднак гэта ў корані не правільна. Па-першае, таму што яны нешматлікія і не прадстаўляюць шырокіх пластоў насельніцтва (я пра партыі кажу). А па-другое, у нас ёсць сапраўды масавыя грамадскія аб'яднанні, якія карыстаюцца аўтарытэтам у людзей. Краевугольнымі апорамі нашага грамадства з'яўляюцца Саветы дэпутатаў, прафсаюзы, ветэранскія, моладзевыя і жаночыя арганізацыі».

У вядомым ідэалагічным дакладзе роля пералічаных апор зведзена да забеспячэння сувязі «народа з органамі ўлады». На справе ж мы назіраем адваротную карціну: улада выкарыстоўвае апоры для падвышэння кіравальнасці грамадства, г. зн. у якасці ўласных апор. Асабліва добра гэта заўважна на ацэнцы ўладай ролі прафсаюзаў: «На гэтым этапе федэрацыя як адна з самых масавых, самых патрыятычна настроеных арганізацый павінна выразна вызначыцца: што вы можаце даць дзяржаве, дзе падставіце плячо, якую сферу адказнасці прымеце на сябе? Відавочна, што вам давядзецца адыграць адну з вядучых роляў падчас абнаўлення краіны. Бо менавіта прафсаюзы могуць і павінны мабілізаваць працоўныя масы на прарыў» (даклад Лукашэнкі на VI з'ездзе ФПБ у верасні 2010 года).

Перад намі да болю знаёмыя па савецкіх часах «прывадныя рамяні», з дапамогай якіх камуністычная партыя мабілізавала насельніцтва на выкананне пяцігадовых планаў. Камуністы ніколі не разглядалі прафсаюзы ў якасці добраахвотных аб'яднанняў працоўных для абароны сваіх інтарэсаў. Яны палагоўна заганялі ў прафсаюзы працоўных і службоўцаў для таго, каб імі было прасцей кіраваць. У гэтым сэнсе ў Беларусі нічога не змянілася, бо паміж дзяржавай і прафсаюзамі складаюцца не дамоўныя адносіны, як паміж двума раўнапраўнымі суб'ектамі, а выключна адносіны вертыкальныя па восі начальнік — падначалены.

Зноў звернемся да Дарэндорфа: «Відавочна, што для ўсіх дыктатарскіх дамаганняў структуры ГС — як бяльмо ў воку. Аўтарытарныя кіраўнікі дазваляюць ім існаваць хіба што ў выглядзе прыватных нішаў «унутранай эміграцыі». Гэта, аднак, супярэчыць публічнаму па сваёй сутнасці характару грамадзянскай супольнасці».

Вынікі мэтанакіраванай палітыкі ўлады выразна фіксуюцца ў апытаннях НІСЭПД. Так, у маі 2011 года толькі 1% рэспандэнтаў адзначыў, што з'яўляецца сябрам незалежных прафсаюзаў, у той час як сваё сяброўства ў афіцыйных прафсаюзах адзначылі 43%! Арганізаваныя такім чынам прафсаюзы, насуперак заявам Лукашэнкі, не разглядаюцца грамадствам у якасці пункту апоры. Вось чаму пры адказе на пытанне «З кім вы ў найбольшай ступені звязваеце надзеі на выхад Беларусі з крызісу?» у сакавіку 2012 года прафсаюзы адзначылі ўсяго толькі 3% апытаных.

## Ад прымусу да Burgerlische Gesellschaft

Жыццё, як аднойчы заўважыў Пуцін, — гэта вельмі простая штука. Ці насамрэч ён верыць у прастату жыцця, мне не вядома, але, несумненна, ён хоча, каб так яно і было. Бо складанасць, разнастайнасць, непрадказальнасць — усё гэта атрыбуты ГС, без якіх не магчыма развіццё. За звядзеннем усяго багацця ГС да некалькіх апораў, пра якія ўвесь час нагадвае Лукашэнка, хаваецца той жа страх перад разнастайнасцю жыцця. Адна з задач дзяржаўных СМІ — максімальнае спрашчэнне рэальнасці. Варта прызнаць, што пэўныя поспехі ў гэтым кірунку дасягнуты. На пытанне «Назавіце, калі ласка, грамадскія арганізацыі, аб'яднанні ў Беларусі, якія вы ведаеце, чулі пра іх?» (май 2011 года) толькі 6 арганізацый пераадолелі бар'ер статыстычнай памылкі ў 3%. У лідарах з вялікім адрывам апынуліся БРСМ — 43% і прафсаюзы — 27%. Далей размясціліся «Белая Русь» — 6%, моладзевыя арганізацыі антыўрадавага кшталту — 5%, піянерская арганізацыя і Чырвоны крыж — па 4%. Вось, уласна, і ўсё!

Які самы папулярны шлях прыводзіць беларусаў да сяброўства ў грамадскіх арганізацыях? Па-за канкурэнцыяй — прымус. Яго ў маі 2011 года адзначыў 21% апытаных. На другім месцы апынуўся варыянт: «параілі сябры і знаёмыя» (6%), на трэцім — «параілі родныя» (2%).

Са звычайных (у заходнім разуменні) ГС у нас фармуюцца толькі тыя, што абслугоўваюць жыццёвыя патрэбы насельніцтва. Гэта адбываецца там і тады, дзе і калі нейкія каштоўнасці (права на сваё жыллё і г.д.) пастаўлены вышэй каштоўнасцяў дзяржавы. Апошні прыклад — акцыя пратэсту сябраў садовага таварыства «Быкачана», якія адкрыта выступілі супраць будаўніцтва на тэрыторыі іх таварыства беларуска-кітайскага індустрыяльнага парку.

Здавалася б, у такіх формаў грамадзянскай актыўнасці няма сур'ёзных перспектыў. Ну, пашумяць, магчыма, абароняць свае «шпакоўні» — і на гэтым усё скончыцца. Але не варта забываць, што на радзіме ГС іх будаўніцтва пачыналася з Burgerlische Gesellschaft — г. зн. з таго, што ў нас прынята лічыць мяшчанскім грамадствам, а не з масавых палітычных пратэстаў. Пачынаецца ўсё з высілкаў па наладжванні звычайнага жыцця для сябе і сваіх блізкіх. Толькі такім шляхам магчыма фармаванне асабістых інтарэсаў, без якіх немагчыма ўзаемадзеянне грамадзян паміж сабой па-за сям'ёй з мэтай задавальнення асабістых інтарэсаў.

РАБОЧЫ РУХ

# БАНКРУЦТВА КУРСУ

Вольга ХВОІН

**Лета, сонца, адпачынкі, улады абяцаюць запаветныя 500 доляраў заробку. А ў краіне рэгулярна ўспыхваюць канфлікты на прадпрыемствах. Здавалася б, жыццё наладжваецца, леташні пік крызісу пайшоў на спад, дык чаму рабочыя бунтуюць?**



Вось толькі апошнія выпадкі пратэстаў на буйных прамысловых прадпрыемствах. Каля 200 супрацоўнікаў цэха «Аміяк–3» на ААТ «Гродна Азот» не падпісалі афіцыйнае папярэджанне аб зменах ва ўмовах працы і настаялі на выкліку незалежнай камісіі для атэстацыі працоўных месцаў. Каля 900 чалавек атрымалі папярэджанне з аддзела кадраў — за адмову падпісаць дакумент іх могуць звольніць.

У выпадку адмены старых правілаў работнікі пазбаўляюцца дадатковага 7-дзённага адпачынку за работу са шкоднымі і небяспечнымі ўмовамі працы і даплаты ў памеры 852,74 рублёў за гадзіну працы. Таксама людзей папярэдзілі аб пазбаўленні даплаты за характар і спецыфіку працы ў памеры 1035,47 рублёў за гадзіну працы.

Кіраўніцтва завода «Гродна Азот» афіцыйна паведаміла, што тэрміны дзеяння атэстацыі працоўных месцаў часова падоўжаныя. Пра сітуацыю на прадпрыемстве быў праінфармаваны нават віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Сямашка.

«Як аказалася, папярэднія вынікі цяперашняй атэстацыі, якая праводзіцца на падставе прынятых у апошнія гады нарматыўных дакументаў, істотна адрозніваюцца ад вынікаў папярэдняй, і ў выпадку іх зацвярджэння шматлікія працаўнікі прадпрыемства, выконваючы тую ж працу і ў тых жа ўмовах, пазбавіліся б устаноўленых раней правоў і льгот, — афіцыйна паведамляе прэс-служба завода. — Уладзімір Ільіч (Сямашка — рэд.) аказаў садзейнічанне ў вырашэнні ўзніклай праблемы: 14 ліпеня 2012 было прынятае рашэнне, згодна з якім тэрмін дзеяння вынікаў атэстацыі рабочых месцаў ААТ «Гродна Азот» у адпаведнасці з методыкай 2000 падоўжаны на перыяд да прыняцця канчатковага рашэння па новай ацэнцы ўмоў працы. Адначасова Міністэрству працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь даручана разгледзець прапановы кіраўніцтва і прафсаюзнага камітэта ААТ «Гродна Азот» па ўнясенні змяненняў у Інструкцыю па ацэнцы ўмоў працы пры атэстацыі рабочых месцаў».

Разгарэўся канфлікт з працаўцамі і на «Пінскдрэве» — больш за сотню рабочых вырашылі сысці з афіцыйнага прафсаюза. Падставы — нізкі заробак. «Настолькі цяжкая зараз эканамічная сітуацыя ў рабочых, калі зарплаты ў параўнанні з той працай, якую людзі робяць, такія мізэрныя. Літаральна сёння людзі атрымалі разліковыя лісты, паглядзелі на іх — і ва ўсіх папросту апусціліся рукі. Таму што тыя сумы, якія нам выплачваюць, — здзеклівыя. Бо людзям трэба карміць сваю сям'ю, карміцца самім, выплачваць крэдыты, і ўжо гэта фактычна не толькі немагчыма, але гэта ўганяе людзей у нейкія абавязацельствы, таму што з'яўляюцца даўгі і г.д.», — цытуе Радыё «Рацыя» аднаго з рабочых «Пінскдрэва». Цяпер на прадпрыемстве створаная Рабочая рада (узначаліў яе Дзмітрый Кудранок), якая будзе весці перамовы з адміністрацыяй.

Пратэст з прычыны незадаволенасці заробкамі на пачатку ліпеня разгарэўся і на Бабруйскім заводзе трактарных дэталяў і агрэгатаў — дзве брыгады цэха зборкі трактароў выступілі супраць зніжэння зарплаты, зладзілі «італьянскую» забастоўку. Старшыня мясцовай суполкі Незалежнага беларускага прафсаюза Міхаіл Кавалькоў паведамляў, што людзі праявілі цікаўнасць да неафіцыйнай прафсуполкі, пісалі заявы на ўступленне. «Гэтыя падзеі адбываліся без прамога ўплыву з цэнтральнага офісу прафсаюза. Суполка ў Бабруйску дзейнічае многа гадоў», — адзначае старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Бухвостаў.

Магчыма, гаварыць пра ўстойлівую тэндэнцыю рабочых бунтаў пакуль зарана, але сітуацыя для стабільнай Беларусі з сацыяльнымі білбордамі, што дэманструюць выявы шчаслівых рабочых, нестандартная. Тым больш цікавыя гэтыя працэсы на тле выроўнівання эканамічнай сітуацыі. Відаць, людзі прыйшлі ў сябе пасля леташняга эканамічнага шоку і зразумелі, што, якія б абяцанні ні раздаваў кіраўнік дзяржавы, заробкі за ростам коштаў на тавары і паслугі ніяк не паспяваюць. А звычка да пэўнага ўзроўню жыцця ўжо ёсць.

Добра асэнсоўваючы сітуацыю, Аляксандр Лукашэнка нездарма нацiскае на заробак у эквіваленце 500 доляраў. «Сустракаючыся ўчора з Надзеяй Ермаковай, я запатрабаваў, каб мы ўсё зрабілі для развіцця эканомікі. Нацыянальны банк павінен тут працаваць разам з урадам. На валютным рынку быццам сітуацыя нядрэнная, нягледзячы на сезоннасць. Але трэба бачыць эканоміку. Усе грошы ад эканомікі, — сказаў Аляксандр Лукашэнка падчас рабочай сустрэчы з прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам. — Хацеў бы пачуць, што з заработнай платай. Трэба людзей усё ж такі падцягнуць да 500 доляраў, а далей яны, маючы ўжо нейкую падушку бяспекі — усё ж такі гэта нармальны заробак, — будуць самі зарабляць грошы, і нам можна дыстанцыявацца ад таго, каб зверху нагнятаць сітуацыю з заробкам. Але сярэдняя зарплата ў 500 доляраў — гэта самы мінімум, які павінен быць у нашай краіне».

Катэгарычна супраць штучнага падвышэння заробкаў выступаюць эканамісты — неабгрунтаваная эмісія грашовай масы справакуе чарговы прыступ праблем у эканоміцы краіны.

«У мінулым годзе летам, калі па краіне ладзіліся акцыі маўклівага пратэсту, рабочыя не падтрымалі іх. Эксперты тады казалі, што восенню людзі пачнуць выступаць. Але гэта не спраўдзілася. Цяперашнія пратэсты я не лічу выпадковасцю. Пратэсты ўспыхваюць у розных рэгіёнах, тычацца абсалютна розных прадпрыемстваў. Гэта вынік банкруцтва эканамічнага курсу, што засведчыў мінулы год, — разважае Аляксандр Бухвостаў. — Калі летась яшчэ атрымлівалася стрымліваць рост цэн, людзі мелі валютныя запасы, то цяпер заробкі не паспяваюць за ростам цэн. Самаадчуванне шараговага беларуса як мінімум не палепшылася, а ў многіх рэгіёнах істотна пагоршылася. Я б яшчэ дадаў, што сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў краіне ніколі не вернецца да стану, які быў перад прэзідэнцкімі выбарамі. І гэта будзе вызначаць ход падзей у краіне».

Старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Бухвостаў зазначае, што на многіх прадпрыемствах фіксуюцца «абсалютна зневажальныя, хамскія адносіны кіраўніцтва да рабочых». На думку прафлідара, «гэта таксама індыкатар таго, што адбываецца ў краіне». Бухвостаў гаворыць, што пратэсты працоўных не варта звязваць з пэўнай узроставай катэгорыяй: «І моладзь, і сталыя людзі ўсведамляюць, што сітуацыя ў тупіку, таму ідуць на такія восць меры».

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ЭКАНОМІКА ДВУХ НПЗ



**Днямі на Міншчыне адбыўся адзіны, як раней казалі, палітдзень, тэмай якога была абвешчана выпрацоўка стратэгіі імпартазамяшчэння для сталічнай вобласці. Маўляў, ядзім сваё, паедзем таксама на сваім.**

Тым больш, што на тэрыторыі вобласці і ў самой сталіцы шэраг прадпрыемстваў вырабляе самыя розныя транспартныя сродкі.

Пакуль не атрымоўваецца з легкавым аўтамабілем, але ж гэта пакуль. Хоць праблема гэта патрабуе пільнага вырашэння. Справа ў тым, што сярэдні кошт на ўвезеныя ў Беларусь машыны, дзякуючы падвышэнню імпартных мыт на іх, перавысіў 11 тысяч доляраў — падняўся аж на 40%. А заробкі беларусаў у параўнанні з мінулым годам амаль на столькі ж паменшылі. За 5 месяцаў у краіну завезена 28,2 тысячы легкавікоў, што складае толькі 15% ад колькасці, завезенай у студзені–маі 2011 года.

Чытач, магчыма, памятае, што асабіста Лукашэнка вінавáціў насельніцтва ў тым, што, вылажыўшы мільярд доляраў на аўтамабілі, яно справакавала нестабільнасць на фінансавым рынку, якую давялося аднаўляць надзвычайнымі мерамі. Надзвычайнае, калі гэта тычыцца эканомікі, амаль у кожным выпадку з'яўляецца звычайнай канфіскацыяй сродкаў адных на карысць другіх. У нашым выпадку адбіралі сродкі ў кожнага на карысць дзяржавы. А тое, што дзяржава забірае, ніколі ўжо не вяртаецца.

Карацей, кошты на аўтамабілі і ўсё астатняе начынне выдаткоўвай часткі хатніх бюджэтаў папаўзлі ўверх, а даходная іх частка — уніз. Такім чынам, шанец сярэдняга беларуса набыць адносна новую машыну стаў амаль што мізэрным. Гэта ж не смех, калі аб'ем продажаў зменшыўся амаль у сем разоў. Але ад гэтага заходні аўтамабіль як самы выразны атрыбут беларускай мары не згубіў сваёй прывабнасці. Магчыма, ён, дзякуючы недаступнасці, набыў яшчэ большую папулярнасць.

Калі так, то ў людзей зноў прачнецца цікавасць да ашчаджэнняў, што ва ўмовах рэальнай пагрозы рэцыдыву недаверу да фінансавай сістэмы прывядзе да росту накапленняў наяўнай валюты ў хатніх скарбніцах — панчохах ды слоіках. Справа ў тым, што на ўзроўні спажывецкай, цікавай для хатніх гаспадынь эканомікі, інфляцыя, выкліканая тымі або іншымі дзеяннямі ўрада, успрымаецца як чыстае псаванне грошай. У яго (урада) намеры могуць быць розныя. Прыкладам, мінулагодняе псаванне беларускага рубля мела мэтай падвышэнне канкурэнтаздольнасці эканомікі і стымуляванне росту вытворчасці. Быццам бы гэта і зроблена.

Але ніводная з еўрапейскіх краін ці СНД на такія меры не пайшла. Нават Грэцыя. І нават параўнанне з самымі блізкімі суседзямі ставіць пытанні, на якія здавальняючага адказу афіцыйныя інстанцыі не даюць. Чаму за першае паўгоддзе бягучага года індэкс спажывецкіх коштаў у параўнанні са студзенем–чэрвенем 2011 года склаў 194,1%, а ў РФ — толькі 103,8%, ва Украіне — 101,2%, у Казахстане — 105%? Чаму за паўгода спажывецкія кошты ў Беларусі павысіліся на 10,5%, у Расіі — на 3,2%, ва Украіне — на 0,1%, у Казахстане — на 2,7%. Чаму ў чэрвені бягучага года адносна мая кошты на малочныя прадукты ў Казахстане, Расіі і ва Украіне зменшыліся, а ў Беларусі павысіліся на 0,9–2,5%?



Пытанняў шмат, і на кожнае можна знайсці больш-менш абгрунтаваны адказ. Але наўрад ці знойдзецца зараз ва ўрадзе аўтарытэтная асоба, якая з усёй адказнасцю заявіць, што ў Беларусі дасягнута стабілізацыя. Дакладней, асоба, якой людзі павераць. Бо туману напускаць там столькі жадаючых, што на адзін урад нават зашмат. Пакуль што адна Надзея Ермакова пакутуе ў пошуках найбольш эфектыўных спосабаў для фактычнай канфіскацыі ў насельніцтва грошай, якія друкуюцца для падвышэння заробкаў да 500 доляраў. Якія б ні былі з банкаўскіх служачых спецыялісты, але яны добра ведаюць, што не забяспечаныя таварам ды валютай грошы здольныя падарваць усю эканоміку.

Хоць дзеля гэтага дынаміту не патрэбна. Дастаткова пальцам пхнуць — яна і паваліцца. Калі ведаць, куды пхнуць. А даведацца можна з афіцыйнай статыстыкі. Знешнегандлёвае сальда Беларусі за 5 месяцаў склала плюс 1,514 мільярда доляраў, у тым ліку з краінамі СНД — мінус 4,377 мільярда доляраў, з краінамі Мытнага саюза — мінус 5,999 мільярда, з Расіяй — мінус 6,281 мільярда, з краінамі за межамі СНД — плюс 5,89 мільярда, у тым ліку з краінамі Еўрапейскага саюза — плюс 6,56 мільярда доляраў.

Такім чынам, са шматлікіх краін, з якімі гандлюе Беларусь, для яе важнае значэнне мае Расія. З Расіі Беларусь бярэ ўвесь свой імпарт (нафту), а праз Еўрасаюз прадае нафтапрадукты ўсяму астатняму свету. Праз яго фактычна ідзе ўвесь экспарт.

Адпаведна, уся наша эканоміка зводзіцца да арганізацыі бесперапыннай вытворчасці двух НПЗ. Усё астатняе лёгка выносіцца за дужкі.

МЕРКАВАННЕ

# СЦЕРАЖЫСЯ ЦЯГНІКА!

Яўген БЯЛАСІН

**«Сцеражыся цягніка!» — гэты надпіс на шыльдзе мае сёння для пасажыраў брэсцкага напрамку нечаканую актуальнасць. Але, думаю, «паслугі», пра якія распавяду далей, маюць месца спрэс па Беларусі.**



## Купляйце квіток у купэйны

Вось, напрыклад, трэба чалавеку за дзень абярнуцца па лініі Брэст—Мінск—Брэст. Адзіная найменш стратная магчымасць выехаць туды ў першай палове дня — гэта «фірмовы» цягнік №106 Брэст—Мінск «Буг». Адпраўляецца ён у 6.20. У сталіцы на справы застаецца ладных 6 гадзін, і можна выехаць назад у 17.33 цягнікоm №111 Мінск—Брэст «Берасце». Увечары дома.

Здаецца, усё добра. Але адпачыць у дарозе не давядзецца. Бо «…у нас графік!» (маецца на ўвазе «Графік работы радыёпункта цягніка і ўнутрывагоннай радыёапаратуры»). У цягніку №106 «Буг» «графік» такі: «6.30–7.00 — праслухоўванне службовай радыёінфармацыі. 8.00–10.00 — прагляд відэапрадукцыі. 10.00–10.30 — праслухоўванне музыкальных аўдыёзапісаў».

У цягніках «Буг» і «Берасце», якія курсуюць паміж Мінскам і Брэстам, да нядаўняга часу амаль усе вагоны былі так званыя «сядзячкі». Яно і зразумела: дарога займае нейкіх 4 гадзіны, уладкоўвацца спаць капітальна не мае сэнсу. Усе «сядзячкі» абсталяваныя маніторамі і дзясяткам аўдыёдынамікаў на вагон.

Начальнік цягніка Драпун Сяргей Пятровіч мне так і сказаў у свой час: не падабаецца музыка ў сядзячым вагоне — купляйце квіток у купэйны. А калі я сказаў, што не хачу з-за глупоты іх паслуг пераплачваць грошы, ён ужо адкрыта па-хамску параіў ездзіць другімі цягнікамі.

## Неаплачаныя паслугі

Месяцы з два таму даволі гучную музыку «ўрубілі» а сёмай раніцы. Я акурат заснуў. Да двух не клаўся: давялося рыхтавацца ў паездку, рукапіс вёз здаваць. Падхапіўся, зазіраю ў «рубку». Там маладая дзеўчына. «Выключыце, — кажу. — Я сплю». А яна: «Дык і мне спаць хочацца…» Але потым схамянулася, выключыла.

Аднак найчасцей праваднікі гэтага цягніка апелююць да людзей.

Так было цягам адной з маіх паездак. Па дарозе ў Мінск неяк пераажыў іх фільм. Гук быў слабы, праваднiца не дакруціла, а нікому няма справы, бо ніхто асабліва не глядзіць. Дык удалося паспаць. Пракідваючыся, праўда, на асабліва гучных момантах фільма.

Назад, думаю, лепш сяду на міжнародны «Мінск—Варшава», там ёсць прычапны вагон. Зайшоў, ад'ехалі, а дзесьці без пятнаццаці дзесяць вечара ўключыўся фільм «Свадьба в Малиновке». Правадніца якраз збірае квіткі. Пытаюся ў правадніцы, што збірае квіткі: «Як доўга будзе ваш фільм?» — «Да Баранавіч». — «Не хачу кіно. Хачу спаць». — Тая адразу адпрэчвае: «А ў мяне трыццаць такіх, як вы». І не запрагаючы доўга, у паўабароце да ўсяго вагона: «Людзі! Хто не хоча фільм?» Натуральна, мяне гэта раззлавала яшчэ больш: «Дык вы, — кажу, — галасаваннем хочаце вырашыць, глядзець мне ваш фільм ці не?»

У выніку працэс з-пад кантролю правадніцы выйшаў. Некаторыя і хацелі б мяне падтрымаць, ды ленаваліся. Некаторым, асабліва, хто «пад шафэ», якраз дарэчы прыдалося выпусціць з сябе адпаведную пару.

> Начальнік цягніка Драпун Сяргей Пятровіч мне так і сказаў у свой час: не падабаецца музыка ў сядзячым вагоне — купляйце квіток у купэйны

Гук правадніца зменшыла. Але стрэс узяў сваё. Не магу заснуць. Галава гудзіць. Падымаюся і іду ў купэ гаспадыні лёсу. Кажу: заўтра іду да лекара, бяру бальнічны, а плаціць будзеце або вы, або начальнік цягніка. Бачу: жанчына таксама пераасэнсавала нядаўні інцыдэнт. Спачувае нават. «Графік, — кажа — у нас… Я вось гарбату, каву раздавала…» Але я ж купіў квіток, заплаціў грошы за паслугу. Яна палягае ў тым, каб даставіць маё цела з пункта М. у пункт Б., і нічога болей. У квітку ж не прапісаныя іншыя паслугі. Навошта вы мне даяце супраць маёй волі тое, што я і не купляў.

Карацей, па ўнутранай сувязі паведаміла правадніца начальніку цягніка, што ёсць незадаволены кліент. А тая вырашыла ўсё палюбоўна.

## А што людзі?

Яшчэ на зары абслуговага росквіту чыгуначнікаў-«фірмачоў» я правёў апытанне ў вагоне, дзе стартаваў кінаклуб на калёсах. Па-мойму, вынікі характэрныя для беларускага соцыуму наогул: 18 чалавек не хацелі глядзець фільм, 14 — хацелі, 15-ці было ўсё роўна; трое не разабраліся. Ключавы момант: той, хто не хацеў фільм, не пратэставаў. Гэта вельмі правакуе праваднікоў на тэматызацыю рэаліі: «Вы адзін такі».

Яшчэ адна цікавостка — гэта рэакцыя мужчын. Яны, калі не хочуць глядзець, то спяць, — дрэмлюць, кімараць ніцма або адключаюцца з адкрытым ротам, з аблічам да столі вагона, як да пана Бога. Некаторыя нават храпуць. Пры поўным гуку фільма гэта дапраўды камічна.

## Што кажуць эксперты

Калісьці я тэарэтычна і, галоўнае, практычна займаўся навуковай тэмай «Метады рэлаксацыі на вытворчасці». Пры калектыўным падключэнні да нейкай крыніцы ўздзеяння на пачуццёвыя органы, каб даць адпачынак нервовай сістэме чалавека, вельмі цяжка выбраць прымальную для ўсіх танальнасць, не зачапіць хоць аднаго, не «нагрузіць» чалавека замест псіхалагічнай разгрузкі. Таму мяне шакуе дзікая, месцамі цалкам расцугляная папса, якая ліецца часам з дынамікаў гэтых дыскатэк на калёсах, у якіяператварылі нашы пасажырскія цягнікі. Маю на ўвазе шкоду для мноства людзей, хоць і не буду прыхоўваць: клапоціць найперш уласная раўнавага. Хачу пражыць доўга і якасна.

Паколькі я — асоба зацікаўленая, спашлюся на іншых людзей.

Антон, менеджар па рэкламе брэсцкага гіпермаркету «Еўраопт», патлумачыў наконт музычнага суправаджэння, якое гучыць у іх у месцы масавай прысутнасці людзей: «Фанаграмы нам дасылаюць раз на два тыдні з цэнтральнага офіса ў Мінску. Дыск адразу. Падбіраюць адмыслоўцы. Сэнс: музыка павінна быць нейтральнай. Нягучнай. Пажадана інструментальнай, каб не думалі пра словы. Словы «чапляюць» і таму нагружаюць. Нам галоўнае — не адштурхнуць кліента. Ды і касірак збіць з ліку рознай лабудой нельга».

«А вось на адкрыццё я падбіраў музыку сам, — сказаў Антон. — Натуральна, характар яе быў іншы: мажорны, нават бравурны крыху».

Такая сама вытрыманая музыка гучыць і ў брэсцкай «Кароне». Шмат песень на замежнай мове. Ясна як Божы дзень: незразумелае ў спалучэнні са светлымі, лірычнымі мелодыямі не запускае мозг.

А вось выкладка эксперта навуковай тэлепраграмы «Дыскаверы»: шумавое забруджанне шкодзіць нашаму слыху. Яно замінае сну. Шум — гэта вібрацыя, якая перадаецца барабаннай перапонкай на тры маленькія костачкі ў сярэднім вуху. Тыя перадаюць хвалі руху на спецыялізаваныя валасковыя клеткі ва ўнутраным вуху. Яны пераўтвараюць механічны рух у электрычны сігнал, які па слыхавому нерву трапляе ў мозг. Валасковых клетак — 30 тысяч, яны тонка адладжаныя і неаднаўляльныя, лёгка разбураюцца разавай перагрузкай або доўгім уздзеяннем «таксічнага шуму». Прыкладам, шум грузавіка ў 90 дэцыбел нанясе шкоду слыху праз дзве з паловай гадзіны. Ад траціны да паловы людзей пакутуюць на страту слыху. Калі вы не хочаце апынуцца ў бязгучным свеце, думайце пра тое, што слухаеце».

Летась за вялікія грошы (каля 6 мільёнаў еўра кожная) у Швейцарыі былі набытыя 10 чатырохвагонных электрычак. Цягнікі шмат камфортней за тыя, што ёсць. Крыху большы кошт паездкі цалкам справядлівы. Але прыйшоў і адсюль сігнал. У вагонах гэтых дасканалых цягнікоў усталяваныя маніторы. Яны паказваюць станцыю адпраўлення, станцыю прызначэння, наступную станцыю, пройдзены шлях і іншую карысную інфармацыю. Дык вось, праваднікі падзяліліся: беларускіх пасажыраў швейцарскіх электрычак апыталі… адгадайце з першага разу, на які прадмет. Правільна: ці хочуць яны ў дарозе глядзець фільмы.

## Што ўдалося

Мой шматгадовы досвед размоў вакол гэтай папсы і кінапропу на калёсах паказвае такую статыстыку: на дзясятак пустых і адчэпніцкіх адказаў прыпадае адна адэкватная рэакцыя.

Што ж, чыгунка — гэта дзяржава ў дзяржаве. Але ўвесну я здзейсніў рашучы наступ: напісаў у Беларускую транспартную пракуратуру. Маўляў, парушаецца Закон аб ахове правоў спажыўцоў Рэспублікі Беларусь, артыкул 10, п.п.1, 2 (права спажыўца на свабодны выбар паслугі), артыкул 11 (права на паслугу належнай якасці) і артыкул 12 (абавязкі выконваючага паслугу, што да яе бяспечнасці). Прыйшоў адказ: «апытанні пасажыраў… большасць «за», падбор музыкі ў межах…» Напісаў ліст у Генеральную пракуратуру. На жаль, адказ быў ніжэй чаканага ўзроўню: «Ваш ліст перасланы ў Беларускую транспартную пракуратуру». Хацеў быў учыніць нарэшце іск аб адшкадаванні, але наступным разам абачліва спытаў у касе, ці магу набыць квіток без кіно і музыкі. І адказ быў — так!

Да гэтых цягнікоў пачалі чапляць агульныя вагоны.

Часам чапляюць вагоны з драўлянымі сядзеннямі, часам з мяккімі — але ўсе яны коштам тысяч на дзесяць менш за фірменны сядзячы і ўсе без кіно і музыкі!

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 30 ліпеня, панядзелак

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Час Саюза.
**11.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё « (Украіна). Фільм «Зорныя здрады».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.10** Мультфільмы.
**14.25** «Старыя фатаграфіі». Дак. фільм.
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда». Фільм «Анастасія Стоцкая».
**16.25** Меладраматычны серыял «Пачаць спачатку. Марта» (Расія-Украіна).
**17.20** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Арэна.
**18.45, 23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**21.00** Панарама.
**21.45** Серыял «За ўсё цябе дзякую-2».
**22.45** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**00.05** Дзень спорту.
**00.15** Фантастычны баявік «Віртуознасць» (ЗША).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць выдатна!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Ірына Мірашнічэнка. Адкрыцці».
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Серыял.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Сяргей Шакураў у фільме «Хто стукаецца ў дзверы да мяне…».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік». «Бітва пад Клясціцамі».
**19.05** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання».
**22.15** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Зваротны адлік». «Беларусь 1812. Памылка Напалеона».
**00.20** Праграма «Дэтэктар хлусні».
**01.10** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная передача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Цэнтральны рэгіён».
**14.20** «Зорны рынг». Лепшае.
**15.15** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Дачушка мая». Украіна, 2008 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Пякельная кухня».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Рэгіянальная праграма.
**09.00** Лондан-2012. Футбол. Мужчыны. Сенегал - Уругвай.
**10.40, 19.10, 23.00** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**11.00** Лондан-2012. Баскетбол. Жанчыны. Харватыя - Кітай. Прамая трансляцыя.
**12.45** Лондан-2012. Веславанне акадэмічная. Плаванне. Прамая трансляцыя.
**13.40** Лондан-2012. Тэніс. Бокс. Прамая трансляцыя.
**17.30** Лондан-2012. Цяжкая атлетыка. Прамая трансляцыя.
**19.05** Тэлебарометр.
**19.30** Лондан-2012. Гімнастыка спартовая. Прамая трансляцыя.
**21.10, 21.30** Лондан-2012. Цяжкая атлетыка. Плаванне. Настольны тэніс. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**23.20** Лондан-2012. Бокс. Прамая трансляцыя.

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Пакой смеху».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00** Весці.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** Тэлесерыял «Веру».
**21.25** «Таямніцы следства».
**23.05** Навіны - Беларусь.
**23.15** Закрыццё Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў «Новая хваля-2012». Трансляцыя з Юрмалы.

### НТВ

**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суда».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.20** «Судовы дэтэктыў».
**14.25** «Сярод белая дня» з В. Набутавым.
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.20** «Пракурорская праверка».
**17.20** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** Галоўная дарога.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Серыял «Масква. Тры вакзала».
**21.20** Серыял «Наркатрафік».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Серыял «Глушэц. Працяг».

### EUROSPORT

**00.15** Валейбол: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан: Бразілія - Расія.
**01.30, 04.00** Спартовая гімнастыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Жанчыны. Кваліфікацыйны раўнд.
**02.15, 06.00, 09.30** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Фіналы.
**03.15** Веласпорт: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Жанчыны. Шаша.
**04.00** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Жанчыны. 53 кг.
**07.00, 10.30, 13.15** Алімпійскія гульні.
**07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Алімпійскіягульні: «Ангельскі сняданак».
**12.00** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Папярэднія спаборніцтвы.
**15.30** Веславанне на байдарках і каноэ: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Слалам.
**17.00** Скачкі ў ваду: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**18.00** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Жанчыны. 58 кг.
**19.15** Спартовая гімнастыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**21.15** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні.
**23.45** Гандбол: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан: Швецыя - Нарвегія.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40** Англійская для дзяцей.
**07.45** Казкі для дзетак.
**08.00** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял.
**08.55** Басанож па свеце.
**09.20** Дакументальная гадзіна: «Марцэла», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**10.15** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.45** «Каралева Бона», тэлесерыял.
**11.45** «Апошняя змова Сталіна», дак. фільм, рэж. Філіп Саада, 2009 г., Францыя.
**12.35** Форум (ток-шоу).
**13.25** Размовы эксперта.
**13.40** Кружэлка (музычная праграма).
**14.15** Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 16 серыя.
**15.10** «Лэдзі ўдачы», маст. фільм, рэж. Барбара Сас, 2003 г., Польшча.
**17.00** Дакументальная гадзіна: «Марцэла», дак. фільм, рэж. Гэлена Тршэшцікава, 2006 г., Чэхія.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 33 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Басанож па свеце.
**19.35** Англійская для дзяцей.
**19.40** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Еўропа сёння.
**20.35** Размовы эксперта.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Гісторыя – на вакацыі: «Берасцейская крэпасць. Дзве абароны», дак. фільм, рэж. Галіна Самойлава, 2009 г., Беларусь.
**21.55** Фільматэка майстроў: «Фаду», дак.-музычны фільм, рэж. Карлас Саўра, 2007 г., Партугалія.
**23.25** Аб'ектыў.
**23.50** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 4 серыя.
**00.35** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 31 ліпеня, аўторак

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё цябе дзякую-2».
**10.10** Арэна.
**10.40** Мультфільм «Збанок кашы».
**10.50** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** «Здароўе». Ток-шоў.
**16.15** Серыял «Пачаць спачатку. Марта» (Расія-Украіна). Заключная серыя.
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.50** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё цябе дзякую-2».
**23.00** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Крымінальны баявік «Усё павінны памерці» (Расія).

### Н

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання».
**22.15** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Алімпіяда і Лондан: шлюб па каханні».
**00.20** Праграма «Дэтэктар хлусні».
**01.10** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Дарагая передача».
**08.45** « Фільм «Дачушка мая». Украіна, 2008 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Хлопцы да лямпачкі». ЗША-Францыя, 1995 г.
**15.50** «Ваенная таямніца».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял. Закл. серыя.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** «Кіно»: Я. Лявонаў, В. Нявінны і Г. Польскіх у фільме «За запалкамі», 1979 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Забойная сіла 4». Серыял.
**00.15** «Механічны апельсін».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Рэгіянальная праграма.
**09.00** Лондан-2012. Гандбол. Жанчыны. Швецыя - Нарвегія.
**10.30** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**10.55** Лондан-2012. Баскетбол. Мужчыны. Кітай - Расія. Прамая трансляцыя.
**12.45** Лондан-2012. Веславанне акадэмічная. Плаванне. Тэніс. Прамая трансляцыя.
**15.30** Лондан-2012. Бокс. Тэніс. Прамая трансляцыя.
**17.30** Лондан-2012. Цяжкая атлетыка. Прамая трансляцыя.
**19.05** Тэлебарометр.
**19.10** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**19.30** Лондан-2012. Гімнастыка спартовая. Тэніс. Прамая трансляцыя.
**21.05, 21.30** Лондан-2012. Цяжкая атлетыка. Плаванне. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**22.55** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**23.15** Лондан-2012. Бокс. Настольны тэніс. Прамая трансляцыя.

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Веру».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**11.45** Весці. Дзяжурная частка.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Гарадок». Дайджэст.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** «Веру».
**21.25** «Таямніцы следства».
**23.05** Навіны - Беларусь.
**23.15** «Зорныя ўдовы».
**00.05** «Дэтэктыўнае агенцтва «Іван ды Мар'я».

### НТВ

**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суда».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.20** «Судовы дэтэктыў».
**14.25** «Сярод белая дня» з В. Набутавым.
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.20** «Пракурорская праверка».
**17.20** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «У зоне адмысловай рызыкі».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Серыял «Масква. Тры вакзала».
**21.20** Серыял «Наркатрафік».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

### EUROSPORT

**00.45, 04.00** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Мужчыны. 62 кг.
**01.45, 09.30, 21.30** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Фіналы.
**03.00** Веславанне на байдарках і каноэ: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Слалам.
**04.00, 17.00** Скачкі ў ваду: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**06.00, 19.15** Спартовая гімнастыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**07.00, 10.30, 15.00, 16.55, 20.30, 21.25, 23.45** Алімпійскія гульні.
**07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Алімпійскіягульні: «Ангельскі сняданак».
**12.00** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Папярэднія спаборніцтвы.
**13.45** Акадэмічнае веславанне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Папярэднія спаборніцтвы.
**18.00** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Жанчыны. 63 кг.
**23.00** Футбол: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан: Вялікабрытанія - Бразілія.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.45, 17.00** «Апошняя змова Сталіна», дак. фільм, рэж. Філіп Саада, 2009 г., Францыя.
**08.35** «Час гонару», серыял: 33 серыя.
**09.20** Басанож па свеце.
**09.50** Еўропа сёння.
**10.15** Размовы эксперта.
**10.40, 16.30** Гісторыя – на вакацыі: «Берасцейская крэпасць. Дзве абароны», дак. фільм, Беларусь.
**11.10** «Фаду», дак.-музычны фільм, рэж. Карлас Саўра, 2007 г., Партугалія.
**12.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**12.50** Два на два (тэледыскусія).
**13.15** Дакументальная гадзіна: «Марцэла», дак. фільм, 2006 г., Чэхія.
**14.10** «Афіцэры», дэтэктыўны серыял.
**15.00** Басанож па свеце.
**15.25** Еўропа сёння.
**15.50** МакраФон «Minsk-Mixt–2008»: Канцэрт гурта «B:N:».
**16.15** Размовы эксперта.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 34 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Навігатар.
**19.25** Паляванне на дзівосы.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах.
**20.35** Прыватная калекцыя.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.40** Форум (ток-шоу).
**22.25** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Фотааматар», дак. фільм, рэж. Дар'юш Яблоньскі, 1998 г., Польшча.
**23.30** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Крама».
**00.05** б'ектыў.
**00.35** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**01.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 1 ЖНІЎНЯ, СЕРАДА

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё цябе дзякую-2».
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Каробка перадач.
**11.00** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Мультфільмы.
**15.50** Забаўляльная праграма пра турызм.
**16.20** Лондан-2012. Алімпійскія гульні. Футбол. Егіпет - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**18.30** Адмысловы рэпартаж АТН.
**18.40, 23.50** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё цябе дзякую-2».
**23.00** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Камедыйная драма «Венера» (Вялікабрытанія).

**ОНТ**

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання».
**22.15** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Як знайсці працу».
**00.20** Андрэй Малахаў у праграме «Дэтэктар хлусні».
**01.10** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «За запалкамі», 1979 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял. Закл. серыя.
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.35** «Забойчая сіла 4». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суда з Паўлам Астахавым».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ніна». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** «Табар сыходзіць у неба». СССР, 1976 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Калі ласка, скардзіцеся».
**23.20** «Забойчая сіла 5». Серыял.
**00.15** «Дзіўная справа».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.30** Рэгіянальная праграма.
**09.00** Лондан-2012. Валейбол. Мужчыны. Бразілія - Расія.
**10.30** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**10.55** Лондан-2012. Баскетбол. Жанчыны. Канада - Францыя. Прамая трансляцыя.
**12.45** Лондан-2012. Веславанне акадэмічная. Плаванне. Тэніс. Прамая трансляцыя.
**16.15** Лондан-2012. Веласпорт. Бокс. Цяжкая атлетыка. Прамая трансляцыя.
**19.05** Тэлебарометр.
**19.10** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**19.30** Лондан-2012. Гімнастыка спартовая. Прамая трансляцыя.
**21.25** Тэлебарометр.
**21.30** Спортлато 5 з 36.
**21.35** КЕНО.
**21.40** Лондан-2012. Цяжкая атлетыка. Плаванне. Прамая трансляцыя.
**23.10** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**23.30** Лондан-2012. Бокс. Прамая трансляцыя.

**РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Веру».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**11.45** Весці. Дзяжурная частка.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Гарадок». Дайджэст.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** «Веру».
**21.25** «Таямніцы следства».
**23.05** Навіны - Беларусь.
**23.15** «Тытанік. Апошняя таямніца».
**00.05** «Дэтэктыўнае агенцтва «Іван ды Мар'я».

**НТВ**

**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.05** «Да суда».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.20** «Судовы дэтэктыў».
**14.25** «Сярод белая дня» з Віктарам Набутавым.
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.20** «Пракурорская праверка».
**17.20** «Кажам і паказваем». Ток-шоў з Леанідам Закашанскім.
**18.10** Выратавальнікі.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** ДСерыял «Масква. Тры вакзала».
**21.20** Серыял «Наркатрафік».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

**EUROSPORT**

**00.15** Баскетбол: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан: Туніс - ЗША.
**02.00** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Мужчыны. 69 кг.
**03.00** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Фіналы.
**04.00** Скачкі ў ваду: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**04.00** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Жанчыны. 63 кг.
**06.00** Спартовая гімнастыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**07.00, 10.30, 15.50, 23.15** Алімпійскія гульні.
**07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Алімпійскіягульні: «Ангельскі сняданак».
**09.30** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фіналы.
**12.00** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Папярэднія спаборніцтвы.
**14.00** Акадэмічнае веславанне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**15.00** Веласпорт: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Жанчыны.Гонка на час.
**17.00** Веласпорт: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Мужчыны Гонка на час.
**18.00** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Жанчыны. 69кг.
**19.15** Спартовая гімнастыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**21.30** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Фінал.
**23.45** Скачкі ў ваду: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Сінхронныя скачкі ў ваду 3м Мужчыны Фінал.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак: «Фільм са страшнай назвай».
**07.40** Форум (ток-шоў).
**08.25** «Час гонару», серыял: 34 серыя.
**09.10** Навігатар.
**09.25** Паляванне на дзівосы.
**09.40** На колах.
**10.10** Прыватная калекцыя.
**10.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.45** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Фотааматар», дак. фільм, рэж. Дар'юш Яблоньскі, 1998 г., Польшча.
**11.50** Форум (ток-шоў).
**12.35** Лета з дэтэктывам: «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**13.20** Навігатар.
**13.35** Паляванне на дзівосы.
**13.55** На колах.
**14.20** Прыватная калекцыя.
**14.40** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Крама».
**15.55** Беларусы ў Польшчы «Фотааматар», дак. фільм, рэж. Дар'юш Яблоньскі, 1998 г., Польшча.
**17.00** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 9 серыя.
**17.45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 35 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Чацвёра вушэй у пералеску».
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня».
**20.35** «ПНР дэ люкс», дак. фільм, рэж. Эдыта Врублеўска, 2007 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Побач з намі.
**21.40** «Кароль-вінароб», серыял: 7 серыя.
**22.30** «Бяссонная плынь», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**23.10** Аб'ектыў.
**23.35** Лета з дэтэктывам: «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 8 серыя.
**00.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 2 ЖНІЎНЯ, ЧАЦВЕР

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё цябе дзякую».
**10.10** Тэлестужка АТН «88-й. Алімпійскі».
**10.40** Мультфільм.
**10.55** Камедыйны серыял «Сваты-5».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**15.15, 18.10** Навіны рэгіёна.
**15.25** Мультфільм «Русалачка».
**15.55** Медычныя таямніцы з доктарам А.Цярэшчанкам.
**16.30** Тэлефільм АТН «Рудабельская кветка» цыкла «Зямля беларуская».
**16.45** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**17.45, 23.50** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Гомель - Ліверпуль. Прамая трансляцыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё цябе дзякую-2».
**23.00** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Меладрама «Псіхааналітык» (ЗША).

**ОНТ**

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання».
**22.15** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.20** «Браты і зоркі».
**00.20** Андрэй Малахаў у праграме «Дэтэктар хлусні».
**01.10** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Калі ласка, скардзіцеся».
**08.50** «Табар сыходзіць у неба». СССР, 1976 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Ніна». Серыял.
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.35** «Забойчая сіла 5». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суда з Паўлам Астахавым».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ніна». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** «Алібі». ЗША-Нідэрланды, 2006 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Забойчая сіла 5». Серыял.
**00.15** «Яшчэ не вечар».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.30** Рэгіянальная праграма.
**09.00** Лондан-2012. Футбол. Мужчыны. Мексіка - Швейцарыя.
**10.40** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**11.00** Лондан-2012. Баскетбол. Мужчыны. Францыя - Літва.
**12.45** Лондан-2012. Веславанне акадэмічная. Плаванне. Тэніс. Прамая трансляцыя.
**15.30** Лондан-2012. Бокс. Дзюдо. Веласпорт. Тэніс. Прамая трансляцыя.
**19.05** Тэлебарометр.
**19.10, 22.55** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**19.30** Лондан-2012. Веласпорт. Тэніс. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Лондан-2012. Плаванне. Прамая трансляцыя.
**23.15** Лондан-2012. Бокс. Прамая трансляцыя.

**РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Веру».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**11.45** Весці. Дзяжурная частка.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** «Веру».
**21.25** «Таямніцы следства».
**23.05** Навіны - Беларусь.
**23.15** «Аляксандр Салжэніцын. Выратаванае інтэрв'ю».
**00.15** «Дэтэктыўнае агенцтва «Іван ды Мар'я».

**НТВ**

**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Ахтунг, русіш!».
**11.10** «Да суда».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.20** «Судовы дэтэктыў».
**14.25** «Сярод белая дня» з В. Набутавым.
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.20** «Пракурорская праверка».
**17.20** «Кажам і паказваем». Ток-шоў з Леанідам Закашанскім.
**18.10** «Бывае ж такое!».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Серыял «Масква. Тры вакзала».
**21.20** Серыял «Наркатрафік».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Працяг».

**EUROSPORT**

**00.15** Валейбол: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан: Бразілія - Паўднёвая Карэя.
**01.30** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Мужчыны. 77 кг.
**02.30** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Фінал.
**04.00** Веласпорт: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Мужчыны Гонка на час.
**04.00** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Жанчыны. 69 кг.
**06.00** Спартовая гімнастыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**07.00, 10.30, 15.00, 17.40, 20.10, 20.15, 23.00, 23.30** Алімпійскія гульні.
**07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Алімпійскіягульні: «Ангельскі сняданак».
**09.30** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Фінал.
**12.00** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Папярэднія спаборніцтвы.
**14.15** Акадэмічнае веславанне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Фіналы.
**16.30, 17.45** Веславанне на байдарках і каноэ: Летнія Алімпійскія Гульні. Слалам.
**18.30** Спартовая гімнастыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан. Фінал Жанчыны.
**21.30** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.40, 12.45** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 9 серыя.
**08.25** Побач з намі.
**08.40** «Час гонару», серыял: 35 серыя.
**09.25, 14.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.00, 14.50** Праект «Будучыня».
**10.30** «ПНР дэ люкс», дак. фільм, рэж. Эдыта Врублеўска, 2007 г., Польшча.
**10.50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**11.00** «Кароль-вінароб», серыял: 7 серыя.
**11.50** «Бяссонная плынь», дак. фільм.
**13.15** Побач з намі.
**13.30** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 8 серыя.
**14.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**15.20** «Кароль-вінароб», серыял: 7 серыя.
**16.10** «ПНР дэ люкс», дак. фільм, рэж. Эдыта Врублеўска, 2007 г., Польшча.
**16.25** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**16.35** «Дэструктыўная арганізацыя», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**16.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.05** «Акварыум», серыял: 4 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Час гонару», серыял: 36 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** «Тэра постсавецька. Дагестан» дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.35** «Дранько-Майсюк. Цацачны гандляр з Давыд-Гарадка», рэпартаж.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Паляванне на дзівосы.
**21.45** «Дэфект», тэлесерыял: 9 серыя.
**22.35** «Урок беларускай мовы», дак. фільм.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 9 серыя.
**00.40** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №7 (71) (ліпень)

www.lit-bel.org www. novychas. org

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


Анонс



ДЫСКУРС

## СЭРЦА ПРУСКАЙ ЛІТВЫ

Алесь МІКУС



**Калі параўноўваць літоўскі і беларускі рухі нацыянальнага адраджэння на сутыку XIX і XX стагоддзяў, кідаецца ў вочы, наколькі моцна ў літоўцаў прысутнічала язычніцкая дамінанта. Гэта, нібы праграму, заклаў Сімонас Даўкантас, які ў 1845 годзе ўпершыню па-літоўску напісаў кнігу па гісторыі Літвы «Лад старажытных літоўцаў, гаранаў і жамойтаў», дзе быў вялікі раздзел «Вера старажытных літоўцаў».**

Прапанаваны ніжэй артыкул, прысвечаны важнай для літоўскай нацыянальнай свядомасці гары Рамбін (Rambinas) у Жамойці, пакліканы паказаць, як сівая старажытнасць можа дапамагаць працэсам нацыятварэння, а таксама — як выяўляецца жывая повязь часоў.

З бронзавага веку горы, сярод якіх была і гара Рамбін, утваралі велічную «браму» вышынёй у 30-40 м, паміж стромымі схіламі яе нёс свае воды ў недалёкую ўжо Балтыку Нёман. Рамбін узвышаўся над самай ракой і быў найвышэйшай кропкай наваколля. На ўсход ад яго распасціралася Літва, на захад — хінулася да мора занёманская Прусія.

Рамбін, як мяркуюць, быў цэнтрам пляменнай тэрыторыі скалваў — балцкага племя ў ніжнім Панямонні. Старажытная Скалвія надзвычай пацярпела ў часе крыжацка-літоўскага процістаяння. Да часу Грунвальдскай бітвы за гэтай зямлёй ужо трывала замацавалася была назва «пустэльня» (Wiltnis) — спусцелы абшар паміж двума ваюючымі бакамі.

Мелнскім мірам (1422 г.), які паследаваў за Грунвальдам, гэтая тэрыторыя была адпісаная Нямецкаму ордэну. Немцам яна належала пяцьсот гадоў (Прускае герцагства, Прускае каралеўства, Нямецкая імперыя). Пас зямлі ўздоўж правага, «літоўскага», берага Нёмана атрымаў назву Мемельскага краю (Memelland, Мемель — нямецкая назва Клайпеды і ракі Нёман).

Зямлю, што займела сваю пэўную ўладу, пачалі адразу засяляць каланісты з усходу, з Літвы. Неўзабаве гэтыя тэрыторыі абапал Нёмана храністы ўжо называюць «Малой Літвой», так многа сюды перасялілася літоўцаў. Самі яны да нядаўняга часу называлі сябе Прускай Літвой, або літоўнікамі (lietuvininkai). Але не ўсе — у пачатку XX ст. літоўнікамі ў тым жа Мемельскім краі называла сябе чвэрць жыхароў, яшчэ чвэрць — «мемельляндэрамі» (мемельскімі «тутэйшымі»). І палова — немцамі (пасля паморку ў XVIII ст. сюды перасялілася шмат нямецкіх сялянаў). Такая, сцісла, этнічная гісторыя гэтага краю.

***

У канцы XIX ст. Мемельскі край зрабіўся агменем дзяржаўніцкіх памкненняў літоўцаў. Тут пачалі выдаваць першыя літоўскія газеты — «Аўшра»-Світанак, «Варпас»-Звон. У занёманскіх Тыльжы (літ. Тыльжэ, цяпер рус. Советск) і Рагнеце (літ. Рагайне, рус. Неман) распачынаўся літоўскі рух. Адсюль у забраную Расіяй Літву неслі кніганошы літоўскія друкі. Распаўсюд літоўскай літаратуры ішоў паўз гару Рамбін. У вёсцы Біцяны, што ля падножжа гары, друкарню і вялікі склад літоўскага друку ў сваёй сядзібе ўладкаваў Марцінас Янкус. Яго сядзібу ля Рамбіна ў Літве называюць «Мекай кніганошаў».

Ад 1881 года на Рамбіне літоўнікі пачалі ладзіць шматлюдныя купальскія святкаванні. На 500-годдзе Грунвальда (1910 г.) на Рамбіне ўрачыста пасадзілі дубок, карані якога засыпалі жменямі зямлі, прывезенай прадстаўнікамі з розных мясцінаў Малой Літвы.

У 1923 годзе М. Янкус горача вітаў паўстанне літоўскіх стралкоў, вынікам якога стала далучэнне Мемельскага (Клайпедскага) краю да Літоўскай Рэспублікі. Ад гэтага года М. Янкус стала пасяляецца ў Біцянах. Ён робіцца «ахавальнікам Рамбіна», яго называюць «патрыярхам Малой Літвы». Штогод на Купалле на гару з'язджаюцца тысячы чалавек.

У гонар дзесяцігоддзя незалежнасці Літвы (1928 г.) М. Янкус ставіць на Рамбіне алтар, каб паліць на ім святы агонь. Алтар быў змураваны з камянёў на ўзор «печкі», у нішы якой палаў агонь — каб не заліў дождж. На алтар зверху ўсталявалі пляскаты валун — кутні камень з-пад роднай хаты Янкуса, пабуранай у вайну. На гэтым камяні з адваротнага ад агня боку выбілі «Калюмны». Камень на Рамбін цягнулі чатырма коньмі.

Тады ж Янкус пачынае весці «Вечную кнігу гары Рамбін» (сёння захоўваецца ў літоўскай Нацыянальнай бібліятэцы, важыць амаль 20 кг, гэта найбуйнейшая ў Літве кніга). Першым, на Купалле 1928 года, у кнізе зрабіў запіс мысляр Відунас: «Няхай расце ў літоўскім народзе ўсё добрае, прыгожае, мудрае, справядлівае і трывалае!». У кнігу запісваліся ўсе наведнікі Рамбіна. Сярод іх было шмат замежных дыпламатаў. У міжваеннай Літве была завядзёнка: замежныя паслы, пасля таго як прадставяцца прэзідэнту, ехалі на Рамбін, да Янкуса. Таму Янкуса называлі таксама «Малым, або Другім прэзідэнтам Літвы».

Асабліва памятным быў візіт на Рамбін намесніка Генеральнага сакратара Лігі Нацый (тагачаснага аналага ААН) японца Ятары Сугімуры (Yotaro Sugimura) у 1929 годзе. Тады дачка Янкуса Эльза ў вобразе жрыцы-вайдэлоткі прывяла Сугімуру да прысягі богу Пяркунасу. Вось як яна сама потым гэта апісвала:

«Пасля спеваў уся дэлегацыя, са спадарожнікамі, наблізілася да ахвярніка. Гасцям патлумачылі, што месца ахвярніка — з дахрысціянскіх часоў, калі ў гэтым месцы ў часы старой Літвы пасвечаныя багам літоўкі-вайдэлоткі палілі святы агонь. Мяне прадставілі як сучасную вайдэлотку.

Сугімура, наблізіўшыся да ахвярніка, запытаў мяне, ці павінен ён што рабіць. Тады я яму сказала, што ён павінен прысягнуць старажытнаму літоўскаму Богу Пяркунасу, што будзе заступацца за справы Літвы.

— Добра, — кажа Сугімура, — калі ласка, кажыце словы прысягі, я прысягну.

І я казала, а ён паўтараў такія словы:

— Прысягаю Літоўскаму Богу Пяркунасу, што я ў Лізе Нацый заўсёды буду стаяць за справы Літвы і буду рабіць што толькі змагу, каб Вільня была вернутая Літве. Бог Пяркунас няхай дапаможа мне».

А пра купальскія святкаванні на Рамбіне можна даведацца з успамінаў іншай іх удзельніцы:

«Найперш мяне зачаравалі дзеўчыны ў народных строях і мноства людзей, якія ішлі пехатой, ехалі вазамі, упрыгожанымі кветкамі і зелянінай. На ўездзе ў сасоннік перад месцам урачыстасці стаяла аплеценая зелянінай брама, побач луналі сцягі розных арганізацый. Далей таксама было яшчэ больш такіх упрыгожаных брамаў. Людзей была процьма. Стары М. Янкус запаліў ахвярнік, потым пайшоў у сярэдзіну пляцоўкі запаліць вогнішча, тады ён сказаў сціслую прамову пра значэнне ўрачыстасці і павіншаваў усіх з Купаллем. Я была зачараваная праграмай, у якой былі хоры, пастаноўкі, праграма працягвалася ля вогнішча, дзе адбываліся агульныя спевы народных песень, скокі, гульні.

Працяг на стар. 12 (4) ▸

ПАЭЗІЯ

# НІЛ ГІЛЕВІЧ



## Успамін, ярчэйшы за ўсе іншыя...

*У той далёкі навагодні вечар,*
*Любуючыся, як яна танцуе,*
*Я раптам пераняў яе пагляд, —*
*Такі вымоўны, незвычайны, дзіўны,*
*Якога я ні разу — за паўгода,*
*Як мы пабраліся — не перастрэў.*
*Пагляд якойсь надчалавечай сілы*
*І незямной анёльскай чысціні*
*Мальбоўна заклікаў: «Пабач! Пабач,*
*Якая я шчаслівая, што мы*
*З табой — адно! Што я — твая! Твая!*
*Твая і толькі! Па астатні ўздых!*
*Дык не ўсумніся ж! Ні на міг! Ніколі!..».*
*Уражаны, я ўсхваляваўся нават*
*І ўдзячна паківаў ёй галавой:*
*«Ніколі. Ні на міг. Я знаю — хто ты...».*

*О, той далёкі навагодні вечар*
*І той пагляд! І той яе пагляд!...*
*Пагляд якойсь надчалавечай сілы*
*І незямной анёльскай чысціні.*
*Пагляд, які ніколі больш ужо*
*Не паўтарыўся. Да канца жыцця.*
*Ніколі. Нават і на міг. Чаму?*
*Таму што ён ад Бога быў. Ад Бога!*
*А Бог такое кажа толькі раз...*

2012

## І зноў

*І зноў сыходзіць ноч. І зноў світае.*
*І зноў душу мне праціная боль.*
*Як позна зразумеў ты, што Святая,*
*Святая несла крыж пакут з табой!*

2012

## Звазі…

*Звазі мяне, мой сыне, на магілу*
*Тваёй матулькі. На паклон звазі.*
*Яе – няма, – і я жыву над сілу.*
*Рыўкамі. Ад слязы і да слязы.*

## 1956. Жнівень

*Душа Беларусі балюча трымцела*
*журботнай струной:*
*Праводзілі Коласа ў вечнасць. І мне*
*аказаны быў гонар:*
*На пару з адной маладзенькай*
*паклонніцай Музы Ягонай*
*Пранесці ад плошчы да плошчы*
*жалобны вянок за труной.*

*І вось мы нясем той прыбраны у зелень і*
*кветкі вянок.*
*Трымаем з бакоў, і спадніз трымаем*
*— далонь ля далоні.*
*Як скрушна чарнеецца крэп на вянках у*
*даўжэзнай калоне!*
*Як радасна пальчыкі ціснуць на пальцы*
*мае... «незнарок»!*

2012

## Трыялет

*Сястры Святлане*

*Ні ў аднаго на ўсёй зямлі паэта*
*Такой сястры, як у мяне, няма.*
*І не шукайце гэткі лёс дарма*
*Ні ў аднаго на ўсёй зямлі паэта.*
*Няйначай Маці Божая сама*
*Жывіць мой дух прыходзіць, а не Света.*
*Ні ў аднаго на ўсёй зямлі паэта*
*Такой сястры, як у мяне, няма.*

2011

ЮБІЛЕЙ

# «ЯНКА КУПАЛА ІДЗЕ»

**7 ліпеня споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.**

З гэтай нагоды ў сталіцы Беларусі і ў многіх рэгіёнах краіны адбыліся традыцыйныя чытанні і літаратурныя сустрэчы. Было шматлюдна ў мінскім музеі песняра. А ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адкрылася выстава пад назвай «Мой дружа, Янка». Матэрыялы выставы дазволяць наведвальнікам дакрануцца да гісторыі сяброўства класікаў беларускай літаратуры — Янкі Купалы і Якуба Коласа.

А 6 ліпеня ў Магілёўскай гарадской бібліятэцы адбылася літаратурна-музычная вечарына. Супрацоўнікі бібліятэкі Ірына Цінякова і Святлана Міхальчук з дапамогай аўдыё-відэёпрэзентацыі вырашылі яшчэ раз пагартаць старонкі біяграфіі вялікага беларускага Песняра. Наведвальнікі з цікавасцю паслухалі расповеды аб узаемаадносінах Я.Купалы з Паўлінай Мядзёлкай, а таксама сагу аб Уладзіславе Луцэвіч, з якой паэт звязаў сваё сямейнае жыццё.

Старшыня Магілёўскага аддзялення СБП Мікола Яцкоў у сваім выступленні зрабіў акцэнт на абставінах таго часу, калі каханне паэта трапіла пад чорныя крылы ваеннага ліхалецця, і Купалу давялося займацца пытаннямі беларускага войска. Згадваўся купалаўскі цыкл вершаў «На вайсковыя матывы. Песні на ваяцкі лад», музыку да якога напісаў Мікола Яцкоў. У выкананні Міколы і Алы Яцковых прагучалі песні «Дзе ты, хмелю, зімаваў…» і «А ў бары,бары…».

Заключным і вельмі ўрачыстым акордам вечарыны стала выступленне паэта і барда, намесніка старшыні СБП Эдуарда Акуліна, які звярнуў увагу прысутных на неабсяжнасць Купалавага сусвету, які павінен увайсці ў кожнае беларускае сэрца — каб нам і дыхалася вальней, і жылося лепей. У выкананні Э.Акуліна прагучала некалькі песняў, у тым ліку і вядомая «Янка Купала». І калі ўся зала пачала падпяваць «Янка Купала ідзе — нас за сабою вядзе», адчулася: неўміручае сэрца паэта заўжды з намі. Было, ёсць і будзе.

А надвячоркам 7 ліпеня два дзясяткі магілёўцаў сабраліся на Замкавай гары ля памятнага знака «Машэка», каб адзначыць юбілей Паэта (які расказаў свету кранальную гісторыю пра гэтага асілка). Гучалі вершы Я. Купалы, урыўкі з яго паэм, вершы іншых паэтаў, яму прысвечаныя. А назаўтра прысутных чакала паездка чыгункай у Ляўкі, дзе святкаванне юбілею знайшло свой працяг.

Ул. інф.



Фота Ганны Савічавай

СУСТРЭЧЫ

# ... І ЗНОЎ СВЯТА Ў ВЯЗЫНЦЫ

**Нядаўна Вячаславу Чамярыцкаму, Яўгену Лецку і мне выпала добрая, радасная нагода пабываць у славутай нашай Вязынцы. Зрэшты, такая мажлівасць ёсць заўсёды, але гэтая была прымеркаваная да значнай падзеі.**

Маладзечанскі райвыканкам, пры падтрымцы супрацоўнікаў Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча ажыццявілі высакароднае выданне. У год 130-гадовага юбілею славутага земляка яны знайшлі сродкі, каб напомніць нашай чытацкай грамадскасці асобныя творы яшчэ аднаго свайго земляка. Такім чынам, пабачыла свет кніга Рыгора Семашкевіча «Янка Купала і беларускае адраджэнне». Гэты аднатомнік уключае ўсё лепшае, чым вызначыўся ў навуковай дзейнасці апантаны, глыбокі даследчык, які, на жаль, ужо хутка 30 гадоў як не з намі.

Тэксты падрыхтаваў і ўклаў, напісаў прадмову і зрабіў каментары сучасны натхнёны даследчык з Маладзечна Міхась Казлоўскі, які сёння — адзін з самых дасведчаных, аўтарытэтных краязнаўцаў, навукоўцаў рэгіянальнай гісторыі, літаратуры, культуры і мастацтва, адкрыццём многіх невядомых старонак з яе сутнасці і аблічча пашыраючы ўсведамленне пра наш агульнанацыянальны пласт.

На сустрэчы з бібліятэкарамі, настаўнікамі, вучнямі дружна было падкрэслена: кніга Р. Семашкевіча гучыць і сёння. Бо яна шчырая, заглыбленая і напісана на высокім навуковым узроўні. А да ўсяго пра многае і цяпер можна чытаць як пра адкрыццё. Зразумела, найперш чытачу



маладому. Пра Янку Купалу і Эпімаха-Шыпілу, пра паэта-юбіляра і «Нашу Ніву», пра Ігната Буйніцкага, пра беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе, пра часопіс «Гоман», пра беларускі студэнцкі рух пасля 1905 года ў Пецярбурзе, пра наладжаную там нашымі землякамі выдавецкую справу і іншае, без чаго, можа, справа беларушчыны напрыканцы 19 і пачатку 20-га стагоддзя не набрала б такой моды, не паспрыяла б нашаму нацыянальнаму адраджэнню.

Дададзім, што аднатомнік Рыгора Семашкевіча выдадзены нядаўна ў Маладзечна ва УП «Друкарня «Победа»».

Аўтарам сцэнарыя літсустрэчы была Таццяна Закрэўская. Хораша выступіў ансамбль народнай песні «Харашуха» пры музычнай маладзечанскай школе, а да свету паэзіі прысутных дакранула чытальнік вершаў Наталля Фандорка, што ўсё разам прыўтварыла вечарыну ў свята.

Тым больш, што да ўсяго быў прадстаўлены новы № 14 гісторыка-краязнаўчага і літаратурна-мастацкага альманаха «Куфэрак Віленшчыны».

Генрых Далідовіч

САЮЗ

## ДЗВЕ «СТРОМЫ»...

**Магілёўскае абласное аддзяленне ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» выпусціла другі і трэці нумары літаратурна-мастацкага бюлетэня «Дняпроўская строма» (за травень і чэрвень).**

Бюлетэнь расказвае пра ўдзел сяброў аб'яднання ў паэтычных імпрэзах у Магілёве і па-за межамі роднага горада. Трэці нумар «Дняпроўскай стромы», які выйшаў ужо на «вялікафарматных» 4 старонках, прысвечаны паэту Алесю Пісьмянкову, ураджэнцу вёскі Бялынкавічы, што на Магілёўшчыне. У ім змешчаны матэрыялы, падрыхтаваныя паводле вынікаў паездкі магілёўскіх літаратараў на першае абласное свята паэзіі і аўтарскай песні ў гонар паэта «Пісьмянкоў луг».

## І ТРЭЦІ «ВЫТОК»

**Убачыў свет чарговы выпуск бюлетэня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў і лунінецкага творчага клуба «Муза» — «Выток №3(29)».**

У датаваным ліпенем нумары змешчаны інфармацыя аб мерапрыемствах апошніх месяцаў з удзелам сябраў філіі ў Брэсце і Лунінцы, аб вечарыне Алеся Каско ў Ганцавічах, сёлетніх Днях беларускай і шведскай паэзіі, вершаванае прысвячэнне Івану Арабейку, расповеды Леаніда Хведарава аб прэзентацыі ў Берасці чарговага нумара часопіса «Верасень» і Надзеі Ладаражанка — аб вечарыне да Сусветнага дня паэзіі, матэрыялы аб прэзентацыях новай кнігі прозы Міколы Сянкевіча «Незваротны шлях» і зборніка ўспамінаў «На абпаленых крылах», успаміны Міхася Маліноўскага пра баранавіцкага паэта Анатоля Станкевіча (якому сёлета споўнілася б 75 гадоў), агляд Віталя Дымава дзейнасці літаратараў і творчых асоб Лунінеччыны за апошнія паўтары гады.

Вадзім Жылко

ЛЕКТОРЫЙ

# ПЕСНІ СВАБОДЫ

## ДА 110-ГОДДЗЯ АДНАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

Алесь АКУЛІЧ

**Беларускае друкаванае слова, з'явіўшыся адным з першых у славянскім свеце яшчэ на світанку XVI стагоддзя, на пачатку стагоддзя XX мусіла адраджацца з неймавернымі цяжкасцямі, нелегальна.**



Родавая сядзіба Іваноўскіх Лябёдка

Нашая літаратура была крэўна спалучана з ідэямі, ідэаламі, духоўнымі і сацыяльнымі запатрабаваннямі свайго народа, нацыі. Этапы духоўнага, свядомаснага, нацыянальнага станаўлення беларусаў, як і этапы станаўлення беларускай дзяржаўнасці, гарманічна высвечваюць і этапы развіцця літаратуры.

Так, перыяд станаўлення ўласнабеларускай літаратуры (XIV–XV стагоддзі) увекавечваў фармаванне старабеларускай дзяржаўнасці і старабеларускай народнасці: летапісы вялікіх князёў літоўскіх; эпоха Адраджэння асацыюецца з постацямі Ф. Скарыны, Я. Вісліцкага, М. Гусоўскага.

Не стала выключэннем і XX літстагоддзе, якое непарыўна звязана з ідэямі нацыянальнага адраджэння. Больш за тое, менавіта яно тую ідэю нарадзіла, выпеставала і данесла народу. Якраз беларуская літаратура на пачатку мінулага стагоддзя першай узднімала праблемы сацыяльнай і палітычнай свабоды свайго народа, ідэі нацыянальнага самавызначэння і новага дзяржаўнага адраджэння. Уздым грамадска-культурнага руху ў колішняй Расійскай імперыі на тэрыторыі беларускіх земляў, як і ўздым выдавецкай справы, як і зараджэнне беларускіх палітычных рухаў і партый, пачыналіся ва ўлонні літаратуры.

У XX стагоддзі да адраджэння беларускай нацыі і дзяржавы, да распрацоўкі беларускай літаратурнай мовы і яе граматыкі першымі спрычыніліся беларуськія пісьменнікі. Яны стварылі першыя беларускія газеты і выдалі першыя беларускія буквары і чытанкі. Урэшце, гэта яны — беларускія пісьменнікі — распачалі нацыянальна-вызвольны рух на абшарах Расійскай імперыі, гэта яны былі першымі палітыкамі і дзяржкіраўнікамі Беларусі, і гэта яны сталі першымі кіраўнікамі і Беларускай Народнай Рэспублікі (Вацлаў Ластоўскі), і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (Цішка Гартны). Перад беларускім літаратарам пачатку XX стагоддзя стаялі адразу дзве маштабныя задачы: уласнаэстэтычная, мастацкая, і грамадская, дзяржавабудаўнічая.

Як у кожнай з'явы ёсць свой пачатак, ёсць ён і ў нашай літаратуры XX стагоддзя. І пачатак той не быў увянчаны спрыяннем ці дзяржаўным клопатам. Не было беларускай граматыкі, а самае найістотнае — беларуская мова забаронена ў афіцыйным ужытку. І будзе, напэўна, цікава даведацца (пра гэта не пішацца ў падручніках) аб тым, што першай «літаратурнай» беларускай кнігай XX стагоддзя стала выдадзеная ў Пецярбурзе кніга А. Ельскага «Слова аб праклятай гарэлцы і аб жыцці і смерці п'яніцы. Добраму Беларускаму народу, на пакраплення яго душы і розуму». А затым...

Усё пачалося з таго, што Вацлаў Іваноўскі, студэнт Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута, купіў у 1902 годзе гектограф (спрошчаны друкарскі апарат для атрымання копій — да 100 асобнікаў — з напісанага ці надрукаванага тэксту), ахвяраваўшы на свой набытак заробак са студэнцкай практыкі.

Першае выданне В. Іваноўскага і заснаванай ім Беларускай рэвалюцыйнай партыі — адозва «Да інтэлігенцыі». Адна з галоўных думак, выказаных у ёй, — неабходнасць стварэння граматыкі беларускай мовы і працы па абуджэнні нацыянальнай свядомасці нашага народа (адозва выйшла па-польску). Затым быў нелегальна аддрукаваны часопіс «Свабода», які меркавалася ператварыць у орган Беларускай рэвалюцыйнай партыі. Ручную матрыцу «Свабоды» на восем абачынаў зрабілі Вінцэнт Валейка (пецярбургскі гімназіст, зямляк Іваноўскага — нарадзіўся ў фальварку Галавічполь, побач з Лябёдкай Іваноўскіх) і сябар Польскай партыі сацыялістычнай Мілер. Увесь неабходны матэрыял сябры перавезлі ў сядзібу Іваноўскіх, дзе, па традыцыі, усе сямейнікі збіраліся на святы Вялікадня і Божага нараджэння. Там падчас калядных вакацыяў 1902 года і было надрукавана 200 асобнікаў першага нумара «Свабоды». «Свабода» адкрывалася двума артыкуламі пра палітычныя варункі і нацыянальную свядомасць беларусаў ды вершам «Добрыя весці» Уладзіслава Сыракомлі.



В. Іваноўскі ў перыяд выдання «Свабоды»

На тым жа гектографе былі нелегальна выдадзены і «Калядная пісанка» (1903 г.) ды «Вялікодная пісанка» (1904 г.), у якіх змешчаны вершы Алаізы Пашкевіч, Каруся Каганца і іншых паэтаў, а таксама пераклад апавядання Стэфана Жаромскага.

Значнай падзеяй пасля выхаду ў свет некалькіх сотняў такіх сшыткаў стала легальнае выданне ў 1903 годзе ў польскай друкарні К. Пянткоўскага (Пецярбург) зборніка вершаў Яна Неслухоўскага (Янкі Лучыны) «Вязанка» і кнігі «Казкі» накладам у 5 000 асобнікаў кожная.

«Казкі» падрыхтаваў да друку беларускі пісьменнік, мастак, грамадскі дзеяч Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец) — пра гэта сведчыць спецыфічны правапіс (апострафы замест памякчальных знакаў). Ідэя ж выдання беларускіх казак належала В. Іваноўскаму, які пазнаёміўся з Карусём Каганцом у яго нага брата, лідскага лекара Амброжыя Кастравіцкага. Апошні фінансаваў выданне кнігі (яго ініцыялы былі пазначаны на тытульнай старонцы — «А.К.»).

В. Іваноўскі натхніў на кнігавыданне і малодшага брата жонкі А. Кастравіцкага Сцяпана Багушэўскага, на той час студэнта кракаўскага Ягелонскага універсітэта. Багушэўскі прыцягнуў да супрацоўніцтва свайго сябра з часоў гімназічнай вучобы ў Менску Мар'яна Фальскага (будучага беларускага перакладчыка прозы і аўтара аднаго з лепшых польскіх лемантароў).

У 1904 годзе выйшаў томік беларускіх вершаў «Песні». Ён прызначаўся найперш дзеля адраджэнска-рэвалюцыйнай агітацыі і таму друкаваўся ананімна (зборнік складаўся з твораў Ф. Багушэвіча, А. Пашкевіч і Каруся Каганца). Да выдання зборніка вершаў зноў спрычыніліся В. Іваноўскі з ужо згаданымі Карусём Каганцом, С. Багушэўскім і М. Фальскім. Выйшлі «Песні» ў Кракаве, дзе С. Багушэўскі і М. Фальскі выдалі яшчэ кнігі «Янка Музыкант» (пераклад апавядання Генрыка Сянкевіча), «Да свайго Бога» (пераклад з Стэфана Жаромскага) і «Ведзьма» (невядомага аўтара). Грошы на выданне В. Іваноўскі атрымаў ад сястры сваёй нявесты, славутай піяністкі Кацярыны Ячыноўскай...

***

12 снежня 1904 года цар Мікалай II падпісаў указ, які здымаў ранейшыя абмежаванні на выкарыстанне мясцовых моў у «дзевяці заходніх губернях Расійскай імперыі», сярод якіх значыліся Віленшчына, Меншчына, Гродзеншчына і Магілёўшчына. Указ надаваў свабоду і беларускаму друкаванаму слову.

Для пашырэння кнігавыдання цяпер патрэбна было ўжо сваё выдавецтва. Не атрымаўшы мецэнацкай дапамогі, беларускія асветнікі заснавалі на прынцыпах акцыянернага таварыства выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў наша ваконца». 1 студзеня 1906 года ў ёй налічвалася каля 45 удзельнікаў з укладамі па 10 рублёў. Была ўтворана і ўправа з сямі «сяброў-заснавальнікаў», якія ўнеслі 250 рублёў. Агульны капітал суполкі складаў на пачатку 1906 года 700 рублёў, што і дазволіла распачаць мэтанакіраваную выдавецкую дзейнасць. Старшынёю ўправы быў абраны В. Іваноўскі, сакратаром — пецярбургскі служболец Уладзіслаў Сталыгва, сябрамі ўправы — прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла, жонка Іваноўскага Сабіна і яго старэйшы брат Юры (інжынер-тэхнолаг), настаўнік школы пры лютаранскім храме Св. Пятра Уладзіслаў Калашэўскі і Вінцэнт Валейка, на той час ужо студэнт Горнага інстытута.

Першынцам выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» стаў «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання», напісаў які Карусь Каганец.

На першым этапе (паводле натарыяльнай дамовы ён працягваўся да 1908 года) асноўную рэдакцыйную працу выдавецкай суполкі выконвалі В. Іваноўскі і Б. Эпімах-Шыпіла. У аддзеле рэдкіх кніг і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь захоўваюцца лісты супрацоўнікаў суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», у якіх дэталёва перададзены этапы падрыхтоўкі першага беларускага буквара XX ст.

У траўні 1906 года Карусь Каганец атрымаў ад выдавецкай суполкі афіцыйнае запрашэнне да працы. Па даручэнні В. Іваноўскага ліст пісаў В. Валейка: «<…> Хай Пан напішэ ксёнжку для дзяцей па-беларуску. <…> Толькі хай яна будзе ў 2-х часьцях, каб не надта вялікая. <…> На пачатак прысылаю 10 рублёў за работу. Хай Пан напішэ, колькі будзе стоіць напісанне. За работу плаціць ні Войцік (г.зн. Вацлаў Іваноўскі. — А. А.), ні я, а беларуская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца». <…> Хай Пан не баіцца пісаць, колькі вартуе Панскі труд. <…> Мо вы, Пане, маглі б зрабіць рысункі да ксёнжкі? Добра было б. пішыце і прысылайце першу палову ксёнжкі пад адрасам: С. Петербург, 6-я рота 10, кв. 3. Вацлаву Іваноўскаму».

Карусь Каганец адразу ж возьмецца за работу. «Даўней вучылі чытаць год або два, а цяпер і ў два месяцы навучыш, — пісаў ён у прадмове да лемантара. — Не паказывай зараз усіх знакаў, а так, як тут напісана: знак за знакам, і адразу вучы чытаць цэлы сказ і слова, склад за складам. Ня так, як раней вучылі: бэ-а — ба, а зразу: б-а — ба...». Гэты метадычны прынцып К. Каганца аднавіўся і сёння плённа выкарыстоўваецца ў педагагічнай практыцы — да прыкладу, у новым «Буквары» Анатоля Клышкі.

А затым нацыянальнае сонца пачало заглядваць у беларускія вокны часцей і смялей...

### ЖНІВЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы чакаюць сваіх юбілеяў сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



07.08.1947 — Лявон Пятровіч Неўдах
07.08.1932 — Адам Восіпавіч Мальдзіс
09.08.1967 — Уладзімір Аркадзевіч Клімовіч
20.08.1962 — Галіна Міхайлаўна Дубянецкая
20.08.1952 — Дзмітрый Альбертавіч Падбярэзскі
31.08.1947 — Алег Васільевіч Кавалёў (Алесь Цвік)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

ДЫСКУРС

# СЭРЦА ПРУСКАЙ ЛІТВЫ

◂ Працяг. Пачатак на стар. 9 (1).

Частавалі чорным хлебам, кавай, літоўскім кумпяком. Я звярнула ўвагу на прычэпленыя кілбасы на вышыні галавы, іх было вельмі шмат, а таксама вялікія боханы чорнага хлеба, пірагоў. Там не было прыгожа зробленых бутэрбродаў. Купляеш кавалак хлеба, кілбасы ці пірагу і сам робіш, або кусаеш таго і таго».

У 1938 годзе літоўская ўлада ўзнагародзіла М. Янкуса ордэнам Гедыміна. А праз год Нямеччына праз ультыматум забрала ў Літвы Мемельскі край. Алтар Янкуса быў знішчаны, сам ён, 80-гадовы, выехаў да Коўна, везучы з сабой толькі «Вечную кнігу гары Рамбін». У канцы вайны, ужо ад Чырвонай арміі ён выехаў углыбкі Нямеччыны, падзяляючы лёс тысячаў сваіх раскіданых землякоў — мемельляндэраў і прускіх немцаў. Такая грамадска-палітычная гісторыя гэтага краю.

***

Лёс, які напаткаў і алтар Янкуса, і жыхароў Малой Літвы, быў, аднак, наканаваны. Яго вызначыла сакральная гісторыя Рамбіна.

Ад няпамятных часоў Рамбін быў культавым цэнтрам наваколля. У XIV ст. побач з Рамбінам згадваецца святы гай. Храніст XVI ст. адзначаў, што Рамбін у народзе лічыўся святой гарой. Па звестках XVIII ст., маладыя, пашлюбаўшыся, уздымаліся на гару з кветкамі, пакідалі нешта ў ахвяру. У пачатку XIX ст. на гары знаходзілі залатыя ланцугі, паясы, бранзалеты і срэбныя міскі. Маркуюць, гэта маглі быць упрыгожванні рамбінскіх жрацоў і посуд на ахвяры.

Рамбін быў прадказальнікам надвор'я. Гліняныя і вапнавыя часцінкі ў грунце назапашвалі вільгаць, і пры змене надвор'я колер голых схілаў гары мяняўся. На сухое надвор'е Рамбін рабіўся светла-жоўтым, на дождж — цёмна-чырвоным і ахутваўся туманом. Тут мянялі свой кірунак вятры.

На Рамбіне ляжаў вялікі святы камень. Дыяметрам ён быў 10 м. Вышыню меў спусцістую — 2,5 м з паўночнага боку і 1,5 м — з паўднёвага. Звернуты паверхняй да сонца, камень адбіваў яго промні і на світанку ды надвячоркам рабіўся залацістым. На камяні былі адмеціны чалавечай далані і ступні, звярыных лапаў, а таксама выбіты меч. Паданне казала: шчасце не пакіне краю, пакуль ляжыць камень, але гара зруйнуецца, калі камень хто возьме.

У 1811 годзе млынар Шварц (ням. «чорны») разам з памагатымі пакалолі камень, а з буйнейшага кавалку Шварц зрабіў сабе жорны. Мясцовае паданне кажа, што рамбінскія лаўмы (жаночыя духі, русалкі) паказаліся былі і прасілі гэтага не рабіць, а калі іх не паслухалі, развіталіся з гарой, селі ў човен, пераплылі Нёман і праклялі злачынцаў. Неўзабаве Шварца знайшлі патрушчаным паміж зуб'ямі яго жорнаў.

Затым насталі вялікія абрушэнні Рамбіна. У 1835 годзе ў раку абвалілася частка гары, дзе ляжаў камень і была акружаная з чатырох бакоў валамі пляцоўка. У 1878 годзе рака знесла апошнія рэшткі гары. З таго часу Рамбінам пачалі называць такі ж высокі пагорак побач.

***

У падсавецкай Літве вогненны ахвярнік на гары Рамбін аднавілі — яго ў чалавечы рост змуравалі з камянёў. Ля алтара ляжаў камень з «Калюмнамі», што застаўся з Янкусавых часоў. Ад 1990-х гадоў рамбінскі алтар запальваўся рэгулярна, на гары збіраліся сябры Таварыства літоўнікаў, ладзіліся абрады па ўшанаванні гары, агня, продкаў.



Рамбін на сутыку XIX і XX ст. На гары — зялёна-бела-чырвоны сцяг літоўнікаў. Угару ўздымаюцца ўдзельнікі купальскіх святкаванняў



Марцінас Янкус са старэйшай дачкой Эльзай ля ахвярніка

Але і гэты ахвярнік напаткаў лёс сваіх папярэднікаў. Мінула 200 гадоў, і летась яго зруйнавалі. Гэтым разам — нібыта з канструктыўнай матывацыяй. На яго месцы 23 чэрвеня 2011 года, на Купалле, урачыста адкрылі скульптурную кампазіцыю — тры рознага памеру па-мастацку апрацаваныя камяні мусяць сімвалізаваць старажытную трыяду багоў — якую, напрыклад, у прусаў складалі Патрымпс, Пяркунс і Паталс. Побач з камянямі — узняты над зямлёй жалезны лапік, каб запальваць на ім невялікі агонь.



Удзельнікі V з'езда літоўнікаў у 1993 г. ля алтарнага агня. (Фота А. Стубры)



Скульптурная кампазіцыя, пастаўленая ў 2011 г.

Аўтар кампазіцыі — вядомы скульптар Рэгімантас Мідвікіс, які пры стварэнні кансультаваўся з клайпедскім археолагам В. Вайткявічусам (дарэчы, аўтарам фундаментальнага збору сакральных месцаў «Жэмайція», у якім апісаны і Рамбін). Іншы вядомы даследнік старажытнасцяў Л. Клімка, які прамаўляў на адкрыцці, адзначыў: «Розныя балцкія плямёны маглі звяртацца да сваіх багоў у малітвах з рознымі імёнамі або іх эўфемізмамі. Гістарыяграфічныя крыніцы сцвярджаюць, што ў Прусіі — гэта Патрымп, Пяркун, Патал; у Літве — Дзіевас, Пяркунас, Велінас [Бог, Пярун, Вялес]».

Чуваць і галасы, незадаволеныя перастаноўкамі на Рамбіне (напрыклад, на інтэрнэт-партале baltai.lt допіс этнапсіхолага Лютаўраса Бальсіса, лідэра супольнасці «белых ведуноў»). Тыя, хто непасрэдна спрычыняўся да жывых абрадаў на Рамбіне, незадаволеныя перайначваннем ужо сфармаванай за дзесяцігоддзі сакральнай прасторы на прастору пад турыстаў. Як і шмат дзе яшчэ ў сакральных месцах Літвы, тут усталявалі тлумачальныя стэнды, пазначылі сцежкі, паставілі смятніцы. Абурэнне таксама выклікае непавага да месца перабывання абрадавага агня — і тое, што ранейшы, намолены ўжо ахвярнік узялі і разбурылі, і тое, што на новым «ахвярніку»-лапіку месца для агня шмат меншае. Асабліва важна — наноў месца парадкавалі не дзеля жывога асваення прасторы, як раней, а ў рамках праграмы ўпарадкавання турыстычна значных аб'ектаў (на гэта былі выдзеленыя сродкі Еўрасаюза).

***

Зрэшты, мо' лёс Рамбіна і яго камня, яго алтароў — міфічнае ажыццяўленне сэнсаў, закладзеных у старажытнасці праз назвы?

Перад утокам у мора (у Куршскую затоку) магутны, велічны Нёман разбіваецца на дзесяць рэчак, утвараючы дэльту.

Нібы «разломваецца» (lamėti) — ці не адсюль старая назва гэтай прыбярэжнай зямлі — Ламата? Нібы «расколваецца» (skalėti) — ці не адсюль і назва саміх скалваў?

Назва Рамбіна (ад rambus — збіты, зацвярдзелы, гузаваты) адсылала б да вобразу першаайка ў бязэдным моры, што мае разламацца-раскалоцца, каб вызваліць скаваныя ў ім жыццёвыя сілы-рэкі — каб пачаў свет жыць…

ЗГАДКІ

# СІМПТОМЫ ДУХОЎНАГА САМААЧЫШЧЭННЯ

Станіслаў ДУБЯНЕЦКІ



## А. Салжаніцын, В.Быкаў і публічнае супрацьстаянне хлусні

Люты 1974 г. Жыву пад моцным уражаннем ад таго, што днямі адбылося ў Мінску на рэспубліканскім семінары ідэалагічных кадраў. Сімптаматычна, што семінар пачаўся якраз у той дзень, якім датавана вядомае эсэ Аляксандра Салжаніцына «Жить не по лжи», а менавіта 12 лютага 1974 г.

Таму для мяне вялікай нечаканасцю стала тое, што ўжо ў час першай лекцыі па праблемах ідэалагічнай барацьбы лектара ЦК КПБ слухачы літаральна засыпалі пытаннямі, звязанымі з імем Салжаніцына і ягонай кнігай «Архіпелаг ГУЛАГ», якая з'явілася першай фундаментальнай спробай мастацкага даследавання дзяржаўнай сістэмы знішчэння людзей у часы тэрарыстычнай дыктатуры Сталіна.

У нашых СМІ, пісалі ў сваіх запісках прапагандысты, вядзецца злосная кампанія шальмавання Салжаніцына, хаця апошнія творы яго не публікуюцца і іх ніхто не чытаў. У чым канкрэтна пісьменнік абвінавачвае Леніна? За што ён крытыкуе Горкага? Чаму анатацыю на «Архіпелаг ГУЛАГ», дасланую з Масквы ва ўсе партыйныя камітэты, не паказваюць нават іх адказным работнікам, акрамя сакратароў?

Ні на адно з падобных пытанняў выступоўца не даў пераканаўчага адказу. А калі ён нарэшце скрозь зубы вымавіў: «Не ведаю... я, шчыра кажучы, кнігі гэтай не чытаў», у актавай зале Мінскай ВПШ, дзе праходзіў семінар, пачуўся гул незадавальнення, нават смех. З боку трыбуны данесліся невыразныя, амаль што нячутныя словы лектара: «Я разумею ваш шумок, але...». На тым з вострымі пытаннямі было пакончана.

І кожны слухач-ідэолаг міжволі задумваўся: калі тое, пра што гаворыць Салжаніцын, не з'яўляецца Праўдай жыцця, а паклёпам, ідэалагічнай дыверсіяй, то чаму аб гэтым не маюць права ведаць камуністы, партыйныя прапагандысты, закліканыя выхоўваць людзей у духу непрымірымасці да варожых поглядаў і меркаванняў? Няўжо арганізатары партыйнай вучобы і іх слухачы, якія абавязаны вывучаць па першакрыніцах тэорыю і палітыку партыі, не змаглі б абараніць Леніна або Горкага ад неабгрунтаваных нападак Салжаніцына?

На трэці дзень работы семінара стала вядома аб пазбаўленні А.Салжаніцына грамадзянства СССР і выгнанні яго за межы Савецкага Саюза. І калі ў зале зноў узнікла атмасфера абурэння і нязгоды з дзеяннямі ўладаў, адзін з членаў прэзідыума высокапастаўлены функцыянер Кампартыі Беларусі заявіў: «Відаць, у гэтай зале сабраліся не нашыя людзі».

Вось і дажыліся, браткі! Аказваецца, штатныя ідэалагічныя кадры, прапагандысты палітыкі партыі — не нашыя, не савецкія людзі!?

Супрацьстаянне дзвюх ліній, дзвюх розных падыходаў арганізатараў і ўдзельнікаў гэтага «выхаваўчага» мерапрыемства асабліва ярка праявілася літаральна ў апошнія хвіліны яго правядзення. Адбылося гэта ў час выступлення аднаго з галоўных ідэолагаў Кампартыі Беларусі.

— Што датычыць А.Салжаніцына, — сказаў ён, — то турма аказалася няварта гэтага падонка. Нам значна выгадней пазбавіцца ад яго, чым цярпець у сваім доме. Апошні пасквіль Салжаніцына «Архіпелаг ГУЛАГ» — гэта палітычны маніфест мацёрага антысаветчыка, у якім ён па-блюзнерску абвінавачвае Леніна ў стварэнні ў Расіі рэжыму насілля, гаворыць пра тое, што ад паражэння фашызму выйгралі ўсе, акрамя рускіх, заклікае аказваць супраціўленне ўладзе. А прынятае прэзідыумам Вярхоўнага Савета СССР рашэнне аб выгнанні Салжаніцына ёсць праяўленне волі і гневу ўсяго савецкага народа.

Якраз у гэты момант адзін з членаў нашай дэлегацыі, дакрануўшыся да майго пляча, спытаў:

— Якое ён мае маральнае права такім тонам і такімі абразлівымі словамі гаварыць аб выдатным пісьменніку, не ведаючы зместу ягоных твораў, бо гэта ж сучасьная лаянка, сучасныя ярлыкі?

— Безумоўна, — адказаў я, — ніякага права ён не мае.

Хаця, падумалася мне, падобныя прапагандысцкія «прыёмчыкі» выкарыстоўваюцца ў Беларусі не ўпершыню. Скажам, пасля выхаду ў свет аповесці Васіля Быкава «Сотнікаў» на аналагічных семінарах на ўсе лады распіналі пісьменніка за аднабаковасць, адвольнасць у раскрыцці тэмы партызанскага руху, за адсутнасць у яе герояў маральных каштоўнасцяў, у імя якіх чалавек здольны ахвяраваць сваім жыццём. Але і на гэтых семінарах таксама далёка не ўсе былі згодныя з агрэсіўна-выкрывальнай рыторыкай партыйных чыноўнікаў і лектараў.

Вось такія незвычайныя назіранні і думкі, вынесеныя з убачанага і пачутага на гэтым рэспубліканскім семінары. Тут быццам незнарок «выплюхнулася» на паверхню нязгода людзей з афіцыйнай прапагандай, іх незадаволенасць адкрытымі спробамі ўладаў заглушыць любыя праявы іншадумства, прыстрыніць сваіх жа калегпартыйцаў за стыхійна ўзніклы «бунт» свядомасці. Мне гэтая з'ява падалася сімптомам нейкіх новых працэсаў духоўнага ачышчэння грамадства ад напластаванняў савецкай прапаганды і агітацыі.

## А. Адамовіч і антыперабудовачная Вандэя

Кастрычнік 1988 г. З душэўным болем і трывогай сачу за той шырокамаштабнай кампаніяй па шальмаванні на Беларусі нефармальных аб'яднанняў і рухаў, якое разгарнулася пасля ўстаноўчага сходу гісторыка-асветніцкага таварыства памяці ахвяраў сталінізму «Мартыралог Беларусі» 19 кастрычніка 1988 г. (на ім было абвешчана аб заснаванні Аргкамітэта па стварэнні БНФ). А старт той кампаніі быў дадзены крыху раней, пасля выхаду ў свет 39-га нумара часопіса «Огонёк», дзе быў надрукаваны артыкул Алеся Адамовіча «Оглянись окрест».

Ужо самі фотаздымкі, змешчаныя ў якасці ілюстрацый да артыкула, здорава напалохалі сталіністаў. На іх — прастрэленыя чэрапы, бясконцая колькасць людскіх касцей, вынятых з магіл забітых у Курапатах савецкіх людзей. Можна было выразна разгледзець у руках мінчан, што прыйшлі, каб пакланіцца бязвінна палеглым тут сваім землякам, родным і блізкім, плакаты з надпісамі «Сталін — кат», «Патрабуем мемарыялу ахвярам сталінізму».

Тым большую занепакоенасць выклікала думка А.Адамовіча аб неабходнасці дэмакратычных пераменаў у Мінску, недапушчальнасці ператварэння яго ў антыперабудовачную Вандэю.

Перавёўшы дыханне і сабраўшыся з сіламі, старанныя захавальнікі духоўнага і палітычнага ГУЛАГу пачалі ўсур'ёз распрацоўваць стратэгію і тактыку барацьбы са сваім пісьменнікам-земляком. Сталі перабіраць у памяці імёны тых «грамадазнаўцаў», якія альбо па перакананні, альбо па злосным намеры зацята даказваюць, што сталінізм — гэта не ракавая пухліна на дзяржаўным целе, а амаль што яго вылечванне, амаль што Божы дар народу, які не можа знайсці сапраўднага шляху да шчасця.

І тут на дапамогу ЦК КПБ прыйшлі «саратнікі па класу» з Мінскага гаркама партыі. Быццам угадваючы думкі сваіх апекуноў, яны знайшлі новых, не выступаўшых раней актыўна ў прэсе вучоных і ветэранаў. І ўжо ў момант першага да іх звароту бойка далажылі: «А ў нас у аддзеле прапаганды і агітацыі ляжыць гатовы артыкул на гэтую тэму». «Аўтарамі» яго аказаліся акадэмік АН БССР М.Дарошкін, адказны сакратар Мінскай секцыі Савецкага камітэта ветэранаў вайны, Герой Савецкага Саюза А.Барданаў, старшыня Савета ветэранаў вайны і працы АН БССР, прафесар, Герой Савецкага Саюза А.Філімонаў, прафесар, Герой Савецкага Саюза Д.Жмуроўскі і намеснік старшыні савета ветэранаў Мінскага абласнога партызанскага злучэння, дацэнт К.Дамарад.

Першымі трапілі «пад прыцэл» ветэранаў арганізатары і кіраўнікі маладзёжнага аб'яднання «Талака».

21 кастрычніка 1988 года газета «Вечерний Минск», а на другі дзень усе рэспубліканскія і абласныя газеты апублікавалі артыкул пад прэтэнцыёзнай назвай «Эволюция политического невежества».

Масавы чытач у той час і ў вочы не бачыў ідэйна-палітычнай платформы «Талакі», а крытыкі палохалі ўжо яго тым, што гэтая платформа — ні больш, ні менш! — падвяргае грунтоўнай перабоцы асноватворныя палажэнні марксісцка-ленінскай тэорыі, насычана духам «даўно асуджанага гісторыяй і беларускім народам буржуазнага нацыяналізму».

А ў жаданні моладзі аднавіць у Беларусі дзейнасць «беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы і беларускае грэка-каталіцкае (уніяцкае) царквы» яны ўбачылі не што іншае, як падкопы былых гітлераўскіх прыслугачоў у асобе збеглых ад народнага гневу паліцэйскіх і бургамістраў. Ніколькі не лепшае, маўляў, і жаданне талакоўцаў узнавіць практыку стварэння беларускіх вайсковых фарміраванняў, бо гэтым у свой час займаліся эсэры, беларускія буржуазныя нацыяналісты сумесна з белапольскімі акупантамі.

Паталагічную нянавісць у аўтараў згаданага артыкула выклікала і сімволіка, якую імкнуцца адрадзіць сябры «Талакі»: маўляў, «Пагоню» і бел-чырвона-белыя павязкі насілі і паліцаі, і члены прафашысцкага «Саюза беларускай моладзі», а сёння іх носяць гітлераўскія недабіткі, што акапаліся на Захадзе.

У цэлым артыкул носіць характар палітычнага даносу, агульнага ачарнення ўсіх і кожнага, у тым ліку «завадатараў» «Талакі» Вінцука Вячоркі, Алеся Сушы, Віктара Івашкевіча і Сяргея Вітушкі, жорсткай крытыкі СМІ, якія ствараюць рэкламу маладзёжным аб'яднанням (газеты «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», часопіс «Нёман» і інш.).

Але асабліва дасталося Алесю Адамовічу за яго «аганькоўскі» артыкул. Пісьменніка абвінавачваюць ва ўсіх смяротных грахах — у сваім матэрыяле ён быццам здолеў не толькі перавярнуць многае з ног на галаву, але і навесіў «ярлык» на тых, хто, на ягоную думку, увасабляе сур'ёзны бар'ер супраць перабудовы.

Паказальна, што выказаныя вышэйназванымі ветэранамі ідэі знайшлі своеасаблівае адлюстраванне на аператыўнай нарадзе ў ЦК КПБ па пытаннях «палітычнага характару» 24 кастрычніка 1988 года. Тут чыноўнікаў зноў і зноў папярэджвалі аб недапушчальнасці стварэння ў Беларусі нефармальных аб'яднанняў тыпу эстонскага Народнага фронту альбо літоўскага «Саюдзіса». Настойліва рэкамендавалі «спыніць» дзейнасць прыхільнікаў падобных настрояў у ВНУ, Акадэміі навук Беларусі, іншых установах і арганізацыях. Далі канкрэтную ўстаноўку не дапусціць альбо проста сарваць запланаванае апазіцыяй на 30 кастрычніка 1988 года святкаванне «Дзядоў».

Вось вам і антыперабудовачная Вандэя! Вось і яшчэ адзін пераканаўчы доказ правільнасці высноў і ацэнак Алеся Адамовіча!

ЭПІСТАЛЯРЫЙ

# АЎТОГРАФЫ ЗОСЬКІ ВЕРАС

Летам 1983 года па просьбе настаўніка Гудзевіцкай школы Алеся Белакоза мы афармлялі два пакоі мясцовага літаратурна-краязнаўчага музея. Тут я ўпершыню ўбачыў рарытэтную кніжачку Зоські Верас «Батанічны слоўнік» віленскага выдання 1924 года.

Кніжачка ў тонкай папяровай вокладцы ясна-ружовага колеру (выцвіла) з 76 старонак так уразіла, што мне захацелася займець яе ў сваю бібліятэку.

А кніжачка была яшчэ і з аўтографам аўтаркі на адвароце тытульнага лістка: «На памяць // мілага (перароблена з «мілай») побыту майго // ў Гудзевічах // гр. А. М. Белакозу. // Л. Войцік (подпіс) // 18/ VII. 68 г.».

— Значыцца, беларуская легенда, якая памятае Максіма Багдановіча, яшчэ жывая, — вырашыў я, — а значыць, і ў мяне ёсць шанц атрымаць яе аўтограф і на такой самай кніжачцы!

І я ўзяўся за работу. У агульны сшытак вечарамі пасля працы (бо мы і жылі ў музейным калідоры) я пачаў перапісваць «траўнік» Людвікі Антонаўны...

А ўжо 25 сакавіка 1984 года я не толькі перадрукаваў яго ў трох асобніках, але і пераплёў у тры арыгінальныя кніжачкі ў чорныя кардонныя вокладкі з залатым факсімільным подпісам: «Л. Войцік (Зоська Верас)».

Першы асобнік я падараваў Адаму Мальдзісу, другі — Міхасю Чарняўскаму, а трэці — адаслаў на подпіс у Вільню Зосьцы Верас.

Прайшоў нейкі час, і маё арыгінальнае выданне вярнулася з аўтографам: «Дарагому жыхару маёй Гродзеншчыны Міхасю Уладзіміравічу Вераціле... Захопленая Вашай працавітасьцю, цярплівасьцю і прагай узбагаціць свае калекцыі-архівы... Са шчырымі зычэньнямі новых здабыткаў! Аўтар Бат. Слоўніка З. Верас. 19-24/ III. 86 г. Вільня».

На языку ўважлівага чытача ўжо, напэўна, круціцца пытанне: «А дзе ты, шаноўны, узяў факсімільны подпіс Зоські Верас на сваю кніжачку-копію?». Яшчэ вясной 1980 года беларускі мастак з Рыгі Вячка Целеш даслаў мне аўтограф Людвікі Антонаўны на паштоўцы з відам Вільнюса: «Паважанаму гр. Міхасю Верацілу на завочнае знаёмства. Л. Войцік (Зоська Верас) 16/ VII. 80 Вільня».

Акрамя гэтага, у маім зборы захоўваюцца яшчэ пяць лістоў Зоські Верас да мяне. Рыхтуючы іх да публікацыі, я захаваў усе асаблівасці пісьма Людвікі Антонаўны, нічога не змяняючы і не выпраўляючы...

**Міхась ВЕРАЦІЛА**

## Ліст 1

*20/ III. 86 г. Вільня. Паважаны Міхал Уладзіміравіч. Копію бат. слоўніка, ліст і «Каласы» атрымала... Падпішу і адашлю...*

*Сяньня пішу толькі некалькі слоў — каб Вы не нэрвавалі, што гэта так доўга трывае і ня думалі, што Вашая бандэроль недзе прапала...*

*Я сама — асабіста ўжо даўна не бываю ў горадзе і на пошце. Аб усе «перасылкі» мушу прасіць Зяця, і таму стараюся сабраць некалькі бандэроляў адразу, каб не рабіць лішняга клопату.*

*Вось і цяпер прыгатую новую «порцыю».*

*Захопленая Вашай працавітасьцю і жаданьнем за ўсялякую цану здабыць як найбольш экспанатаў у Вашай прыватнай бібліятэцы-архіве.*

*Як Вам удалося захаваць выданьні Суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца»?*

*Я, выпісваючы ад 1909 году ўсё выданае Суполкай был. «Гродзенскага Гуртка Беларускай Моладзі», маю спіскі ўсяго, што Суполка выдавала, цэны паасобных кніжак-«пісуляк», партрэтаў — не маю ніводнага экзэмпляра. Ведаю сколькі — чаго выпісала — што ў бібліятэку, сколькі чаго ўзялі сябры Гуртка — толькі для сябе асабіста нічога не захавала... Цяпер шкадую...*

*Што да майго «Батанічнага слоўніка» — я ўсе гэтыя «памылкі» і ўсё «прапушчанае» ў слоўніку адразу ведала і бачыла — але ў абставінах тагачаснага выдавецтва паправіць своечасова — не змагла...*

*У 70-гады — калі яшчэ жыў наш пісьменьнік Уладзімір Караткевіч — з Бат. Слоўніка былі зробленыя ксэракопіі — 3 экз. зрабілі ў Менску ў Акадэміі Навук і 2 эк. тут у Вільні. Усе разышліся...*

*Не запісала і цяпер нават ня помню, хто іх у мяне «выпрасіў». Ведаю толькі, што самы першы экзэм. узяў сабе сп.У. Караткевіч...*

*Цяпер у самым-самым канцы жыцьця стараюся перадаць маладым тое, што маю ў памяці з часоў працы ў Гродна, Менску, Вільні... Таму мушу шмат пісаць, шмат адказваць на лісты, расказваць пры сустрэчах. Ці ўдаецца ўсё перадаць? Усё прыпомніць? Ня ведаю... Але стараюся...*

*У найбліжэйшы час бандэроль прыгатую і вышлю...*

*Зычу Вам далейшых добрых помыслаў дзеля пашырэньня колькасьці Вашых скарбаў...*

*Усяго добрага... Зычлівая Л. Войцік*

***P.S.** А мае «подпісы» падробленыя па-мастацку... Самой не верыцца, што гэта не я пісала...*

*З. Верас.»*

[Тут варта будзе патлумачыць пра «падробленыя подпісы».

У 70-я гады XX ст. я зрабіў вялікі альбом з вокладкамі з фанеры, на якіх быў выпалены ўзор беларускага тканага дывана. Альбом быў зроблены спецыяльна на аўтографы «старэйшай беларускай паэткі» — Ларысы Геніюш. На першай старонцы альбома, з дапамогай эпідыяскопа, былі скапіраваны: подпіс Ларысы Антонаўны і першы радок з яе ліста да мяне («Дарагі сябра Міхась»).

Альбом я завёз Ларысе Геніюш і папрасіў пісаць туды ўсё, што захоча: пра сябе, пра Беларусь, пра паэзію...

Ларыса Антонаўна ў альбом не напісала ніводнага слова!

А калі да яе прыехаў Міхась Чарняўскі, яна даверліва паказала яму альбом і ціха сказала: «Паглядзіце, як ён падрабіў мой почырк. Гэта небяспечны чалавек!».

...Гэта самае заўважыла і Зоська Верас. — Міхась ВЕРАЦІЛА.]



## Ліст 2

*«15/ IV. 1986 г. Вільня. Паважаны Міхал Уладзіміравіч.*

*Дзякую за ліст.*

*Вельмі зацікавіў мяне Ваш леташні здабытак — 9 кніжачак... зусім магчыма, што гэта з нейкай прыватнай бібліятэкі. Але прысланыя ўзоры подпісаў нічога нам не гавораць. Ня толькі мне, але і майму Зяцю Лявону Луцкевічу, а ні этнографу Арсен. Сярг. Лісу, які пазаўчора быў у мяне.*

*Апошні А. С. Ліс вельмі шмат працуе ў Віленскіх архівах і бібліятэках, часам прыязджае на тыдзень, а то і больш. Я думала, што можа ён калі на такія кніжачкі і надпісы патрапіў, але ж не — не даводзілася. Пералічыце, калі ласка, якія беларускія творы ў гэтыя кніжачкі ўвайшлі... «Вялікодную пісанку» то і я ведала.*

*Што да Вашага «гультайства» — і найбольшая працавітасьць не памагла б здабыць тое, чаго ўжо даўна німа ў продажы, а можа быць толькі захаванае ў архівах і старых вялікіх бібліятэках.*

*Віленскія архівы вельмі багатыя... Тут і беларускіх выданьняў шмат. І ня толькі друкі, але часта і рукапісы, лісты і г. д.*

*Нашы пісьменьнікі (з Менску), этнографы, краязнаўцы знаходзяць шмат цікавых карысных матэрыялаў.*

*Букіністычныя магазіны ў Вільні ёсць, але беларускага там нічога німа.*

*Што я асабіста са старой літаратуры і публіцыстыкі маю, то і сама добра ня ведаю. Шмат што павыносілі на гарышча, а туды дабраца — гэта ўжо не мая сіла...*

*Багатае Вашае жыцьцё пры такой колькасьці прафэсый-захапленьняў...*

*А цікава было б ведаць — дзе Вы працуеце і якая Ваша галоўная прафэсыя... Можа, напішаце? Мяне цікавяць усе, хто жыве ў Гродзеншчыне, бо і мае Прадзяды, Дзяды, Бацькі — з Гродзеншчыны... Бацька з самога Гродна, а продкі маёй Маці з Сакольшчыны, якая цяпер пад Польшчай... Я сама палову жыцьця правяла ў Сакольшчыне і ў Гродне, — і вельмі тужу па той Зямлі...*

*А з Менска — цікавая звестка. 23 г. мес. пачынаецца З'езд бел. пісьменнікаў, які будзе радзіцца над праблемай: да 100 [годдзя] нараджэньня Максіма Багдановіча перанесьці Яго прах з Ялты ў Менск... Гэта ўжо даўна трэба было зрабіць... Добра, што хоць цяпер надумаліся. На гэтым і скончу..*

*Усяго Вам добрага! Зычу новых здабыткаў — шчыра зычлівая Л. Войцікава.»*

## Ліст 3

*«12/ V.1986. Вільня. Дарагі Міхась Уладзіміравіч.*

*Даруйце ласкава, што так доўга Вам не адказвала.*

*Вельмі дзякую за лісты, за ўсе весткі аб сабе, сваёй сям'і... Вашай працы... За добрыя, цікавыя вершы.*

*Усё чытала з прыемнасьцю і — часта аб Вас думала... А напісаць — проста не пасьпявала, бо вечныя «болі», «недамаганьні» вельмі агранічваюць працаздольнасьць. А столькі лістоў (усё «сьпешных»...), наведвальнікаў, падзеяў і добрых і благіх, сумных...*

*Пачну ад благіх: 1 мая памёр наш пісьменьнік, прафэсар, доктар філялягічных навук Сьцяпан Хусэйнавіч Александровіч... Можна сказаць, што нечакана, бо хоць даўна хварэў (хвароба лёгкіх), але заўсёды лічыў на лета на паправу агульнага стану здароўя... Столькі меў задумаў, столькі праектаў далейшай працы. Яму было толькі 65 гадоў... Я заўсёды цяжка перажываю страту знаёмых шмат маладзейшых за мяне...*

*Сабрала Яго лісты... Яшчэ раз прачытала... Перагледзела кніжкі Яго з аўтографамі... Але трэба было яшчэ гэта перажыць-перабалець... А былі і яшчэ вельмі непрыемныя, цяжкія да зразуменьня падзеі.*

*Хіба ведаеце з прэсы, што ў Менску 23–24 красавіка праходзіў IX-ты З'езд пісьменьнікаў Беларусі... Падобна выступалі па-рознаму — але наагул добра... Але перад З'ездам 20 красавіка здарылася нешта проста агіднае, непраўдападобнае... Весткі не на лістоўную гутарку...*

*Цяпер пра крыху лепшае — выйшла ў свет кніжка «Краю мой Нёман» — пра літаратурную Гродзеншчыну. Складзеная добра, з цікавых матэр'ялаў. Тыраж невялікі — 5.000. У Менску яе падобна ўжо німа ў прадажы... Але толькі што атрымала я ліст з Гродна — пішуць, што ў іх магазынах кніжка гэта ёсьць. Зараз напішу і папрашу, каб Вам яе выслалі...*

*Якія ж яшчэ навіны? Аж 2-е, — магчыма ведаеце, але на ўселякі выпадак пішу... 16 траўня (мая) у Гродне ўрачыста адчыняюць Дом-Музэй Максіма Багдановіча... Вечарам у салі Унівэрсытэту ня менш урачысты вечар гэтага паэта... А 18/ V. Сьвята паэзіі Максіма Багдановіча ў Ракуцёўшчыне Маладзечанскага р-на. Гэта ўжо традыцыйна — год у год...*

*Я сама на гэрбах не знаюся... Паказала прысланы гэрб свайму Зяцю Лявону Антонавічу Луцкевічу . Паміж іншым ён сын Антона Луцкевіча і пляменьнік Івана Луцкевіча — пачынальнікаў «Нашай Нівы». Вось Зяць кажа, што, магчыма, гэты гэрб ужываўся як дзяржаўны — «Рэчыпаспалітай» — пасьля ўзьеднаньня Літвы з Польшчай. Магчыма пасьля Люблінскай вуніі. Такі гэрб — арол — пагоня — ёсьць у Вільні на касьцёле Дамініканаў.*

*У сувязі з гэтымі ўсімі тэмамі-пытаньнямі — маем такую прапанову: у Вас летам напэўна будзе нейкі адпачынак. Падчас яго запрашаем Вас у Вільню. Пазнаёміцеся з горадам (калі яшчэ тут не былі...), з памятнымі мейсцамі-будынкамі, зьвязанымі з дзейнасьцю беларусаў... У Зяця ёсьць запісы — альбомы і г.д. У мяне яшчэ старэйшыя і шмат лістоў — каля 6.000... Ёсьць і ўнікальныя здымкі.*

*Вы, напэўна, і фатаграфуеце? Вось і бярыце фотаапарат — зробіце сабе фотакопіі... А то і жонка Вашая зможа прыехаць разам? Адно толькі — наш дамок стаіць сярод лесу... Знайсьці самастойна — немагчыма. Дзеля таго трэба ведаць дакладна, калі прыходзіць Ваш цягнік або аўтобус. У гэты час Зяць чакаў-бы Вас у горадзе на кватэры майго ўнука... Тэлефон — 44-90-01. Чакаем адказу. Усяго найлепшага Вам і ўсёй Вашай сям'і.*

*Шчыра зычлівая Л. Войцікава з сям'ёй.*

*Дзякую за Вялікоднае віншаваньне, але яно вельмі-вельмі спозьненае, бо ў нас Вялікдзень быў 30/ III.*

*Мы — каталікі з дзеда-прадзеда. — Л. Войцік»*

## Ліст 4

*«Паважаны Міхаіл Уладзіміравіч.*

*У сувязі з хваробамі і іншымі няспрыяльнымі падзеямі змушаныануляваць свае запросіны Вас у Вільню.*

*Як будзе далей? — па пэўным часе напішу.*

*Сяньня і гэтых пару слоў пісаць цяжка.*

*Выбачайце...*

*Шчыра — Л. Войцікава*

*18/ V.1986. Вільня.»*

## Ліст 5

*«Дарагі Міхась Уладзіміравіч.*

*Дзякую за памяць, за прывітаньне з Н. Годам.*

*Хоць так спозьнена, але шчыра і я вітаю Вас і зычу ўсяго самага найлепшага, здароўя і плёну ва ўсялякай працы...*

*Цяжка мне ўжо і пішацца і думаецца...*

*Цяжка даецца гэты 95 год жыцьця...*

*Усяго Вам добрага.*

*Л. Войцікава з сямьёй.*

*12/ II.1987 г. Вільня.»*

ВЕРШЫ

# ЗАГАДКА ВОЛІ

Ірына ХАДАРЭНКА



***Там свайго народа рэшткі***
***Бачыў я, што варты жалю,***
***Як сухое лісце ўвосень,***
***Бурай гнанае на захад.***

***Г. Лангфэла, «Спеў аб Гаяваце»***

***

*Стагоддзе цывілізацыйнай адзіноты —*
*Нязначны юбілей, праскочыць*
*непрыкметна…*

*Відаць, дзеля таго тут нішчылі*
*шляхетнасць,*
*Каб корпаўся народ за мястэчковым*
*дротам.*

*Дурныя звычкі — адкладаць свой лёс*
*на «потым»,*
*Сачыць за руйнаваннем нетраў*
*запаветных…*

*Даўно ўжо стала філіялам апраметнай*
*Гнілое, змрочнае, маўклівае балота.*

## Два буслы

*Як прыгожа было!.. На вясковым двары*
*Дзве цудоўныя птушкі гняздзіліся ўлетку.*
*А цяпер аздабляюць яны этыкетку*
*На бутэльцы з гарэлкай, што п'юць*
*жыхары.*

***

*Не расквітнела папараці кветка —*
*І змізарнеў тутэйшы чалавек.*
*Гуляюць кумяльганы па палетках,*
*Ератнікі ўчыняюць гвалт і здзек.*

*А з твані лезуць злыдні, ваўкалакі,*
*Імкнуцца панаваць, смяюцца ў твар.*
*Гані іх прэч, хай спрахнуць небаракі!*
*Зямля ж — ТВАЯ, і ТЫ тут гаспадар!*

## Загадка волі

*Заўсёды марыла аб ёй*
*І — разам з тым — яе не мела.*
*Яна не можа быць маёй,*
*Яна не мае ўзросту, цела.*
*Яна так дзіўна існуе —*
*Па-за прасторай, па-за часам.*
*Адзіны шанс спазнаць яе —*
*Калі знаходзішся сам-насам.*

## Сябрам

*Слота, золь, туманы і вятры…*
*Шэры бруд імкнецца ўсё запляміць.*
*І — раптоўнай згадкай — снегіры*
*Ажыўляюць трапяткую памяць.*

*У дрыгве народ мой мае схоў;*
*Тут няма ні згоды, ні адзінства.*
*Чырванее вобраз снегіроў*
*На бялюткім тле майго дзяцінства.*

*Звабіла, сябры, вас далячынь*
*У замежжы блізкім і далёкім.*
*А цяпер — абапал крумкачы*
*Гарлапаняць і мазоляць вока…*

## Іманентнасць маўчання

*Маўчанне золатам бывае не заўжды,*
*Ягоны водбліск нейкі алхімічны:*
*Ратуе ад зняважы і бяды,*
*І — аздабляе здраднікам аблічча.*

*Паэтам часам трэба памаўчаць,*
*Бо нават птушкі не пяюць бясконца,*
*Не зелянее ўзімку сенажаць,*
*Не свеціць і не грэе ноччу сонца.*

*Калі ж навокал бессаромны гвалт*
*Ператварае ў быдла беларусаў,*
*А існаванне іх — турмы накшталт,*
*Маўчанне — выбар халуёў і трусаў.*

## Паэзія

*Кон спляці карэннямі ў зямлі,*
*А ўяўлення смаглыя азёры*
*Смуткам і крывёю наталі,*
*Каб на космас пазіраць праз зоры!*
*Намалюй і раствары нашчэнт*
*Гарызонты неадольных думак!..*

*Горкі твой напой, нібы абсэнт;*
*Толькі ён — найлепшы падарунак.*

МІНІЯЦЮРЫ

# ВЫДЫХ І ЎДЫХ

Сяргей ВЕРАЦІЛА

## Ліст восеньскі

*Прывітанне. Усё меўся табе напісаць — і вось нарэшце сабраўся і адважыўся.*
*У нас тут якраз — восень. Паўсюдна і з усяго ападае лісце, яго тут цяпер — цэлая плойма. Прыбіральшчыкі зграбаюць яго ў кучы, засоўваюць у мяхі, а потым у нейкіх спецыяльных машынах адпраўляюць у нейкую невядомасць. Мо там яго паляць, мо яшчэ што там з ім вырабляюць, я не ведаю. Але так ужо атрымалася, што я падняў некалькі-колькі бела-лінаваных і бела-кратаваных і пішу табе па-за смуткам, па-за тугою, па-за адчаем, у час одуму, у час роспачы. Атрымліваецца, як па-за смерцю, як па-за жыццём…*
*А раней іх палілі проста па дварах, і белы дым узнімаўся да неба, сігналячы яму пра неабавязковасць быцця, а бывала, што хто з дзятвы ўкідаў туды кавалак рубероіду, і тады дым чарнеў у неба іншым сігналам. Кідалі таксама кавалкі шыферу; награўшыся, ён страляў у розныя бакі. Гэта падавалася вясёлай прыгодай.*
*А раней іх палілі проста па дварах, а цяпер… цяпер я не ведаю. І ўся гэтая восень ужо як не мая. І апошнія вылётныя птушкі падбіраюць па садах апошнія пад'едкі і — у вырай, вырай, вырай. А я не паляцеў, я застаўся тут і застыгнуў у чаканні, што Тут усё яшчэ павернецца, што Тут усё яшчэ адбудзецца. А нічога не…*
*Восень. Падаюць лісты, валасы, зубы. І недалёка ўжо чатыры па дзесяць. І я падабраў колькі лінавана-закратаваннных — і на іх маё табе восеньскае прывітанне. І пасля словаў уступу я спадзяюся знайсці яшчэ колькі словаў. Яны яшчэ будуць, тыя словы.*

*Восень. І я ўжо не так чужа ўспрымаю на гэтых вуліцах, сярод гэтых людзей сваю постаць. А тут усё, як было: па-ранейшаму п'юць, па-ранейшаму ўсе злыя. Мяркую, што неўзабаве пойдуць дажджы і змыюць успаміны пра лета, у Лету сплывае і смецце думак, і трызненне сноў, і надзеі, і мары. І зусім іншыя згадкі атачаць маю галаву, і стома памružыць самлелыя вочы, а лісце ўпала, упала, упала. А дажджоў усё няма, няма, няма. Пад дрэвамі глеба зусім пасохла. Думкі пра снег, крут… мігценне прыносяць палёгку. Я б… не здзівіўся… але гэта ўжо крамола…*
*Я яшчэ напішу. Гэта будзе ўжо іншы, не перасохлы, не восеньскі Ліст.*

## Званок

*Алё. Ну, прывітанне. Як добра, што пазваніў. Як там у цябе? Усё добра? Ну давай гавары, гавары, я слухаю. Усё ў парадку? Ты расказвай, расказвай, я буду слухаць. Ты расказвай. Я ўмею слухаць. Ты мне верыш? А ты расказвай. Я слухаю. Я — увесь увага. Ты гавары, расказвай. Не хварэеш? Настрой добры? Я буду слухаць, я ўжо слухаю. Я ўмею. Я навучыўся. Ты гавары, расказвай. Не верыш? Ты толькі гавары, не маўчы, калі ласка. Алё?! Куды ты? Не адключайся! Алё!*

## Некаторыя запісы

*Лета пракацілася па мне, не раўнуючы, як твой грэйдэр. Як я толькі не памёр. А не памёр жа. Вось і добра, што не памёр. Мары: дачакаюся восені плоднай, мокрай, цёплай. Плён у снах. Рады снам. Сню то жалеза, то зелле. Аднаго разу выснію замарожаную рыбу-траску, што падала проста з неба. Выбег з хаты — і хоць быў далёка не самы першы, але і не апошні. Паспеў адхапіць тры штукі, такія ладныя, кожная метры па паўтары. Аднойчы прысніў Маскву. Заблукаў там паміж Мясніцкай і Гарохавай ды пакутліва, доўга шукаў трамвай (абавязкова трамвай), каб даехаць да Беларускага вакзала. Нарэшце знайшоў і даехаў. Меў поўныя кішэні дробязі і ўсю яе аддаў за квіток, а тут абвесцілі, што вакзал заміняваны, але жадаючыя могуць праходзіць. Я пайшоў, бо надта хацелася дадому.*

*Цямнее, як хутка цямнее. У вачах таксама. Яшчэ цэлы месяц будзе цямнець. У тваёй усмешцы заўсёды стаіць сонца. Яно сёння схавалася. Ну ўсміхніся, калі ласка. Афіцыянткіна насмешка нібыта прыклееная. Сёння прадавачка… таксама паспрабавала мне пасміхнуцца. Нічога ў яе не атрымалася.*



*Не разабралі цяпліцу. Ці то забыліся, ці то адмыслова. У лістападзе вятры не міласлівыя. Лістапад — ветравы месяц... На цяпліцы цэлафан далёка не новы. Парваўся, не вытрываў. І пад ветрам шматкі матляюцца і ўвесь час пляскаюцца: плясь-хляп-плюсь. Уначы гэты рытм робіцца вельмі настойлівым і выразным, а калі сюды яшчэ дадаць бразгатанне бляшанак, павешаных на кійкі, каб адпалохаць кратоў, а яшчэ аддалены гук машыны, скавытанне згаладалага цуцыка і накласці гэта на бязмесяцавую ноч, то складзецца адчуванне поўнай богапакінутасці.*

*Сёння злавіў дзявятую мыш. Яе нават было шкада. Такая ўжо была ціхая, мусіць, не галодная. Па начах нічога не грызла, а мо і грызла, толькі я не чуў. Я доўга на яе паляваў, рэгулярна ставячы пастку, а пачварка рэгулярна здымала з яе вэнджаную кілбасу, на сёмы раз шчасце скончылася — нарэшце патрапіла. Нічога сабе, такая наетая. Зулус атрымаў задавальненне. Чужыя густы цяжка прыняць, часам амаль немагчыма.*

*Калюжына замерзла нечакана і адразу. Мінулымі гадамі, здаецца, зусім не замярзала, бо да маразоў паспявала высыхаць. Гэта вецер яе высушваў кожнага разу перад зімой. Ліст яшчэ паспеў як след заіржавець, а яго прыплюшчыла да зямлі ільдом. Да бліжэйшай адлігі, а мо і да самай зімы.*
*І на якую халеру я высек яго з калюжыны разам з кавалкамі ільда і прывалок у хатку, мусіць, каб адагрэць. Пад вечар лёд пацёк, а яшчэ праз гадзіны дзве стаў іржава-рудым, а недалёка да ночы яшчэ раз памяняў колер на брудна-шэры і неяк зусім паніціўся, нібыта яму самае малое два гады.*
*Усё гэта няправільна, ад пачатку і да канца.*

*Такая прыгожая і такая недагледжаная. А вось такая ўжо дагледжаная, што падаецца нават прыгожай.*
*А зблізу? — А гэта ўжо наколькі блізка…*

*Дзяўчаты ля «гарачай выпечкі». Усе булачкі.*

*У моднай кавярні «Лондан» дзве студэнткі ці з недалёкага філфака, ці з Лінгвістычнага ўніверсітэта за кавай пад цыгарэту бавяць час. Я міжволі слухаю іхнюю гаворку. Адна захоплена распавядае пра вартасць розных перакладаў старафранцузскай паэзіі. Другая слухае яе і на знак увагі час ад часу хітае галавой. Але я бачу, што ёй так і карціць сказаць нешта сваё. Нарэшце гэта ёй удаецца:*
*— А мне таксама гэтым летам выразалі гланды.*
*Рансар і гланды. Я нат смяяцца не здолеў.*

*Божачкі-Божа! Кожны раз захапляюся, калі прамаўляю. Так лёгка выдыхаецца і так лёгка ўдыхаецца: Божачкі-Божа. Божачкі-Божа, і за якое такое ты ўзнагародзіў нас гэткаю моваю, калі так лёгка — удых і выдых, выдых і ўдых.*
*І заўсёды вось так, не спыняючыся, ажно да самага-самага скону.*

**ФРАГМЕНТЫ АПОВЕСЦІ**

# БАБРОВАЯ ХАТКА

**Вячаслаў ЛАПЦІК**



Яму, старому бабру, спачатку тут жылося добра, утульна і міла. Да таго часу, пакуль на беразе ляснога возера з чыстай, як расінка, вадой, не з'явілася чужое насланнё. Гэтая каманда маўклівых і злых дзядзькоў з недаверлівымі і вечна незадаволенымі тварамі захапіла возера, наляцеўшы сюды ў спецформе на чорных дарагіх машынах, хто з пагонамі, а хто ў звычайным цывільным адзенні, частка з аўтаматамі, а некаторыя з цяжкімі гумавымі дручкамі. Яны тут імпэтна наўзводзілі нейкіх вялікіх і малых будынкаў з калонамі каля ўваходаў і пазалочанымі кратамі на вокнах, панавазілі пяску з каменнем і парэзалі лес тоўстым смуродным асфальтам, адгарадзіўшыся ад свету боскага высокай сцяной з бетонных пліт і нацягнутым калючым дротам зверху, закрыўшы пад'езды жалезнымі шлагбаўмамі ды панатыкаўшы праз кожныя трыццаць метраў будак і панасадзіўшы туды ўзброеных вайскоўцаў.

Стаіўшыся ў густым кусце лазы і ўважліва паназіраўшы за камандай набрыдзі, разважлівы бабёр вызначыў сярод іх і самага вялікага начальніка. Гэта чарнявы каржакаваты мужык з вялікай, як гарбуз, галавой і кароткай, быццам залішне засаджанай у плечы, шыяй. Той быў вірлавокім, заўсёды незадаволеным, да таго ж картавіў, а на шыі пастаянна насіў тоўсты залаты ланцужок з вялікім бліскучым крыжыкам.

А вось раней… Спачатку нікога не было, пасля цішае возера занялі спартоўцы і размясцілі вясларную базу з мноствам лёгкіх і яркіх, свежа пафарбаваных чаўнакоў на беразе; ад ранняй вясны і да позняй восені прыязджалі на трэніроўкі мускулістыя і дужыя хлопцы з такімі ж моцнымі дзяўчатамі. Яны не перашкаджалі спакойна жыць звярку, а той не злаваў іх.

Але цяпер, пасля прыходу багатага зброду і захопу возера, лясны жыхар застаўся зусім адзін. Вось чаму часам пад яркімі начнымі зоркамі яму станавілася надта сумна. Ад чаго? Ад старасці, адзіноты і пачуцця пакінутасці. Ягонае дружнае сямейства павырастала і нядаўна, прадчуваючы блізкую небяспеку, перадыслакавалася на новыя балоты і рэкі. Спачатку дзеці, унукі і праўнукі задумалі ўзвесці тут, у той самай затоцы, для сябе яшчэ тры хаткі, каб абсталявацца надоўга, пасля на сямейным савеце вырашылі пабудаваць двухсотметровую плаціну, але ўбачыўшы набрыдзь у страшных чорных машынах, прытаіліся, цішком паназіралі за гэтым гармідарам і зразумелі: толку не будзе. Таму ад хмурых злых дзядзькоў парасплываліся хто куды. Ягоную жонку, маўклівую і вялікавокую бабрыху, што ва ўсім слухалася мужа і ніколі не надакучала яму, злавіў на шапку мясцовы браканьер, паставіўшы пастку — жалезны нерат з тоўстымі вочкамі.

Ён жа не захацеў уцякаць адсюль разам з маладым пакаленнем. Самотлівы енк «Ду-ду-ду» некалькі тыдняў віўся над залатой затокай і каціўся далёка, аж у гушчар лесу, бо звярок адчуваў сябе надта нядобра. Пасля галашэнне сціхла: жывая істота на белым свеце прывыкае да ўсяго, нават да самага трагічнага.

Калі чужынцы павыганялі маладых спартоўцаў — бабру стала надта горка. Як у той момант, калі няголены тоўсты дзяцюк у фуфайцы падняў у жалезцы яго бабрыху і радасна разрагатаўся.

Той жа маленькі дзядзька з вялікай галавой-гарбузом і кароткай шыяй наведваўся да возера рэгулярна і, картавячы, даваў распараджэнні сваім служакам. Уцікахара цікуючы за зброддам на беразе, бабёр не разумеў, чаму гэтыя вялізныя істоты на дзвюх нагах так імкнуцца дагадзіць свайму важаку, носяцца вакол яго і лістом сцеляцца пад ногі, быццам ён нябесны пасланнік.

«Што творыцца на тутэйшай зямлі? Хутка свет перакуліцца — прыезджая набрыдзь кіруе мясцовым людам».

Старому бабру было агідна глядзець на вычварэнцаў з аўтаматамі і гумовымі палкамі. Сачыць, як яны зграяй таўкліся вакол свайго начальніка, чакаючы загадаў, а бязлікія твары выражалі крайняе ўшанаванне і тупое дагаджэнне. І не заставалася ніякага розуму ў іхніх вачах — толькі маўклівае і тупое паслушэнства...

«Яны што — усе нямыя? — дзівіўся бабёр, цікуючы за зграяй набрыдзі. — Чаму так сябе паводзяць і што з імі здарылася?»

У іх, жыхароў навакольных азёр і балот, таксама існавала свая строгая дысцыпліна. Спакон веку меўся ўстаноўлены парадак. Без сходак і з'ездаў зацвярджаўся свой агульнапрызнаны начальнік — разважлівы і суровы важак, якога ніхто не выбіраў, але які сам сябе выяўляў і ўнушаў давер. Чым? Розумам, дасціпнасцю і ўменнем жыць.

Кожны насельнік меў магчымасць уносіць свае прапановы і пастулаць, бывала, не так, як патрабаваў важак. Кожны меў права асабістага голасу і права выказаць сваю думку. Бывала, у часы рознагалоссяў, каб прымусіць выканаць загад, даводзілася ісці на крайнюю меру: пускаць у ход свае вострыя, як у пілы, зубы…

Сярод жа двуногіх істотаў ніхто начальніку нічога не гаварыў і не прапаноўваў, ніколі не раіў, не прасіў выслухаць яго, хоць той гарбузагаловы дзядзька нікога кусаў — а ўсе пакорна і бязмоўна выконвалі любое даручэнне.

Па суровых законах прыроды важаком сярод бабраў не можа стаць крыклівы злодзей альбо тонкі аферыст — яго імгненна «раскусяць». Да таго можна дайсці не хітрасцю і трапалогіяй, прахіндзействам і ашуканствам, а сваімі павадкамі і розумам. Паказаць сябе і сцвердзіць. Вунь яму як талковаму і мужнаму важаку пачалі верыць не адразу, а толькі тады, калі ён усіх папярэдзіў: рыхтуецца вялікая аблава, таму неабходна прытаіцца на дне і перачакаць, на бераг не выплываць.

Ён адчуваў небяспеку, але трое маладых і вечна капрызных дзівакоў не паслухаліся — маўляў, жраць моцна хочацца, хады і люкі на дне не перакрыты, таму дрыжаць ад страху не трэба. Далі нырца і паплылі.

Двух задралі вывучаныя сабакі — каля самага берага, прама пад тоўстай вярбой, адзін усунуўся ў жалезны нерат, хітра замаскіраваны ў затоцы. Неслухі пайшлі на шапкі-вушанкі…

Ён, стары бабёр, кемна паступіў другі раз, трэці — і затым яго пачалі слухацца і з ім раіцца.

…Гарбузагаловы мужлан не мог існаваць без дзевак і маладых баб. Ён амаль штодня цягаў іх сюды і рабіў з імі што хацеў. Часта пад віхрастую музыку распранаў тых у вялікім доме, а пасля галышом цягаў на беражок возера, дзе і вытвараў свае штучкі. Дзядзькі ў пагонах уцікара сачылі за ім і хаваліся па кустах. А начальнік уваходзіў у кіпучы азарт і аж млеў ад задавальнення, доўга мучаючы голенькіх дзевак.

Вопытны звярок бачыў: нічога талковага акружэнцы картавага алігарха не зробяць, не заўпарцяцца і не запратэстуюць, не паяднаюцца дружнай суполкай і не пачнуць барацьбу. Дзікі страх скарыў іхнія душы і працяў наскрозь плоць. Калі раззлаваны чалавек-гарбуз дапякаў і ўсыпаў пад поўную завязку, раз'юшана тупацеў нагамі, падначаленыя звыкла маўчалі, вінавата звесіўшы галовы, а затым пакорліва рассыпаліся па кутках — і толькі пасля, пахаваўшыся, незадаволена нешта шапталі адзін аднаму, кідаючы асуджальныя позіркі на свайго боса (які ў той час з цыгаркай у роце гойсаўся на лёгкім індыйскім гамаку, адыходзячы ад стрэсу), часта круцілі каля скроняў пальцамі, вызначаючы псіхічны стан свайго начальніка, а самыя адчайныя шапталі: «Паскуднік! Па ім, сволачы, даўно турма плача!».

І ўсё. На больш рашучыя дзеянні ніхто не адважваўся, лічачы падобную форму пратэсту-праклёну дастаткова смелым палітычным актам — тым, чым можна хваліцца і што з цягам павінна заняць пачэснае месца ў гісторыі барацьбы народаў свету са сваімі прыгнятальнікамі. Так паслужнікі выражалі свой пратэст і цешылі сябе тым, што яны адчайныя змагары, прытым мужныя — ды могуць пайсці і на барыкады, толькі вось тыя самыя сучасныя барыкады ніхто яшчэ не змакетаваў і не ўзвёў, а ім, маўляў, бракуе часу. І так няма калі дыхнуць…

Бабёр зразумеў — тут напладзіліся і жывуць пустыя істоты, не здольныя на рашучыя крокі,



а вучыць іх і ставіць на шлях ісціны не было каму, бо тыя ўсе адным мірам мазаны.

«Трэба дзейнічаць! Чаго мне баяцца? Усё роўна цяпер я на гэтай зямлі не жыву, а пяклую, таму анічога не трачу! Сёння — жыву, а заўтра мяне не стане — ну і што тут такога? Чаго плакацца? Такія законы жыцця. Але ж калі хоць у адзіноце «пракручу» свой варыянт — тады надам палёгкі роднай затоцы!».

Аднойчы, назіраючы за чарговай дзеўкай, якая віляла перад багацеем голай дупкай, бабёр засмакаваўся і, страціўшы пільнасць, з плёскатам асунуўся-боўтнуўся ў ваду. Мужык ухапіў свае трусы і ўзвіўся як падстрэлены:

— Хто тут? — Штосілы загалякаў да аховы. — Э-эй, свалата! Дзе вы там, засранцы?! Ёрш вашу мацъ! Заўтра ўсіх павыганяю!

І сваёй свіце даў суровы загад: «Калі тут выключана прысутнасць жывой душы, у чым вы клянецеся, — значыць, пялёснуўся бабёр! Злавіць яго! Каб забітага звярка мне паказалі, а затым скурку кінулі ў прыбіральню пад ногі, усяклі?!».

І разрагатаўся, задаволена гледзячы на дзеўку, якая прыхавалася ад аховы за дрэвам…

Чацвёра мужыкоў з ламамі і жалезнымі прантамі ламалі хатку аж два дні. Хадзілі па ёй, скакалі і зыгаліся, прабівалі глыбокія дзіркі, быццам у лёдзе ў час зімовага лову, а пасля, закладаючы туды вялікую і цяжкую арматуру, дралі жытло на кавалкі. Злосна дзівячыся бабровому сямейству ды іхняму тонкаму ўменню ўзводзіць такую хаціну.

…Старога бабра задавальняў і такі варыянт: ён жыў у напалову разбуранай падводнай хатцы, глыбока нырäў і там спакойна круціўся па патаемных тунэлях з першыйкамі.

Аднак аднойчы ён аж скалануўся: «Так далей жыць нельга! Яны разбурылі маё дарагое жытло!». Бабёр пачаў ціха плакаць, падвываючы сабе самому:

— Трэба пачынаць дзейнічаць, бо гэтыя злыдні, разагнаўшы з любога кутка ўсіх дзяцей са сваякамі, на гэтым не спыняцца. Вычварэнцы заўсёды нясуць толькі страшнае і жахлівае. Бяду і гора. Няшчасце і беднасць. Адзіноту і смерць. Яны засмецяць і засмуродзяць возера разам з лесам! Пасля знішчаць зямлю, усю сушу, пакінуўшы на памяць густыя гарадзішчы і горы-руіны. — Бабёр прадбачыў будучыню, і яму станавілася надта горка: — Вакол на лепшых землях, скупленых і скрадзеных, расселяцца іхнія падпявайлы і пачнуць здзеквацца з жывых істотаў, якіх год ад году будзе заставацца меней і меней —пакуль не данішчаць. Спачатку яны звядуць са свету нас, баброў…

Сапраўдныя паляўнічыя даўно пераканаліся: бабры — надта разумныя істоты. Без падказкі чалавека яны добра ведаюць, як узвесці сабе трывалую будыніну, талкова падгрызці дрэва, каб яно павалілася ў той бок, куды трэба, і толькі тады, калі неабходна. У гэтай справе іх ніхто не саб'е спанталыку: самі вызначаць усё без камп'ютэраў, з дакладнасцю да сантыметра.

О-о, гэта цяжкая і няпростая навука, але яе паціху адольваюць жыхары бабровых хатак! Вялікая школа, але ж яе праходзяць усе, і падобнай прыроднай кемнасцю іх надарыў, калі разабрацца, сам Бог, і яе не ў стане адабраць аніводзін зямны прышэлец, нават самы багаты і хітры.

Разумны бабёр, пастаянна шукаючы для сябе новае месца, каб яго не злавілі, пачаў пільна сачыць за чужынцамі. Дык вось, бамбіза з кароткай шыяй аблюбаваў на беразе затокі адно ціхае месца. Там побач раслі два высокія дрэвы, гожыя асіна з елкай; яны месціліся плячо ў плячо і прыкрывалі агляд з дарагога маёнтка, пакрытага ярка-чырвоным андулінам, пад дрэвамі можна было прыхавацца ад вокнаў асабнякоў, перапоўненых насцярожанай і маўклівай вартай. Тут вялікагаловы амбал часта бавіў свой час, вяртаючыся з горада на лона прыроды. Ахоўнік з пустым позіркам і звужаным ілбом, трымаючы напагатове свой новы карабін з драўлянай ручкай колеру спелага каштана, пёр сюды нейкую вялікую скрыню з блакітным святлом, якое цэрква ела вочы. Затым ставіў яе на чорную дашчатую падстаўку пад елкай, уключаў і з апушчанай галавой спешна нёсся назад, нібы нечага моцна баючыся. З гэтага блакітнага чамаданчыка лілася крыклівая музыка, а на бліскучым шкле з'яўляліся голыя маладыя дзеўкі з вялізнымі, быццам надзьмутымі сіськамі; яны падкідвалі ўверх свае белыя ножкі, скакалі і рагаталі, аблізваючыся зазыўна чырвонымі і вузенькімі язычкамі, пазіралі на голых дзяцюкоў, з якімі пасля абдымаліся і мітусіліся, залазілі адзін на другога і зыгаліся зверху, нібы на пуховай падушцы. А гэты гарбузагаловы мужлан глядзеў са смакам на блакітнае шкло, рагатаў і ціскаў пад елкай маладую дзеўку, налівася барвовай чырванню, з'ядаючы экран вырачанымі вачыма, пасля, набрыньваючыся і задыхаючыся, спяшаўся і груба шкаматаў лёгкае адзенне на сваёй партнёршы… Пішчаў ад асалоды, хроп, як стары бык, буйная сліна сцякала і лілася па барадзе, капаючы на грудкі дзявашчы, але ён не зважаў на тое і нават не саромеўся: узлазіў на дзеўку, бліскаў адкормленым задам, мацаў, прагна ціскаў, а ягоны залаты крыжык на зіхоткім ланцужку боўтаўся, быццам маятнік на старым насценным гадзінніку.

Прывезеная бабенцыя аж вішчала, але нельга было зразумець: ці-то ад болю, ці то ад асалоды, а сэксаман адным вокам пазіраў на блакітны экран і захлёбваўся:

— Залазь цяпер ты! — спяшаўся той і камандаваў. — Толькі ў тэмпе!

І дзеўка жыргала яго зверху і зыгалася, як тыя голыя цёткі на экране. У канцы вялікагаловы мужлан рэзка ўзвываў, нібы затраўлены звер, скідваў з сябе дзяваху і зняможана куляўся на бок.

Апрануўшыся, ён доўга рабіў пацягушкі, гладзіў свой жывот і з задавальненнем разглядаў затоку, напэўна, радуючыся за цудоўны куток прыроды, адабраны ў спартоўцаў, пасля ўздымаў галаву з вінаватым тварам у неба, тры разы жагнаўся, шэпчучы сабе нейкую кароткую малітву.

— Ну вось, у чарговы раз мае грахі адпушчаны, тут галоўнае не забыцца і памаліцца, а пасля можна пачынаць усё спачатку! — з задавальненнем і ўхмылкай на твары паведамляў сваёй дзявульцы.





З-пад разрослай высокай купіны, якая нечым нагадвала круглы дзяркач, звярок спачувальна сачыў за чарговай ахвярай жаночага роду. Тая хавалася ў засені, маўкліва адпачывала і, напэўна, баялася, каб не наскочыў хто з ахоўнікаў.

«Паганец у маім краі не мае права мучыць людзей. Асабліва маладых!»…

І ў разважлівага бабра саспеў свой план. Адчайны і зусім нечаканы.

Цёмнымі начамі, калі вакол нікога, толькі чулася ў шыкоўных харомах лёгкая музыка і ціхія галасы панаехалага зброду, ён вылазіў з затокі на бераг, цісну́ўся да асіны і спешна грыз яе. Але не так, як паступаюць ягоныя суродзічы, калі кару аб'ядаюць на паўметра ад зямлі альбо вышэй (і тады пабялелы свежы ствол заўважны здалёку), а праходзіўся зубамі з самага нізу. Сваю справу рабіў надта асцярожна, стаіўшыся і вельмі ціха: мацаючы лапкамі ілаватае дно, падплываў бліжэй да асіны і, высунуўшы з вады галаву, доўга азіраўся, слухаючы начную цішыню. Пасля, стараючыся не плёхкацца, выпаўзаў на бераг і зноў заміраў, гатовы ў любое імгненне крутнуцца назад і даць нырца.

Вось так і падпаўзаў да таго высокага дрэва, па звычцы захоплена вынюхваў яго, быццам шукаючы смачнейшае месца, абдымаў пярэднімі лапкамі і пачынаў сваю справу — грыз, роўна адкапаўшы ствол з чатырох бакоў, ажно ля самага карэння. Як не стараўся быць акуратным, але не заўсёды выходзіла, у цемры мяккая зямля разам з каменьчыкамі трапляла ў рот, пасля агідна скрыпела між зубоў, але прапаласкаць не было чым, бо да возера паўзці далёка і небяспечна. Пярэднія клычкі пачалі балець, чаго раней ніколі не здаралася. Але ён спяшаўся і не звяртаў увагі на такую дробязь; пасля адзін кутні зуб, верхні, закратаўся — і тупы боль аддаўся ў галаве, вышэй вушэй.

Часта брыдотная зямля траплялa пад язык. Тады ён, засунуўшы галаву пад чорнае карэнне, чыхаў — каб ніхто не пачуў, і працягваў сваю нялёгкую справу.

Каб ягоную задуму выпадкова не выявілі, напрыканцы працы, пад самы ранак, акуратна лапкамі засыпаў абгрызенае месца зямлёй, а верх усціляў нарванай травой.

Прыродная інтуцыя падказвала: неабходна спяшацца, у бліжэйшы час, магчыма заўтра, трэба чакаць змены надвор'я з парывамі вялікага ветру.

Наступныя ночы, хаваючыся ад усяго жывога, слухаючы ноч і азіраючыся навокал, грыз і грыз асіну. Хворы зуб не вытрымаў, трэснуў і вываліўся, рот напоўніўся цёплай крывёй; ад горкай драўніны забівала дых, з вачэй цурчэлі слёзы, а ўнутры наплывалі ваніты.

Праз гадзіны тры бесперапыннай працы, дужа стомлены, рэзка ўзняў галаву, каб па зорах вызначыць, колькі там часу засталося да світання — і рэзкі боль працяў левае вока. Сцяўшыся, каб не заскавытаць, паваліўся на траву і з горыччу зразумеў: паранены, ткнуўся ў вострy сук...

«Застаўся без зубоў і вока, зусім скалечыўся!»

Але думаць і гараваць не хапала часу — заранак церушыў над лесам лёгкую дзянніцу. Значыць, хутка ахова выйдзе на бераг возера і пачне прачэсваць тэрыторыю спецаб'екта, асабліва ўважліва зазіраючы пад кусты.

І тут зноў гаротная думка прыйшла ў галаву: шкада, што адзінокі…

Прыўзняўшы галаву, абпоўз дрэва з усіх бакоў, уважліва разглядаючы ствол, і зразумеў нават у цемры і з адным вокам: выдатна!

Дастаткова, астатняе на сябе возьме дружа-вецер.

Бабёр кружыў і кружыў вакол падгрызенай асіны, быццам некалі тыя маладыя спартоўцы каля сваіх байдарак, хаваў аб'едзены ствол і абсыпаў зямлёй, затым кучкамі цягаў траўку і тукаў па ёй ножкамі, прыкопваў — нібы расла тут заўсёдна.

Змучаны, ледзь перастаўляючы лапкі, дацягнуўся да затокі і нырнуў. Начная вада звыкла агарнула стомленае цела, трапіла пад густое футра і ад добрага холаду зашчыкала там, пад самым сэрцам…

Густыя хмары завалаклі сонца, а вецер з возера ўсё мацнеў. Пакінуўшы нямецкую алюмініевую раскладушку на тоўстых пружынах, два панурыя ахоўнікі маўкліва паспяшаліся назад, у будынак, бо вялікагаловы шэф не надта любіў, калі хацеў пабыць у адзіноце альбо з бабай — а каля яго тайкліся істоты. Сёння ён вярнуўся надта хмуры і злы, нейкі чырванашчокі, быццам перапіў моцнай кавы, таму не прывалок з сабой ніякай дзявахі — вырашыў пабыць у адзіноце.

Вецер з возера ахалоджваў ягоны твар, пяшчотна, быццам тонкія рукі маладой каханкі, мацала скроні, і гарбузагаловіку было вельмі прыемна. У наступны момант тоўстая асіна глуха рыпнула і, быццам падрэзаная знізу рукой нябачнага чараўніка, мякка гохнулася на шыкоўную раскладушку. Роўна і акуратна, без лішняга шуму і трэску, абвалілася якраз пасярод лежака, нібы дыпламаваны матэматык з дакладнасцю вылічыў тое.

«Рана ці позна, але расплата заўсёды чакае любую пачвару!» — стары бабёр крутнуўся на купіне, памацаў сваё левае вока, якое надта моцна смылела і ўжо зусім анічога не бачыла, змыў кроў, а пасля ціха нырнуў.

Паплыў у сваю разбураную хатку, дзе ён цяпер са спакойным сэрцам мог памерці.

ЮБІЛЕЙ

# ВОЛЯ І НЯВОЛЯ

Анатоль ДЭБІШ

* * *

*Нехта ляціць да зор.*
*Нехта ў райскай даліне*
*палюе на райскіх птахаў.*
*Я крочу лясной сцяжынай*
*па грыбы і ягады —*
*і восенню,*
*і зімою.*
*Вы скажаце,*
*што такога не бывае?*
*Спытайцеся пра гэта*
*ў рыжай векшы,*
*што ў старажытным дупле,*
*адзінокая,*
*часу імгненні збірае.*

* * *

*За даляглядам Еўропы схаваная ноч,*
*За даляглядам Амерыкі дзень палымнее.*
*Кроў арабіны і хата старая наўзбоч.*
*Поле, клады, крыж пахілы — які не чарнее.*

*Крокі няспешныя бацькі на полі нямым,*
*Ходзіць за плугам штодня ён, не знаючы стомы.*
*Зерне надзеі ён кропіць у нетры зімы…*
*Толькі ніколі яму не вярнуцца дадому.*

*Стол не накрыць, не паклікаць мяне за сабой*
*Зорнаю ноччу ці ў светлы вясёлкавы ранак.*
*Вокны сляпыя зацягнуты смутку смугой,*
*Попелам часу пакрыты знявечаны ганак.*

*Бацькава хата, ізноў да цябе я прыйшоў.*
*Колькі не бачыў! Ты думала, пэўна, загінуў.*
*З золлю туману змрочнаю слотай снягоў*
*Капае долу халодная кроў арабіны.*

*Тут мая спадчына: песні, сцяжыны мае,*
*Поле, клады, пах п'янкі канюшыны і кропу…*
*За далягляды Амерыкі дзень паўстае,*
*Сонца заходзіць за далеччу мройнай Еўропы.*

## Чорны птах

*Чорны птах нада мною кружляе.*
*Чорны птах мае вочы дзяўбе.*
*За цябе ён, напэўна, карае*
*І заб'е ён мяне за цябе.*

*Па-над лесам плыву, па-над дахам.*
*П'ю вятры і снягі, і дажджы.*
*Я і сам стаў даўно чорным птахам,*
*Што стаміўся на свеце больш жыць.*

*Я вітаю і ночы, і ранне*
*І не страшыць ні смерць, ні палон,*
*Бо ў тваё я не веру каханне*
*І яно — толькі прывід і сон.*

*Святарам я не веру, манахам*
*І слязе, што сцякла са шчакі.*
*Мне па вечнасці плыць чорным птахам*
*Праз гады і пакутаў вякі.*

*Чорны птах няхай выклюе вочы*
*І да смерці няхай ён заб'е.*
*Я нікуды з дарогі не збочу,*
*Заплачу за пакуты твае.*

## Кут

*У кут збягаюцца ўсе дарогі,*
*і ўсе шляхі зыходзяць з яго.*
*Ён — вязніца.*
*Ён — бязмежжа.*
*Ён — воля.*
*І — няволя.*



*Кут — пакаранне.*
*І дар Божы.*
*З яго пачынаю свае вандроўкі*
*і вяртаюся да яго —*
*з усіх сцяжынак і прастораў.*

*Тут, за партрэтамі родных і блізкіх,*
*жыве мая памяць.*
*І праз гады —*
*кут ніколі не старэе,*
*вяртаючы маладосць тым,*
*хто даўно пастарэў.*

*Зноў спяшаюся да цябе —*
*родны кут,*
*куточак,*
*куцця…*

## Балада пра сябра

*Ён самым лепшым сябрам быў:*
*Усмешкі шчырыя дарыў,*
*З адной еў міскі, шклянкі — піў,*
*І разумеў — з паўслова.*
*Ды вось патрапіў я ў бяду,*
*І на растрэл мяне вядуць,*
*Яшчэ імгненне — я сыйду…*
*Да д'ябла, ці да Бога?*

*Бывай. Мой край! Мой родны дом!*
*Усё жыццё маё — на злом,*
*Наўкол — Гамора і Садом,*
*Паклёпы, гвалт і здзекі.*
*Хвіліны прамінаюць, дні —*
*А ні сяброў, а ні радні…*
*Натоўп галёкае: «Распні!*
*Каб не ўваскрос павек ён…».*

*Дзе ж сябра мой? Мо толькі ён*
*Аплача мой гвалтоўны скон?..*
*Ягоны чую я праклён, —*
*З натоўпу злітым хорам.*
*«Распні!» — нясецца над зямлёй…*
*З усмешкай шчырай і святой*
*У скронь страляе сябра мой…*
*…Крывёй змывае сорам.*

* * *

*Апошнюю старонку кнігі*
*Перагарнуў… А што далей:*
*Ці завірухі, ці адлігі,*
*Краса вясны ці ліставей?*

*А дні нясуць мяне, бы крыгі,*
*Саскочыць толькі не пасмей…*
*Не дачытаў яшчэ я кнігі —*
*Старонкі вырваны далей.*

# ЯШЧЭ МЫ ПАЖЫВЁМ

Васіль ДЭБІШ

## Стрыбог*

*Яго не стрымаць, не стрыножыць ніяк.*
*Па нівах, дарогах і пушчах*
*Імчыцца Стрыбог, наганяючы страх*
*На сонныя «мёртвыя душы».*

*Ён птушкаю вольнай па свеце ляціць.*
*Свавольны, магутны, вялікі.*
*У вокны і дзверы грукоча, звініць.*
*І чуюцца стогны і крыкі.*

*І змрочныя думкі я з сэрца ганю.*
*За вокнамі, там, нехта плача…*
*І дух ажывае. І подых агню*
*Я чую, паганскі, гарачы.*

* *Стрыбог — бог ветру ў старажытных славян.*

## Дажджбог*

*З вясной ён прыйдзе зноў, я знаю,*
*На сенажаці, на палі —*
*Дажджбог, бог сонца, ураджаю,*
*Святы агонь каб запаліць.*

*Агонь далёкіх продкаў, веру,*
*Абудзіць стылую зямлю.*
*Народ расчыніць вокны, дзверы.*
*Дажджы гаючыя пальюць.*

*Ён панясе агонь над краем:*
*Над Белай Вежаю, над пушчай…*
*Хай ярка полымя палае*
*На небе і — у нашых душах.*

* *Дажджбог — бог сонца ў старажытных славян.*

## Пярун*

*Грымі, Пярун, беспрастанку.*
*Не думай, грозны, пра супын.*
*Будзі народ, пакуль не стаў ён*
*Зусім бязмоўным і сляпым.*

*Не заціхай ні ўдзень, ні ўночы,*
*Паплечнікам мне будзь. Заўжды.*
*Няхай агнём палаюць вочы*
*Твае і помсты, і жуды.*

*Вярні ты памяць нам былую.*
*Узвіся, горды, над гурмой*
*І цемру рассячы начную*
*Крыжацкай вогненнай стралой.*

* *Пярун — бог-грамавержац у старажытных славян.*

## Зоны

*Прысніцца мне: чырвоныя пагоны,*
*З вінтоўкаю на вышцы вартавы*
*І трупамі запоўненыя рвы,*
*І смерць — адно тут выйсце з гэтай зоны…*

*Навісла хмара чорная над краем.*
*На Беларусі зноў нялепшы час.*
*Зноў з мовы здзек. У зоны заганяюць*
*Рублёвыя, чарнобыльскія нас.*

*Мне слова «зона» слых балюча рэжа.*
*Хачу быць вольным я — абрыд палон.*
*Хачу свой край пабачыць незалежным:*
*Без халуёў, без дурняў і без зон.*

## Сувораў

*Няхай крычаць, што ён герой — Сувораў!*
*А для мяне ён не герой. Хацеў*
*Край паланіць. Ён люты кат, каторы*
*Не шкадаваў ні матак, ні дзяцей.*

*Калоў штыкамі іх, цару ва ўгоду.*
*Знішчаў людзей, — якi ж тады герой?!.*
*Найпершы вораг ён майго народа,*
*Таму і асабісты вораг мой.*

*Агінскага люблю і паважаю.*
*Суворава?.. Даруй мне, мой чытач,*
*Я не люблю. Хто ката выхваляе,*
*Той здраднік і імперскі паслугач.*

## Маналог Кастуся Каліноўскага

*Радзіма ёсць, а разам і няма.*
*Шапчу я — «Беларусь!». А мне — «Расія».*
*Такая воля — горай як турма:*
*Чужая мова, песні тут чужыя.*

*Стаміўся ад дажджоў я і завей.*
*Шукаю свой народ, губляю веру.*
*Дзе ваяры за праўду?.. Вас заве*
*Кастусь... І край заве касіянераў.*

*Ды іх няма. Мо паўміралі ўсе?..*
*Хавацца па скляпенням змрочным годзе!*
*Хай шыбеніца. Заклікаю: сей*
*Свабоды зерне, мілы мой народзе!..*

*Бывай, Марыся! Чую, што ідуць…*
*Бяздольнік-вецер застагнаў у полі.*
*А воля будзе! Кайданы спадуць.*
*Смерць не страшыць. Страшней за ўсё няволя.*

## Шлях

***Памяці Анатоля Сыса***

*Меняў імёны, ролі і жанчын*
*І ўсіх учынкамі здзіўляў сваімі.*

*Самотны. Хоць з сябрамі, — ды адзін.*
*І вершаў не пісаў, а жыў ён імі.*

*Ён піў віно. З крывёй. Зямных багоў*
*Ён скідваў, нібы смецце, з п'едэсталаў…*
*Над прорваю ляціць душа яго*
*У лесвічным пралёце за Купалам.*

* * *

***…Шчэ пажывём у скрадзенай Айчыне.***
***Аляксандр Яравы***

*Ніхто не верне радасць мне і свята.*
*Вясну чакаю, а цяпла няма.*
*Смуга. Кружляе вараннё над хатай.*
*І поле, лес, дарога — ўсё ў дымах.*

*Калыша вецер дрэвы нудна, гучна.*
*А ты, а вы… Навошта?.. Пустата…*
*Наступіць ноч, спаўе і будзе мучыць:*
*Не так я жыў, не так жыву, не так…*

*Наш час не наступіў. Калі? Не знаю.*
*Ён хлусамі спалонены. Няма.*
*Так сталася. Над звар'яцелым краем —*
*Аблогай непрагляднаю зіма.*

*Здавалася б — вось сонца, гэтак блізка.*
*А снег па вокны… Спіць глыбокім сном*
*Мой родны край — крыжы і абеліскі…*
*Ды мы не зломлены, яшчэ мы пажывём.*

Паэты Анатоль і Васіль ДЭБІШЫ нарадзіліся 22 ліпеня 1962 года ў вёсцы Шамятоўка Свіслачскага раёна Гродзенскай вобласці. Закончылі Мінскі інстытут культуры. Жывуць і працуюць у Брэсце.

Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў і «Літаратурная Беларусь» віншуюць сваіх сяброў і аўтараў з 50-гадовымі юбілеямі і зычаць ім радасці ды свята — і на наступную палову веку!

ФЕЛЬЕТОН

# НАЧАЛЬНІК ІДЭАЛОГІІ

Анатоль САНАЦЕНКА

**«У нейкім царстве, у нейкім гасударстве жыў-быў цар…» — «Што вы загаворваецеся, цароў у нас ужо 100 гадоў як няма». — «Ну, добра, добра, не цар, а так, дыктатар сярэдняй рукі. Але — з царскімі замашкамі!» — «Вось гэта ўжо бліжэй. Дык што вы хацелі расказаць?..»**



Дапусцім, звалі яго Аляксандрам Васільевічам. Дапусцім, быў ён у першым сваім жыцці вайскоўцам, палітруком. З усімі вынікаючымі… Ваяваў, напрыклад, з Амерыкай, даказваў савецкім салдатам шкоднасць гэтай краіны для сусветнага гістарычнага прагрэсу і г.д. і да т.п. Салдаты верылі — выбару ў іх не было.

Затым «махнатабровага» генсека знеслі на могілкі, імперыя развалілася, полк расфармавалі. А звычка вось, звычка гаварыць — засталася. Што рабіць? Што рабіць? У мясцовай адміністрацыі працаваць хочаце? Ну там арганізацыя ўсякіх-розных мерапрыемстваў, кантроль за дзейнасцю розных партый, грамадскіх аб'яднанняў, газет… Падыходзіць? Пытаеце! Вядома, падыходзіць. Праца ж знаёмая, з людзьмі.

І стаў Аляксандр Васільевіч працаваць, не пакладаючы, так бы мовіць, языка. Працаваў-працаваў, нават мазоль на сваёй працоўнай прыладзе нацёр, давялося паласкаць ёдзінолам.

Пасада яго яму падабалася: ён зверху — усе пад ім. Загадчык аддзела інфармацыі! Гэй, хто там, збоч!... Псік, увогуле.

Але час, як яму і ўласціва, ішоў далей, і патрабаваліся ўжо іншыя назвы, больш адпаведныя.

Аддзел пераназвалі ў ідэалагічны. І стаў Аляксандр Васільевіч ужо начальнікам ідэалогіі. І была дадзена яму ўлада над малымі гэтымі. Улада пасвіць народы жалезным ідэалагічным кіем.

І ўсё б, можа быць, нічога, але гісторыя гэта адбывалася ў краіне, якой у той час ужо правіў звар'яцелы кіраўнік, прыдбаўшы той хвор яшчэ да свайго прэзідэнцтва. Так бывае: група баяраў, жадаючы большага, правяла (падтрымліваючы скрозь) ужо тады не зусім здаровага чалавека да ўлады, намерваючыся кіраваць самой. Але кіраўнік раптам ачуўся, выйшаў са сваёй псіхапатыі і вырашыў, што калі народ за яго прагаласаваў, то не трэба яму ніякіх павадыроў-дарадцаў. Маўляў, самі з вусамі. І разагнаў усіх, дзякуючы каму ўзвысіўся. А некаторых, найболей свавольных, нават на той свет шукаць сваё шчасце адправіў.

Ну дык вось, прайшло з тых часоў 15 гадоў, і кіраўнік зусім з дуба скочыў: узвёў, напрыклад, свайго сабаку-лабрадора ў генерал-маёры, зрабіў сенатарам любімага скакуна (зрэшты, тут ён быў неарыгінальным), завёў па ўсёй краіне мноства сем'яў (мог, скажам, падысці да ўпадабанай яму жанчыны і сказаць: імем цьмутараканскай нашай дзяржавы аб'яўляю цябе сваёй жонкай), а каб народ раптам не заманулася абурацца, пераверў яго, народ гэта значыць, на кантрактную сістэму, ды яшчэ прымусіўшы ўсіх напісаць заявы «па ўласным» з адкрытай датай. А таксама ўвёў усюды, дзе ўводзілася, пасаду начальніка ідэалогіі. Для кантролю за розумамі. А галоўным начальнікам над гэтымі начальнікамі, такім чынам, у горадзе N. быў Аляксандр Васільевіч.

Жылося яму хлебна і соладка. Дзяржаўны чалавек! Кіраўнік «вертыкалі» ўлады! Службовец па адмысловых даручэннях з неабмежаванымі магчымасцямі! Людзі паслухмянымі статкамі заходзілі ў адведзенае ім ідэалагічнае стойла і нават не бляялі. А калі і падавалі голас, дык толькі дзеля таго, каб падзякаваць. Добры народ трапіўся. Рахманы.

Акрамя кантролю за настроямі думак, займаўся Аляксандр Васільевіч таксама арганізацыяй выбараў, якія ён асабіста даўно б адмяніў за непатрэбнасцю: бо і так жа зразумела, хто пераможа. Гэта былі не выбары, а казка! Кіраўнік аднойчы (забыўшыся прыняць своечасова транквілізатары) прызнаўся, што яму гэтулькі галасоў і не трэба. Навошта, маўляў, яму 99 адсоткаў, хопіць, скажам, і 91. А таму — выправіць вынік у бок памяншэння. А то вось перад суседзямі нават сорамна. Не паверыць жа, што ўсе за яго. Словам, — забяспечце.

І Аляксандр Васільевіч забяспечваў. Рабіў усё, як той казаў, у лепшым выглядзе. Не прычапіцца. Малайчына!

І быў бы ён шчаслівы: пашана, павага, імянны гадзіннік ад кіраўніка, але завёўся ў іх горадзе адзін журналіст. Вось як жучок у куце заводзіцца. І точыць, і точыць. І точыць, і точыць. Няма рады! Хоць як добра ўсё склалася: у Аляксандра Васільевіча — пашана і павага, у мэра — бізнэс, у старшыні мясцовай «ахранкі» — рашэнне жыллёвага пытання ўсіх сваякоў, у начальніка паліцыі — свой наркатрафік…

А журналіст усё далдоніць: гэта — няправільна, тое — незаконна… Хіба не зразумела, што закон — гэта мы! Непісьменны які трапіўся журналіст. Цвердалобы. Не парадак, трэба прыняць меры.

І быў распрацаваны план па задушэнні газеты, якой кіраваў журналіст. Спачатку адсеклі ад яе ўсю рэкламу, потым забаранілі продаж у шапіках, правядзенне падпіскі… Словам, пазбавілі сродкаў да існавання. Акрамя гэтага, наклалі строгую забарону на паданне любой інфармацыі, каб газета апусцела ў вачах чытачоў. Далей — распаўсюдзілі ў горадзе меркаванне пра шкоднасць для дзяржавы гэтага выдання. Ну, і не прапускалі магчымасці, калі такая здарыцца, пакараць па лініі міністэрства прапаганды. Скажам, за якую-небудзь недакладнасць у публікацыях.

Цешылася душа Аляксандра Іванавіча: ідзе справа, ідзе!

Але прайшло паўгода, ужо, здавалася б, усё — пара газеце закрыцца. Але журналіст, шэльма, здолеў неяк выкруціцца. І зноў — тое не так, гэта не гэтак…

Так, мяккія сягоння часы, ліберальныя. Гадоў наццаць назад не цырымоніліся б. Прыехалі б уначы: хто тут вораг народа? І ў кутузку, на дзесяць гадоў без права перапіскі. А то лепш — да сценкі. Каб ведалі. А то — свабода слова, правы чалавека, дэмакратыя! Распусцілі народ. Зусім распусцілі.

Зверху на Аляксандра Васільевіча душаць: прыкладзіце высілкі, колькі ўжо можна… Ён — пнецца, дзьмецца і — чорт пабяры — нічога не выходзіць!

Добра, мы пойдзем іншым шляхам. Дамовіўся з начальнікам калоніі — той выпусціў на пару гадзінак траіх сваіх падапечных, тых, што на добрым рахунку. Сустрэлі яны адвячоркам у пад'ездзе надакучлівага праўдаруба — а ў таго, аказваецца, чорны пояс па каратэ, — у юнацтве пасціўся, шмат гадоў прайшло, але цяглісы вось памятаюць, памятаюць… Памятаюць, я сказаў!

Словам, замест калоніі адправіліся добрыя дзецi ў лякарню. І галоўнае, вось як крыўдна атрымалася, нічога журналісту не прад'явіш: дзейнічалі ж нелегальна, хоць і з санкцыі.

Што ж рабіць?

Падсылалі чалавека з хабарам — той быў спушчаны з прыступак; накіроўвалі адмыслова падрыхтаваную супрацоўніцу — журналіст не павёўся…

Начальства гневаецца, але настойвае: брутальнымі метадамі нельга, у нас перыяд лібералізацыі, трэба добра выглядаць у вачах суседзяў, таму — усё павінна быць ціха, неўзаметку…

Лёгка сказаць. Самі б паспрабавалі…

Так у пакутлівай, няроўнай барацьбе прайшло яшчэ паўгода.

І вось у адну страшную-прастрашную ноч прысніўся Аляксандру Васільевічу страшны-прастрашны сон: быццам ідзе ён па горадзе, і кожны стрэчны мінак жудасна, без слоў, узіраецца ў яго твар ды моўчкі, з размаху, б'е яго па гэтым самым твары.

Прысніцца ж такое, сапраўды. Ну, нічога, нічога, у наступны раз нам пакажуць іншы сон.

Але сны паўтараліся з кепскай перыядычнасцю кожную ноч. Прачынаўся Аляксандр Васільевіч зусім пабіты, абмацваў ля люстэрка свой твар: ці цэлыя косці? Баліць, не баліць?

Нарэшце, захварэў. Тэрмінова да хірурга! «Гэта вам, наймілы, да стаматолага трэба», — ласкава казаў беласнежны хірург, асабіста да гэтага з Аляксандрам Васільевічам не знаёмы.

Хворы зуб быў выдраны, а журналіст застаўся. І ўсё гэтак жа па начах адбывалася бясхарнае збіванне Аляксандра Васільевіча на ціхіх вуліцах горада.

Ён страціў апетыт, потым — цікавасць да жыцця…

Далей — больш. Стаў патрабаваць ад паліцыі зафіксаваць «цялесныя пашкоджанні», прыкрасціся ў яго сон і затрымаць мінакоў. Затым, пераапрануўшыся армейскім афіцэрам, выйшаў на вялікую дарогу — рэгуляваць дарожны рух. Прыставаў да пешаходаў і кіроўцаў, патрабаваў ад іх ведаў асноў дзяржаўнай ідэалогіі.

Спачатку яго паказалі лекарам, затым звезлі ў псіханеўралагічнае аддзяленне…

У лякарні Аляксандр Васільевіч карыстаецца ўсеагульнай павагай. Калі ён — сваёй бравай, ваеннай хадой — выкрочвае па чыста вымытым бальнічным калідоры, пацыенты ківаюць у яго бок і нязлосна, з прычыны хваробы, грымаснічаючы, кажуць адзін аднаму: «Начальнік ідэалогіі!» — і весела смяюцца.

**Ад стваральнікаў. Пры напісанні гэтага фельетона не пацярпеў ніводны ідэолаг ці дыктатар. Усе супадзенні — выпадковыя. Усе магчымыя здагадкі — на сумленні чытача.**



АПОВЕД

# ЗАГАДАЙ САБЕ — НЕ ЗДАВАЦЦА

Валер САНЬКО

Ігара Бадановіча ўсё палохала ў кабінеце з завешанымі марляю плакатамі і табліцамі, нават адным завешаным партрэтам. Халодная разгубленасць перапаўняе хлопца.

— Паўтарыце яшчэ раз. Не зразумеў. — Сяргей Каралёў перастаў гартаць блакнот, застыў. — Кажы смела, не бойся. Такую даль ехаў, выказвайся.

— Не ведаю, што рабіць... Думкі розныя... Мае даследаванні нікому не патрэбныя... Я таксама. — Ігару Бадановічу няёмка. — Два гады галавою ў металёвую сценку. Дзеля чаго ўсё?..

Гаспадар кабінета выбухнуў:

— Размазня самазабойная! Нічога не зрабіў, а ўжо хочаш усіх апляваць. Не тупы, а згаджаешся быць тупым.

Пярун грыміць, бліскочуць маланкі.

— Ты з Мінска пёрся ў Маскву, лавіў мяне...

— Чакаў.

— ...каб сказаць, што жыць няварта?

— Так не казаў.

— Хлопча, я цябе бачу першы раз. Такіх слухаю дзясяткамі, сотнямі. Мне ўсё падалося? — Сяргей Каралёў узіраецца ў Бадановіча. Выходзіць з-за стала, садзіцца побач...

...Паўгадзіны назад Ігар Бадановіч стаяў у невыразнай прахадной навукова-даследчага інстытута. На просьбы прапусціць да Сяргея Паўлавіча Сяргеева чуў «Няма тут такіх. Едзь дадому». Некалькі разоў адзін за адным тры чалавекі праглядвалі пашпарт мінчука, гарталі дысертацыю, рэцэнзіі на яе...

Ігар мусіў прызнацца: прыехаў сюды не сам па сабе, а па накіраванні настаўніцы Нэлы Леанідаўны Груздзеўскай. Выдатная геаграфіца і педагог, сапраўдны чалавек з вялікай літары, напісала яму адрас і тэлефон Сяргея Паўлавіча Сяргеева.

«Не пляці нам, хлопча, пра вучылку, ты ўсё пераблытаў», —уз'еліся на Бадановіча ахоўнікі, сталі гразіць міліцыяй. Вывучалі каліграфічнае пісьмо настаўніцы, учытваліся ў клеткаваную старонку з адрасам і тэлефонам, сталі званіць.

Праз хвілін колькі па Ігара Адамавіча прыйшоў круглатвары мужчына ў невыразным шэрым гарнітуры. Азірнуў спісаную выразным жаночым почыркам старонку сшытка, тлумачэнняў ахоўнікаў не слухаў, паперы наведніка не паглядзеў, павёў да суседняга будынка па доўгіх заблытаных калідорах.

Прысадзісты таўсматы чалавек у кабінеце з завешанымі шторамі сценамі адразу папярэдзіў прыезджага: гаварыць коратка, асноўнае, у яго напруга з часам, прыняў вас з павагі да вашай настаўніцы.

— У чатырнаццаць гадоў ты паступіў ва ўніверсітэт, у дваццаць два закончыў аспірантуру. Напісаў дысертацыю аспірантам. У Маскве такіх мала. — Адарваў погляд ад дакументаў. — Гавары, не перапыняйся, паўтараю, бракуе часу. Разумееш, мы тэхнары. У сельскай гаспадарцы петрым па прадуктовых паліцах у крамах. Відаць, мы не зможам памагчы табе.

— Нэлі Леанідаўне я так і казаў, вы не глебазнаўцы, нават не аграрнікі... Яна ўпэўненая ў вас. Едзь і едзь. Мама тое ж: едзь, сынок, Божы чалавек калі не паможа, то хоць выслухае, адно гэта ўзніме. Я й прыехаў, — паніклы адчай голасу расце.

— Груздзеўская вам сваячка?

— Не. Жыла ў нас на кватэры, як выкладала ў школе. Сяброўка мамы. Дабрачачка, не можа крыўду цярпець. Нэла Леанідаўна ўзгадала вас. — Сузіраюцца. — Нават адну выдумаль сказала. («Ну-ну, перакажы. Прашу».) Быццам у вашай машыне ёсць тэлефон. З яе вы можаце перамаўляцца. На хаду. Вышэй і дабрэй ад вас у яе нікога ў свеце.

— Ад вас, ад вас... — бурчыць гаспадар кабінета, перабірае тэлефонныя даведнікі. — За вас трэба, за вас. Або — чым вы.

Каралёў успамінаецца візіт Груздзеўскай у Маскву тры месяцы таму, у жніўні. Даўным даўно сарамязніца, танцорка і спявачка, студэнтка Маскоўскага ўніверсітэта Нэлька Груздзеўская з сяброўкамі некалькі разоў была на танцах у вышэйшым тэхнічным вучылішчы імя Баўмана, пару разоў Сяргейка Каралёў праводзіў яе да інтэрната. Цалаваліся...

Дзесяцігоддзі пралецелі, ні слыху ні дыху пра далёкае юнацтва. А яно позным жніўнем унеслася, узнавіла радасць юнацкай бурапеннасці. Прыяцелька даўнішняя здымкі прывезла — і забуравелася ў душы Сяргейкі Каралёва, доўгацярплііўца і гарэтніка. Большасць аднакурснікаў перамалолі жыццёвыя жорны, удары вайны. Каралёў выпрасіў у Груздзеўскай здымкі тагачасся, уласныя знішчылі берыеўскія слугі...

Бясерэбнікам акадэмік Каралёў, двойчы Герой сацыялістычнай працы, стаў даўно. Праца самаахвярніка паглынала цалкам, выкавала жалезны характар і стальныя нервы, не давала магчымасці попусту слюнявіцца ў выдабрачніцтвах, асабліва перад незнаёмымі. З прыезджым наіўняком выпаў не той каленкор.

Бадановіч спрабуе павядаць пра беларускую прафесійную закасцянеласць. Аўтарэферат дысертацыі быў. Другі год не ставяць на абарону. Перасталі друкаваць, бо ён, дурань, пісьмова і часцей вусна крытыкаваў сельскагаспадарчыя парадкі на Беларусі. Водгук на дысертацыю не заверыць, проста не шлёпнуць пячатку на водгук — у беларусаў звычнасць. Без рэцэнзіі навуковы артыкул у навуковых рэдакцыях нават чытаць не хочуць.

— І ў Маскве не рай. Але ў гэтым можа хто вам і паможа...

Рыўком адчыняюцца вялікія бясшумныя дзверы, чуваць жаночае «нельга, прашу вас, нельга».

— Мяне бяруць на працу, — ад уваходу вымывае уварвалы.

— Каб сказаць мне гэта — нагрубіяніць сакратарцы. Што мне, міліцыянера на вас ставіць...

— Вырваўся. Сказаць галоўнае. Я не прахадны, усе цвердзяць, непрахадны ў Маскве. Зэк. Вам могуць быць непрыемнасці. Мне трэба вам сказаць. Зэк я, зэк.

— Праца трэба?

— Пазарэз. Нідзе не бяруць. А ў вас ...

— ...завод сур'ёзны. — Секундная замінка Каралёва. — Возьмуць вас. Я напісаў рэзалюцыю. Таму бяруць.

— Я зэк, зразумейце, зэк. — Твар расплываецца ў сутарзе ці ад болю плачу.

— Вы не проста згаджайцеся працаваць, выбірайце працу. Скажаце ў кадрах, толькі што размаўлялі са мною. — Сяргей Каралёў успыхвае. — Ніякіх паклонаў, слёзаў. Трываў там, вытрываеш у нас. — Рэзкі пераход. — Дзе сядзеў?

— Вы не ведаеце, не чулі нават, пад Магаданам. У Сусумане.

— Па суседству з Сонечным, пасёлкам і лагерам. — Вочы на вочы, боль на боль. — Ідзіце. І не раскісаць. Працуйце... — І Бадановічу, рэзка: — Што ў вас? Канкрэтна. Хутка.

— Загадчыку аддзела ў Інстытут глебазнаўства каб хто пазваніў... Іван Дарафеевіч харошы чалавек, казаў мне: «Прывозь дысертацыю і водзывы». Нашыя не адпускаюць.

— Што значыць не адпускаюць?

— Ніякай паперы не даюць...

— Трасуцца за седала, — дакладніць Каралёў. Просіць наведніка не паўтарацца. Чым болей уведваецца правадзейны член акадэміі навук Савецкага Саюза Сяргей Паўлавіч Каралёў пра тваранья няпраўды з маладым здатнікам, пазіраў на збялела-спалоханы твар сялянскага наіўняка, тым лепей бачыў сябе. Забаранялі армейскія начальнікі, а яны, маладыя дурні і энтузіясты, зрабілі ракетную ўстаноўку, пасля і самалёт. У чарцяжах. Іх справядлівая савецкая ўлада высока аддзячыла — усіх адправіла ў турмы. У лагеры.

Закіпела душа Каралёва, у вар гневу апускаецца сэрца.

—Загадчыку аддзела сельгасакадэміі мне званіць не выпадае, — пагуджвае. — Трошкі вышэйшага каго патурбуем.

Пасля двух няўдалых спробаў дазваніцца просіць нябачнага Віктара Пятровіча звязаць яго з Лабанавым. Пытае ў наведніка, ці ведае Лабанава.

— Не. — Сузіраюцца. Каралёву прыемна няведанне Бадановіча.

Званок. Размова кароткая.

— Павел Паўлавіч, Каралёў турбуе. Вашых мы тройчы выручалі. Ну не пераболышвайце, нашыя да вас звоняць часцей. Цяпер я вас прашу... Сядзіць перада мною беларускі праўдалюб. У дзевятнаццаць гадоў закончыў універсітэт, біялагічны факультэт. На выдатна. Два гады падае на абарону гатовую дысертацыю. Водгукі — пяцьдзясят на пяцьдзясят. Пакрытыкаваў пару разоў мясцовых меліяратараў. Труцяць беларускія ідэолагі хлопца. Неабходна дапамога. Не яму, справядлівасці...

— Ведаеце, з кім я гаварыў?

— З нейкім начальнікам, вялікім...

— З прэзідэнтам. — Каралёў бачыў аслупяненне блакітненькіх хлапечых вочкаў, дабіваў. — Акадэміі сельскагаспадарчых навук. Усесаюзнай. Старшынём ВАКа аграрнікаў.

— Ён для нашых інстытуцкіх высознае воблака...

— Ісці, дык ісці! Зараз ты будзеш чуць абодва галасы. — Націскае тумблеры на прадаўгаватай дошцы. — Павел Паўлавіч, зноў Каралёў. Мне во што думнулася. Мінскае самаедства надоўга зацягнецца. Вы можаце хутка арганізаваць прагляд дысертацыі Ігара Бадановіча ў сябе, ці ў акадэміі, Ціміразеўскай?

— Запраста. Для гэтага стваранья, — чуецца і Бадановічу...

Каралёў спрабуе зачытваць вытрымкі з заключэнняў на дысертацыю. У дзверы каторы раз заглядвае мужчына, потым жанчына, жэстам Каралёў запыняе іх. Тэлефонныя размоўнікі дамаўляюцца: прыезджы зараз падскочыць ва Усесаюзную сельскагаспадарчую навуковую акадэмію. Машынаю Каралёва.

Ігар Бадановіч гаварыць няздатны, вышэптвае падзяку. Ён не ведае час новай абароны дысертацыі, дзе яна будзе, у Мінску ці Горках на Магілёўшчыне, адна мажлівасць абараніцца ў Маскве падзейнічае на беларускіх зашоранцаў і замоўчванцаў.

Каралёў раіць Бадановічу меней дзячыць. Законы краіны Саветаў часта парушаюцца, аднак яны справядлівыя. Калі ў праведных руках.

— Кажаш, у вас шасцёра ў сям'і, ты старэйшы, мама настаўніца біялогіі, бацька малодшы аграном... — Сяргей Каралёў перапытвае, якая зарплата ў малодшага навуковага супрацоўніка правінцыйнага навукова-даследчага інстытута другой катэгорыі. — Восемдзесят сем рублёў, не густа, восемдзесят сем рублёў.

Рыўком паднімаецца, дрыгатлівым голасам просіць Ігара Адамавіча Бадановіча аказаць яму ласку.

— Любую вашую просьбу выканаю, калі здолею («Можаш, можаш».), давайце любую просьбу, магу затрымацца ў Маскве.

Каралёў ідзе да сейфа, бярэ патрэбныя паперы, падыходзіць да Бадановіча, укладвае ў кішэню пінжака.

— Як выйдзеце з нашага інстытута, пачытаеце іх. — Загадна: — Чуеце, што сказаў.

Пры развітанні, ужо парукаліся, Бадановіч механічна палез па насоўку ў кішэню. Дастае не — і грошы. Твар мэнээса ўздрыгвае. Так, ён бедны, а грошаў не трэба.

Ролі перамяніліся. Цяпер яго просіць Сяргей Паўлавіч, прымусова засоўвае паперкі ў тую ж кішэню. Загадвае не вымаць. Бо не дасць машыны даехаць да акадэміі. Грошаў на таксі ў Бадановіча няма, ужо абед, пакуль распытаецца, даедзе, пройдзе прахадныя, звечарэе, Лабанава не застане.

— Вы такі, самі не ведаеце які, — трэ кулаком шчокі і вочы Бадановіч. Прыціскае рукі да грудзей. У парыве задушэўнасці і найадкрытасці выдыхае: — А я ўжо хацеў... Ведаю: нельга, грэх волю Бога парушыць, а само думалася... Не раз. Загналі як ваўка. Запланавалі скарацьць з глебазнаўчага інстытута...

— А ты?

— Не магу без сваіх дзялянкаў, глебазнаўства ў сэрцы. Мама плакацьмуць. Само думалася...

Здарылася непрадбачанае. Грозны ўладнік у кабінеце, які ездзіць у чорнай «Волзе» з няпростай рацыяй, каторы сёння быў строгім і мяккім, шчодрым і слёзным, вялікі начальнік прыхапіў Бадановіча ад дзвераў, таўхнуў да стала з крэсламі, поруч застыў сам.

— Паўтарыце яшчэ раз. Не зразумеў. — У вачах Сяргея Каралёва цемрадзь. — Паўтарай смела, не бойся.

— Не ведаю, што рабіць... Думкі розныя... Мае даследаванні нікому не патрэбныя... Я таксама. — Ігару Бадановічу мулка ад узбліскаў воч субяседца. — Для чаго ўсё?.. Два гады галавою ў металёвую сетку. Для чаго ўсё?

— Няхай прападуць мае доследы... — На чарговае сузгоднае пакіўванне маладога твару рык грубага голасу. — Пень! Хочаш усіх апляваць. Родных — так і быць, уласную кроў гнюсіш — так і быць. А навуку за што? Ты прыйшоў, запішчаў — і ўсе павінны расступацца?..

Гром, вецер, маланкі, вятрышча ў прасторным кабінеце. Пайшоў дождж, лопае па шыбах, украпвае падлогу, канапу. Мочыць вопратку абодвух мужчын, мые твары.

— Ты з Мінска сунуўся ў Маскву, шукаў мяне...

— Доўга.

— ...каб сказаць, што мерышся лезці ў цемру? Двойчы пляцеш пра самагубства.

— Так не казаў.

— Хлопча, паўтараю, падобных я слухаю і бачу дзясяткамі. Не салі мазгі сабе і мне. Цяпер адно жыць, не раскісаць з-за паскудніка, дробязя ўдачы/няўдачы. Чарговай. — Каралёў рашучыць за стол. — Не ведаю, чаму размякнуў сёння. Нікому не казаў. У кожным баюся ўбачыць двурушніка, даносчыка, не жадаю перажыць зведанае.

Азірае застылага бліз стала мінчука.

— Курыш?

— І піва не бяру.

— Таму й мазгаўня варыць. Малайчына. — Узіраюцца адзін у аднаго.

— Вас я баюся.

— Правільна робіш. Сябе таксама часам баюся. Слухай. Навекі выб'ю заранняе подум'е пра той свет.

Сяргей Каралёў ужо быў Там. Адзінкі ведаюць пра гэта...

Усё парушыў ранішні суботні строй. Па выкліку не з'явіўся нязграбны працавіты клапатун. Мардвіна Мокшу, у цывільным жыцці брыгадзіра і стаханаўца, трэцюю ноч днявальныя, іншыя выслужбоўцы аховы будзілі праз кожную гадзіну. Калі абяссілены пярэчыў, атрымліваў удары. Якраз тым ранкам Сяргей

Каралёў натрапіўся на збіванне безадмоўнага мужчынкі. Заступіўся. Навошта здзекавацца з хворага?..

Палёты абедзвюх палак над сабою Каралёў супыніў, ні аднаго з двух вертухаяў не ўдарыў, не абразіў словам.

— Будзеш здыхаць, як гэта мардзвінская шкілеціна, і ніхто не заступіцца, — здзекліва паабяцаў дзясятнік Хведар заступнічку за слабага.

Ці мала чым можа гразіць бяздарнік, пустое. Усчалася б звада, мацак Каралёў раскідаў бы не гэтых двух, а чатырох. Так думаў ён, іначай думалі канвойныя і ахоўныя. На дзялянках Каралёву сталі трапляць тоўстыя сукаваціны-дрэвы, у непрыдатных мясцінах, пілкі-аднаручкі ламаліся, з дзялкі пайсці раней вызначанага не мог, да цяпельца працягнуць рукі нізашта.

Лёгкая дасюль норма зацяжэла, перастала выконвацца, адпаведна змяншалася пайка. Двойчы ў пахлёбцы траплялі цвікі. Месяц Каралёва кухталялі знеўпрыкметна, выпадкова, потым тычкалі ў адкрытую.

Прайшоў квартал. Матэматык і лётчык Каралёў у куце для анучаў і мётлаў лічыць не прылётных птахаў — крокі ахоўных, галасы атраднікаў. Крычаць, настойваць, трапіць да начальніка не мог, не дазволілі б. Ляжаў сярод трох дахадзягаў, такіх неаднойчы паміноўваў з маркотаю: не жыльцы, тыдзень недаядання і холаду не вытрымае самы дужы.

…Каралёў маліўся ўсё жыццё. На двухтыднёвых штоночных допытах у следчых, на збіваннях маліўся ў адкрытую. З яго смяяліся — і не прыбілі, не асудзілі да расстрэлу. У адным з сотні магаданскіх лагераў («Сонечны» — такая прыгожая назва найздзекнай катоўні) Каралёў кожную вольную хвіліну прасіў у Неба і Усюдыіснага не працягу жыцця, хлеба і да хлеба — мажлівасці выканаць задуманае. Пабудаваная ў чарцяжах ракета, першая ў Савецкім Саюзе, павінна ўплоцевіцца ў метал, узляцець…

З трох, двух, пяці, аднаго сулежнікаў за нейкі паўмесяц застаўся Каралёў адзін. Ніхто не адказваў на выгалас абяссіленца з-пад каптаноў і анучаў. Не ўзнімалася рука зэка, няўзнак адпіхвалася міска з поліўкаю — і праз дзень—два саламяны матрац пуставаў бы. Позна ўвечары мерцвякоў выцягвалі ў агульную траншэю; увесну, восенню і зімою траншэі не былі патрэбныя, мерцвякоў валаклі за агароджу, за ноч след іх прастываў — сабалі, лісіцы і ваўкі радаваліся нетурботнай кармёжцы.

Холад ацінаў Каралёва, накінутыя поверх лахманы не ўтрымлівалі дух. Злічаныя былі яго не дні — гадзіны.

Не здаваўся, не мог. У неба вылятали не шэпты і думкі — сэрца. Бо-жух-на, не пратэстую супраць Твайго рашэння, Ты Усямоцны, чуеш, я Табе паслужу як ніхто. Выратуй ад гібных сноў і думкаў, няхай збудзецца воля Твая ў дачыненні мяне, грэшнага.

На адчайна-высокай малітве Каралёва да Бога па бараку ўранку прыспешваў маёр Гаркавы, за ім світа мясцовых НКУСаўцаў. Маёр не давяраў лагерным рапартам, лічылкам, па спісе звяраў «Сонечнеўскіх» арыштантаў.

Краіне тэрмінова патрэбна ствараць новыя самалёты, мацаваць савецкія паветраныя сілы.



У 1930 і 1931 гадах ва ўсіх лагерах і турмах расшуквалі ўцалелых вучоных, збройнікаў, канструктараў. У «Сонечны» паспешны маёр прыехаў дарэмна. Не было ні аднаго чалавека з спіску. У апошні барак ісці суправаджэнцы адмаўляліся, правяральніку самому не хацелася, дарэмная важданіна.

Пунктуаліст маёр Гаркавы пайшоў. Ужо на выхадзе з барака з тхлой кучы лахманоў высунулася рука. Токам працяла маёра. Адкінуў нагою рызманы. Лабасты шкілет заміргаў. Хутчэй для адчэпу спытаў прозвішча.

— Каралёў, — выдыхнуў мясцовы старлей…

— Сяргей Каралёў, — прашыпеў маскоўскі ў цывільным.

У лагернай бальнічцы маскоўскі высокі госць доктару і начальніку лагера спярша гразіў: не вылечыце лётчыка і вучонага, будзеце самі ў лагеры. Потым прасіў, настойваў: якхочна карміце і лячыце, падніміце на ногі Каралёва; ён стане гонарам лётнай акадэміі.

Восень у Сібіры хуткая, кароткая. Зэк Каралёў просіць у лагернага начальства дазволу на выезд з лагера. За зіму ён у «Сонечным» нічога не зробіць, можа памерці; Каралёў удзячны за аздараўленне; просіць дазволу адправіць пісьмы родным і ў канструктарскае бюро.

— Што з цябе будзе, не ведаем, але ты ўжо нам агорчыў, — выклікалі ў сераду ахоўнікі Каралёва.

Ніхто не слухаў пра важнасць навуковых задумаў зэка. Зоне было б лацвей, каб Сяргей Каралёў наогул не ўзнікаўся. З-за аднаго так званага канструктара шуму болей, чым за дзясятак палітычных.

— Выйсце адно. Заўтра паедзеш у Магадан. Не — зазімуеш з намі.

На старой палутарцы трое мужчын ураніцы кранулі па добра вядомай мала замеценай дарозе. Шафёр і канвойнік у кабіне газончыка, Сяргей Каралёў у кузаве.

Шаснаццаціградусны мароз і хуткая добрая дарога сагравалі зэка Каралёва. Укрываўся лахманамі паддзёвак і кажухом, ногі ў валёнках дубелі, дыханне ад павышанага марозу ледзяніла вусны, а сам радаваўся. Яны паспеюць у Магадан на карабель. Праз тыдзень ён будзе ў Маскве.

Два супынкі дабітага грузавічка трывожылі нямоцна.

Хто не дагледзеў і што не дагледзеў, шафёр не ведаў. Бензін у баку яшчэ быў, а матор заглух па-сапраўднаму. Тры лагернікі «Сонечнага» праехалі дзевяноста шэсць кіламетраў, амаль усю дарогу, засталося сем. Кінуць машыну — расстрэл, ісці пехатою — замерзнуць, гойсае жывая смерць, ваўкі, заставацца ў грузавічку, чакаць заўтрашняй сустрэчнай — наўрад ці выцерпяць ноч, замерзнуць.

Каралёў доўга прасіўся, запэўніваў, паказваў выклік у Маскву за подпісам намесніка наркама, гразіўся, абяцаўся. Нарэшце даў распіску: прыйдзе — адразу з'явіцца да каменданта, любога магаданскага міліцыянера, стане на ўлік.

— Куды ўцячэш ад бяскрайнасці і марозу. Каб хацеў, нікуды з таптанкі не збочыш, — у каторы раз запэўніваў удзячны зэк Каралёў канвойнага сяржанта.

Тут, у бязмежжы холаду і даляў, аднастайнасці ватнага неба спадзявацца хоць на што не было як. Мароз, сівое невыразнае поле, лес, узветрыкі. Губы не шавеляцца, вочы не хочуць і не могуць глядзець. Халадэча расце.

Бог і мама на вуснах і ў мазгах зэка Каралёва, Бог і мама.

Пачаў паўзці. Каціўся.

Нечаканае цяпло ў згаладнелы страўнік, нутро, ва ўсё цела не абрадавала. Прыйшла смерць, саграває. Цяпершчына нікога не адпраўляе Туды без надзеі цяпла.

> Чакаюць людзі ад'езду па тыдню, месяцу, а ён яшчэ не заявіўся, ужо рвецца ў Еўропу. Яму холадна, баліць. Пакажы ў Магадане хоць аднаго, каму не холадна і не галодна

Спужаўся. Здасіся цяплу і радасці нешавялення — здохнеш. Сібірская глухая снежная ноч знішчыць цела.

…Ужо не поўз, апіраўся на ламезіну, ішоў… Шыбаў не чалавек, кульгачыла напаўзвар'яцелае страшыдла.

Божухна, невымерная Твая шчодрасць. Заблізілася кантрольная будка для ахоўнікаў і стражнікаў, услончык унутры, акраец хлеба на ўслоне.

Хто паміраў і апошнюю нарыхтобу выклаў з-за пазухі на ўслон, Сяргей Каралёў ніколі не ўведае...

Зноў клыпаў на нервах і хлебе. Раз грызяне, пяць разоў ступіць, аддыхаецца, грызяне, ступіць…

Чым больш чалавек уведвае, тым большыя ў яго межы дабра, граху, няведання; чым упарцей клыбаў зэк Каралёў, тым бліжэлі гукі.

Міраж. Быў ужо адзін. Чаму заяўляліся міражы…

Тое быў не міраж. Прыземлены далёкі Магадан заўзбліскваў вогнікамі, далёкія павабна смяяліся, кпілі, звалі.

Не ўцяклі.

У крайніх хатах Магадана ўпрыцемку ўбачылі страхапудзіну, уцякач кульгачыў на двух палках. Не распытвалі, прытулку не далі. Адразу ўподручкі і да міліцыянера.

— Гарыць? Чаго было перціся такую даль, — канвойны ў кажушку разглядвае паведамленне-выклік зэка Каралёва. Не верыць роспісу самога намесніка наркама. — За падробку такога подпісу расстрэл на месцы.

— Старшына, расстраляць паспееце. Вядзіце да афіцэраў, — падганяе зэк.

— З кім яшчэ хочаш ведацца? — лагодніць той.

— З зоркамі.

— Каралёў, не загінай. Вар'ят ці што.

Даказваўся Каралёў многім, паказваў выклік з высокім подпісам, гразіўся, прасіўся, плакаў… і павялі знясіленца ўранку да самой прыстані.

Таўкатнеча, бойкі, даўкі. І вось з'явілася яшчэ адна пясчынка, каторая будзе выць, прасіцца: вазьміце на карабель. Ды хто кропля такая ў гэтым моры. Чакаюць людзі ад'езду па тыдню, месяцу, а ён яшчэ не заявіўся, ужо рвецца ў Еўропу. Яму холадна, баліць. Пакажы ў Магадане хоць аднаго, каму не холадна і не галодна.

Абодвух міліцыянераў з худзенем-зэкам абмацюкалі і прапусцілі. Каб Каралёў пачуў: праз гадзіну адыходзіць апошні параход на мацярык. Ні аднаго вольнага месца на перапоўненым «Ярмаку» няма, на адно просяцца чатыры вызныя, не везці ж народ на палубе.

— Мяне чакаюць ракеты і зоркі, — спрабуе доказніць ачунялы накормлены зэк.

— Таму і не магу цябе ўзяць, — не ставала камандзіру яшчэ вар'ятаў.

Зіму ў Магадане ён не перажыве, яго не дачакаецца Масква, стагнаў Сяргей Каралёў у шпітальнай цеснаце. Двойчы выратавала яго нябесная сіла, болей не сіліць. Значыць, яго такая доля. Не стану, Божухна, назаляцца Табе просьбамі. Ад наканавання не схаваешся.

Праз дзесяць дзён у Магадан прыйшла навіна: перапоўнены «Ярмак» замёрз. Не выратаваўся ад марозу ніводзін чалавек…

…Новыя адчуванні запаўняюць мэнээса Ігара Бадановіча.

— Я дудка, свісток, арган. Баюся шмат выказваць, каб не прынесці вам зашкоды.

— Усім не кажы, толькі здатнаму прыняць, адпаведна пераўвасобіцца. Прытчы і сітуацыі падказваюць, не навязваюць. Сам ідзі, уразумвай. Прытча кожнаму пад яго розум. — Сяргей Каралёў пазіраў на беларуса, злаваў і прыемніўся. Сяргею Каралёву горка.

Людзі не ўсведамляюць, што жывуць у святле думак, спадзяванняў і рашэнняў, потым толькі дзеянняў. Вельмі многія ўключаюць глузды пасля справы.

— Урэж навекі, будзеш поблізу труны — і не карыся смерці. Не здавайся.

Агаломшаны пачутым Бадановіч не мае сілы казаць хоць што. Пазірае на ўпацелы твар субяседніка, не можа суняць дрыжыкі. На грудзях мурашкі.

— Не ведаю, Сяргей Паўлавіч, за што мацней вам сардэчніць — дапамогу, грошы, за аповед аб перажытым... — Задумваецца. — Таму ваша машына супынялася поруч храмаў на дарозе, шапку знімаеце.

Каралёву прыемна, настаўніца Груздзеўская прыезд выдатна запамятала, нават прыпынкі ўзбліз сабора.

— Ты некалькі разоў узгадваеш Бога, правільна робіш. Трэба рабіць па-Божаму... Пра сустрэчу і пачутае — нікому ні слова. Нэлі Леанідаўне і маме паклоны.

У прыёмнай Каралёва сабралася народу. Быў ваенны з тоўстымі зоркамі на пагонах. Пры з'яўленні Каралёва ўсе ўсталі. Нечакана для ўсіх Сяргей Каралёў уголас напамінае маладому далёкаму госцю, каб заўтра пазваніў. Мажліва зноў давядзецца сустрэцца.

Ігар Бадановіч не выходзіў з канструктарскага бюро аўтамабіляў — ляцеў. Вытрапечвалася душа. Цяпер, верыў, пойдзе ўсё на лад. Не ад вераемнай дапамогі, ад уведанага з Патаемня.

АПОВЕД

# ДЗЕ ХОБІ, ТАМ І БІЗНЕС

Стас ІЛЫН

**Кішыць рыбай уладны Атлантычны акіян, гэтак жа, як амерыканскае жыццё кішыць рознымі дзівацтвамі. Адно дзівацтва такое, што ўсе забавы ў Амерыцы проста ці ўскосна, але звязаныя з паяданнем ежы. У такіх умовах арганізаваны паляўнічы і рыбалоўны турызм. Ён раскручваецца па тых жа законах маркетынгу і рынкавых адносін, як кожны іншы бізнес у капкраіне.**




Адпаведна, жаданне кліента — закон, і любую нашу прыхамаць або забытую дзіцячую мару спрытныя бізнесмены гатовыя без пярэчання ўвасабляць у жыццё хоць кожны дзень, абы слухаць шэлест купюр, што вандруюць з вашай кішэні ў іх пухлы капшук. Ну, а калі шалясцець вам няма чым, дык мары вашы нікому, акрамя вас, і не цікавыя.

Ад нашага малога астраўка толькі адхлынуў дзіцячы турыстычны сезон, а кішэні ўсіх мясцовых рабацяг запоўніліся за гэтыя тры месяцы прыемным папяровым шэлестам. Дык кожны і пачаў сублімаваць гэты шэлест у рэалізацыю сваіх таемных жаданняў. Я ўжо даўно хацеў парыбачыць не з берагу, а непасрэдна ў акіяне. Прагледзеўшы ўсе магчымыя прапановы прыватных чартарных лодак, я ацаніў свае магчымасці ў 50 у.е. І спыніўся на шасцігадзінным круізе на луфара і камбалу з адплыццём ад берагу не далей, чым сем кіламетраў. Пасля, вядома, зразумеў, што паскупіўся, і трэба было браць дзесяцігадзінны — на страйпера. Тады б мяне аддзяляла ад берагу прыкладна кіламетраў 50, але і заплаціць давялося б у два разы болей.

Сярод мясцовага беларускага насельніцтва знайшлося яшчэ трое летуценнікаў, гатовых патраціць палавіну свайго выхаднога дня на штохвіліннае выкідванне на вецер магічнай сумы ў 13 цэнтаў з кармы цеплахода за сем кіламетраў ад берагу. Прынамсі, у выпадку нулявога ўлову менавіта так і глядзяць на падобныя круізы людзі, абыякавыя да рыбалкі. Таму хатнія стэрэатыпы пра тое, што культурныя рыбакі на Захадзе сумленна адпускаюць злоўленую рыбу і рыбачаць толькі з-за асалоды ад самога працэсу, мусіць, да гэтага самага Захаду так і не дайшлі. Адпускаюць тут тое, за што можна атрымаць штраф, ды і то не заўсёды. Карыслівыя амерыканцы вельмі баяцца траціць попусту час, таму прыносяць дамоў усё, што заўгодна, абы не сарамаціцца перад суседзямі. Мы таксама настроіліся браць усё падрад, таму што наперад запрасілі паўгораду на юшку.

Калі мы ранкам набліжаліся да пірса, які хаваўся ў тумане, было прынята рашэнне без рыбы дамоў не вяртацца, і «калі што» — купіць яе, свежавылаўленую, у рыбнай лаўцы на тым жа пірсе.

Ахвотных парыбачыць у той дзень было не густа. Разам з намі набралася чалавек пятнаццаць, сярод іх адзін стары, які ледзь падняўся на борт, але быў настроены ваяўніча. Толькі хтонебудзь пытаўся: «Колькі часу?», стары адказваў гучна з усмешкай: «Самы час злавіць вялікую рыбу!». Таксама незразумела, якім ветрам занесла да нас на судна некалькі маладых параў, яўна настроеных не рыбачыць, а проста правесці час удваіх, назіраючы, як падскокваюць з вады дэльфіны. Самым апошнім на борт зайшоў суровы афраамерыканец, трымаючы ў руцэ доўгі чорны футляр з надпісам BAZUKA. Ён быў адзіны, хто

Карыслівыя амерыканцы вельмі баяцца траціць попусту час, таму прыносяць дамоў усё, што заўгодна, абы не сарамаціцца перад суседзямі

прыйшоў са сваёй вудай. Відаць, з гэтай прычыны глядзеў на ўсіх звысоку, пыхліва расчахляючы сваю «базуку».

Наш цеплаход з рамантычнай назвай «Зорнае Святло» даволі доўга плыў па заліву ўдоўж вострава, абмінаючы ўсе масты, і нарэшце выйшаў у адкрыты акіян. Там ён істотна прыбавіў хуткасці, і праз некалькі хвілін многія даведаліся, што хварэюць марской хваробай. Ніхто, праўда, адкрыта ў гэтым не прызнаўся, але гледзячы на бледныя скрыўленыя фізіяноміі, усё было зразумела і без слоў.

Каманда нашага «лайнера» складалася з капітана і двух памочнікаў, якія наразалі нажыўку, выдавалі вудзільны, арэнда якіх каштавала 5 у.е. за штуку, дапамагалі распутаць леску, а таксама маглі даць кароткі майстар-клас тым, хто рыбачыў упершыню. Адзін з іх быў падобным да гогалеўскага казака. Выпучыўшы свой велізарны жывот, ён моўчкі прагульваўся па палубе, мармычучы нешта ў вусы, з-пад якіх увесь час тырчэла цыгарэта. Відаць, раней ён быў адчайным «марскім воўкам,» а цяпер, на пенсіі, падпрацоўваў тут. Ён па-майстэрску разбіраў рыбу на філе двума рухамі, адточанымі гадамі, і мы, абступіўшы яго кругам, моўчкі назіралі за гэтым магічным працэсам.

Пакуль мы плылі, гэты мужычок сабраў з усіх жадаючых па 3 у.е. у банк, які ў канцы рабалкі павінен быў атрымаць той, хто зловіць самую вялікую рыбу.

Праплыўшы некалькі міль, наш цеплаход спыніўся, і быццам вялізны павук, пускаў у недры акіяну павуціну з нашых лесак. За нашы кроўныя 5 у.е. нам выдалі даволі цвёрдыя бартавыя вудзільны даўжынёй каля двух метраў з простай інерцыйнай шпуляй і прымацаванымі двума кручкамі, прывязанымі на адлегласці дзесяці сантыметраў адзін ад аднаго. Вочы многіх запоўніў салодкі туман ад прадчування, як толькі яны ўявілі адразу двух важкіх луфароў на вудзільне. Тыя ж памочнікі параілі, што трымаць вудзільна трэба колцамі ўверх і адпаведна левай рукой, а шпулю круціць — правай. Калі шчыра, мая левая рука была да гэтага не падрыхтавана, і таму ў апошнюю гадзіну гатовая была без майго ведама шпурнуць надакучнае вудзільна ў акіян. У такім выпадку кішэня нашага пузатага «казака» папоўніўся б яшчэ на 20 у.е.

Плынь у гэты дзень была даволі хуткая, таму ўсім даводзілася вудзіць з аднога борту або з кармы, каб леску не зацягнула пад «Зорнае Святло». Праз такі натоўп вудзільнаў і рыбакоў абстаноўка ў першыя хвіліны была вельмі напружаная: то нехта чапляўся сваім кручком за леску другога, то ў час бадзёрай падсечкі дзядуля-гумарыст лупануў вудзільнам па старэчай лысіне, то нехта зачапіў локцем і перавярнуў у ваду кантэйнер з нажыўкай, аблегчыўшы рыбе здабыванне ежы. Як высветлілася, луфар актыўна прамышляе канібалізмам, таму ў якасці нажыўкі мы выкарыстоўвалі парэзаныя кускі філе таго ж луфара.

Што датычыць вудзільнаў, дык мы былі крыху здзіўленыя, калі ўбачылі, што кручкі былі проста прывязаныя да лескі, бо прачыталі перад гэтым у Інтэрнэце, што лавіць луфара трэба толькі на металічны павадок. Луфар — рыба драпежная з вельмі вострымі зубамі, і згодна з аповедамі блогераў-рыбаловаў можа запраста адкусіць палец. І ў той жа час, за шэсць гадзін рыбалкі не здарылася выпадку, каб некаму перакусіла леску. Можа, гэта адносіцца толькі да буйных рыбін, памерам па дватры кілаграмы, якіх ловяць на ўбярэжжы паўночней, у якім-небудзь Мантоку… Мы лавілі, у прынцыпе, дробязь, не даўжэй за чатырнаццаць дзюймаў. Затое па актыўнасці паводзінаў гэтая дробязь не ўступае нават акулам, таму працэс лоўлі ўсё роўна быў вельмі захапляльны.

Наш цеплаход рабіў стаянкі па паўгадзіны, пасля праплываў некалькі міляў і зноў спыняўся. У часе першай стаянкі я злавіў камбалу; убачыўшы яе, малады памочнік рвануў да мяне з рулеткай, але тут жа ў мой локаць упёрся жывот нашага сівога «марскога воўка». Ён прыкінуў сваім вокамерам, які, па яго словах, лепш за любую рулетку, што тут усяго дванаццаць дзюймаў замест патрэбных васямнаццаці, і мая першая рыбіна адправілася назад у акіян.

А ў гэты час народ поўным ходам цягаў луфароў, для якіх згодна з законам штату Нью-Джэрсі не было абмежаванняў у памерах. Як толькі нехта даставаў, адзін з памочнікаў адразу выкрыкваў гэтую навіну.

У час адной удалай стаянкі гаварыць бедалагу даводзілася вельмі хутка, што рабіла яго падобным да аўкцыяністаў у самы напружаны момант гандлю.

— Злева два, адзін ззаду, зноў адзін злева, падвойны наперадзе, яшчэ падвойны? Два падвойныя спераду, акула справа, яшчэ адзін справа, наперадзе зноў падвойны… — сыпалася з яго вуснаў.

Рыбу кідалі ў белыя пластыкавыя вёдры, якія, напоўненыя ўжо марскою вадой, выдавалі ў самым пачатку разам з вудзільнамі. У выніку пасля апошняй стаянкі з кожнага вядра чулася такое прыемнае, лагоднае плёсканне. Луфары былі ва ўсіх.

Адзін раз на мой кручок пакваплілася дробная пясчаная акула, якая пасля фота-сесіі ва ўсіх ракурсах была таксама адпушчана.

А вось стары ўсім на здзіўленне доўга змагаўся, але ўсё ж перамог уікфіша (weakfish). Выглядае гэтая рыба таксама, як луфар, але большая і не такой афарбоўкі. Луфар смела апраўдвае сваю арыгінальную назву bluefish, і колер у яго ярка-блакітны, а weakfish (літаральны пераклад — «рыба-слабак») больш серабрысты і ў цёмную крапінку. У нашым выпадку гэтая рыба аказалася зусім не «слабаком». Дзякуючы ёй дзядуля і сарваў банк. Яго «ўікфіш» аказаўся самым буйным уловам.

Калі плылі назад, добра стомлены «марскі воўк» усім парэзаў іх улоў на філе, каб можна было адразу кідаць яго на патэльню. Астатняе ён выкідаў за борт, з-за чаго ўсю зваротную дарогу цеплаход доўгім густым шлейфам суправаджала чародка чаек. Настроіўшыся выключна на юху, мы ад тых паслугаў адмовіліся і моўчкі дапівалі каву, елі бутэрброды. Дома палічылі ўлоў: 24 луфары на чатырох.

Шмат гэта ці мала, не буду казаць, ведаю толькі адно — юшка атрымалася выдатная!

**P.S.** (З ліставання бабулі-чытача і ўнука-аўтара)

«Стась, што гэта: стэнды з донатамі, гіросы… сквотер, сталкер, сквот, рэп-чтец…Чытальнік? Ён гаворыць рэчытатывам. Рэчытальнік? Я не знайшла адпаведнае слова. Назад увесь тэкст не ганяй, толькі напішы заўвагі.

У будучым набірай без тлустых словаў, папяровыя кнігі друкуюць раўнамернымі шрыфтамі. Думай над стылем, трымай перад сабою ва ўяўленні чытача, палюбі яго, бо гэта самы важны чалавек у пісьменніка, сябра або апанент. З тваёй згоды, я аддам апавяданні ў друк».

«11. 01.2012.

З Богам, баба Дануся.

Напішы некалькі словаў пра сябе…»

АГЛЯД

# «ВЫЙСЦЕ ЎНУТРЫ»

ЛеГАЛ

**З самага зачыну дзённікавых згадак «Лісты абляцелыя» Алеся Жука нечакана абдало мяне азонным свежаком: «Часта так у прыродзе задумана — у час цвіцення дажджы і холад. Каб вучылася выжываць будучае жыццё, якое яшчэ хоча толькі пачацца? Зараз бы дзе ў лес, у напаленую хату, быць аднаму, пісаць ці чытаць, глядзець праз акно на дождж і ад гэтага быць шчаслівым»…**

А ў нас жыццё застыла ў спякотным мараве… Літаратары ў прыцененых гамаках закалыхваюць свае мляўкія мроі… А тое, што напісалася імі ў стылы час, якраз цяпер падаецца чытачу ў свежых перыядычных выданнях. Пагартаўшы 58 нумар часопіса «Дзеяслоў», заўважаеш гэтую інерцыю маральна-духоўнага жыцця беларускага грамадства, а ў лепшым выпадку яе ўнутранае пераасэнсаванне. Тое, што нязменна і запаволена, як рачная плынь, стаіць у нас штодзённа перад вачыма, мае свае працягі з нумара ў нумар. Гэта наша спрадвечная нацыянальная гісторыя, праўдзівасць якой мы не даём рады ўпісаць у нашы сучасныя аналы, і — нашы надзённыя праявы жыцця, якія, на жаль, мала ўплываюць на стан і змену палітычнага ладу, узаконенага і ўзурпаванага жалезнымі рычагамі дзяржаўнага кіравання… Што застаецца? Або разважаць над нязбытным і пераўладкоўваць яго знутры або выношваць новыя ідэі і планы выхаду з застойнай сітуацыі метадам наладжвання вонкавых сувязяў. Блізкія сваімі высновамі да акрэсленага мной вызначэння і дзве выдрукаваныя ў часопісе аповесці, якія выспавядаюць падобныя прынцыпы дзеяння.

**«Зялёны дуб»** — гэта твор **Паўла Ляхновіча,** напісаны ў звыклым традыцыйным стылі ддбротнай беларускай класікі: прырода, людзі, прыгоды, учынкі, падтэкставая а то і наўпроставая маральная выснова… Дзея адбываецца ў сучасных адраджэнскіх варунках. Археалогія, раскопкі, міліцыя, трагедыя… Усё як бы знаёма і не нова. Пакуль аўтар не выводзіць галоўнага героя за межы дазволенага, а менавіта — на небяспечны шлях нацыяналістычнага змагарства, і не на словах, а на справе (на падпольнай падрыхтоўцы да яе). Тут і валюта, і ананімнасць, і нечаканы трагедыйны купалаўскі сюжэт, які разгортваецца ў галаве героя на дзясятым паверсе былога маскоўскага аднайменнага гатэля… Аповесць чытэльная і, як мастацкая рэч, вартая ўвагі.

Другая аповесць — **«Lapido» Алеся Паплаўскага** — выстраена абсалютна ў іншым стылі і, калі не новая па форме, то ва ўсякім разе выбітная з шэрагу сучаснай нацыянальнай прозы. Гэта ўнутраны дыялог героя з самім сабою — таго, якім ён ёсць насамрэч, і таго, якім ён быць хацеў бы… Можна казаць і пра аўтарскую спробу экзістэнцый, і пра псіхалогію і пэўныя прэтэнзіі на інтэлектуальнасць. Пошукі чалавека ўнутры самога чалавека, не зважаючы на змену яго вонкавага стану і таго асяроддзя. Для нашай краіны сітуацыя пазнавальная, і прыстойны выхад з яе адзін — уласная фізічная (але не духоўная) дэпартацыя. Гэтак як у аповесці А. Паплаўскага. Звычайны памяркоўны беларус выпадкова трапляе ў апазіцыйны пераплёт і сам апынаецца на кручку ў органаў дзяржбяспекі. Яго «падвешваюць» і «шыюць артыкул»… Герой збягае за мяжу. У Чэхію, дзе ў 1967-м у Празе жорстка распраўляўся з вулічнымі паўстанцамі яго малады бацька-танкіст… І вось менавіта тут беларус пачынае апазіцыяніраваць сабе ранейшаму, электаральна-памяркоўнаму. Развагі, пошукі, медытацыі, поўная пераацэнка і пераасэнсаванне свайго былога духоўнага складніка… Твор псіхалагічна блізкі да выдрукаванай у 54 нумары «Дзеяслова» аповесці Макса Шчура «Аўтсайдэр» (таксама, дарэчы, былога берасцейца, а цяпер пражаніна).

Новы «Дзеяслоў» цалкам аддадзены вершаванай творчасці нашых дзяўчат і жанчын. Адкрываецца часопіс **цыклам «Забытыя словы» Людмілы Рублеўскай.** Вершы добрыя, хоць часам і прыкладныя і сям-там заўважна, як набытае прафесійнае майстэрства паўстае над нерукатворнасцю. «Бронзавыя сны», як і «сны фараонаў» у творах Л. Рублеўскай, можна сказаць, беспрабудна-нязводныя. Тэматыка такіх вершаў запатрабаваная і пакуль яшчэ выйгрышная. Таму можна толькі вітаць падобныя творчыя пасылы і заўважныя ўдачы.

**Іна Снарская** жыве ва Ўкраіне. Яе нізка **«Ад сэрца да сэрца — дарога…»** вызначаецца глыбокай жаночай душэўнасцю і лірычнай жарстлівасцю. Адчуваецца ў яе вершах і фальклорны нацыянальны пачатак. Але не абыходзіцца і без праяў неўсвядомленай парывістасці і пачуццёвага хаасу, якія ў некаторых месцах разбураюць агульнае паэтычнае ўражанне.

Адна з найбольш адметных і глыбокіх падборак вершаў — **«Голас крыві» Вікі Трэнас.** Адчуваецца творчы рост паэткі, якая яшчэ нядаўна запаміналася слухачам найбольш свістам са сцэны, чым мастацкім узроўнем чытання. І рост гэты ўглыб (у сябе), а не ўшыр (на публіку), заўважны разам з філасофскім асэнсаваннем жыцця, цвярозым поглядам на рэчы, людзей і час…

*Ды не знаеш: ці ў вырай вярнуцца,*
*Ці з віра напіцца,*
*Ці жвірам засыпацца.*
*Перабіраеш горы драбніцаў.*
*Гора драбніца.*

Падборка Вікі, мабыць, самая малая па аб'ёму, але найбольш важкая па змесце. І гэта таксама кажа пра многае. Назоў агляду — цытата з яе верша.

Таленавітая і цікавая як паэтка **Ганна Аўчыннікава.** У яе нізцы **«Кропля бурштыну»** ёсць сваё ўнутранае святло, няяснае, але тым і прывабнае… Аднак хапае і выпадковых алагічных і эмацыйных выбліскаў энергіі. Што ж, пажывём і праз пэўны час пабачым,




«як спяць у вірах адбіткі збавення і веры» паэткі з Горадні.

Прыемна, што слабая палова нашай літаратуры, у прыватнасці, паэзіі, стала мужнець і мацнець — думаць глыбей і высноўваць аддаленей. У гэтым кантэксце і нізка **Ганны Новік («Закаханы вандроўнік»)** падалася мне найбольш уражлівай з усяго мной прачытанага.

Запомніліся асобныя строфы маладой, але песімістычнай **Веранікі Кашкан** з яе запамінальна азагалоўленай нізкі **«Не пакідай мяне, голас!».**

Ну і нарэшце вартая вяртання і напаміну **Любоў Турбіна** (цяпер масквічка), вершы розных гадоў якой **(«У вечнасць пасланне»)** адмыслова пераклалі Л. Сільнова, С. Сыс і Г. Дубянецкая.

Што да іншых публікацый, то сярод іх ёсць цікавыя, як для чытання, так і для роздуму. Бальшыня з іх даволі будзённыя, пазнавальныя і нават сям-там казённыя. Яны выяўлены з пекла і пекнаты нашага зусім нядаўняга жыцця. Сённяшнія аўтары аказаліся вельмі дакладнымі індыкатарамі дня ўчарашняга. Ці то пішуць яны пра свае ўласныя дзеі і ўчынкі, ці то пра чужыя, ці то яны інфармуюць нас, ці то спавядаюцца, ці то наракаюць на лёс, ці то звяртаюцца да сумлення або атачваюцца сумненнямі…

**Аляксандр Лукашук** піша партрэтную эсэістыку (тонкую, празрыстую, іранічную, у нечым блізкую да стылю У. Арлова), якая неўпрыкмет зацягвае і хмеліць… Аднак, працверазеўшы пасля чытання, не-не, ды і разводзіш рукамі, прачытаўшы, скажам, «эпілог» да выдрукаваных у часопісе заўчасных успамінаў **«Зкімбы — зімбы»:** бо навошта ж аўтару было гарод гарадзіць з зашыфроўкай герояў, калі напрыканцы іх ініцыялы расшыфроўваюцца немаведама з якой прычыны…

**Алесь Усеня** нанёс мне, чытачу, аж пятнаццаць нажавых ранаў, роўна столькі, колькі нанёс беднаму парсючку, перад забіццём якога ён кляўся, што ў яго не хапае духу нават муху прыхлопнуць… Гэта я пра завяршальны яго цыкл успамінаў **«Мой лістапад…».** Па вялікім рахунку, вельмі цікавае чытанне і напісана з талентам… каб жа не парсючок той… шкада мне яго… «Жадаць чалавеку смерці можна не толькі ад лютай нянавісці, але і ад вялікай любові…» — піша аўтар у іншым месцы. Дык то ж чалавеку. А парсючок то ў чым вінаваты?!.

Маладыя дзяўчаты **Анастасія Грук і Яўгенія Руль,** якія выступілі з кароткімі аповедамі ў рубрыцы «дэбют», пішуць пакуль наіўна і відорысна. Але нешта ў іх ёсць, нешта ім муляе на ўсходзе іх жыцця, значыць, па часе з'явіцца і па-сапраўднаму мастацкія праявы тых «нацёртых мазалёў» на нявінных душах… Яўгенія піша: «Ніхто не сумняваецца ў праўдзівасці сваіх думак». А вось гэта дарма. Мастак павінен падвяргаць сумненню нават уласнае сумленне… Спадзяюся, і гэта прыйдзе. Удачы дзяўчатам!

**Ніл Гілевіч** працягвае публікацыю выбраных старонак з дзённікаў **(«Год дзве тысяча першы»).** Як і ранейшыя запісы, тэксты інфармацыйныя, роздумныя, сямейныя, афіцыёзныя, у меру суб'ектыўныя, сёе-тое, думаю, у сёго-таго будзе напрошвацца на палеміку…

Найбольш упадабаныя мной, зробленыя па-мастацку, літаратурныя дзённікавыя згадкі **Алеся Жука,** цытатай з якіх я і пачаў гэты агляд. Мог бы працытаваць яшчэ што, ды аб'ём не дазваляе. Будзем чакаць працягу.

**Кастусь Цвірка** ў сваім стылі апісвае цяперашні побыт роднай радавой вёскі на Старадарожчыне. Тут і жывыя людзі, і іх мова, звычкі, традыцыі, духоўныя ўзвышэнні і паўсядзённыя прыніжэнні… Зацягвае…

Шмат матэрыялаў выдрукавана да юбілею **Міколы Купрэева** (успаміны блізкіх людзей, архіўныя фотаздымкі і захаванае яго сынам невядомае апавяданне). Пастараліся дзеля гэтай годнай публікацыі Ц. Чарнякевіч і аўтар гэтага опуса.

**Сяргей Абламейка («Палац акном у восень»)** спрабуе падаць свой погляд на гісторыю Беларусі і беларускай праваслаўнай царквы, а таксама на Унію ды іншыя дзеі, даты і пазнакі старадаўняй і сучаснай беларушчыны. «Я не рускі, не праваслаўны, не брат суседзям, не казак, не купаюся ў палонцы на Вадохрышча і г.д. Я люблю рэшткі еўрапейскага ў Беларусі, якія наш народ цяпер актыўна знішчае…» — піша аўтар. Яму нельга не верыць і не адчуваць яго болю.

Наша дзіцячая казачніца **Алена Масла** гутарыць са шведскай перакладчыцай і крытыкам дзіцячай літаратуры **Янінай Арлоў.** Раю пачытаць. Нязмушаная, даведачная інфармацыя ад дасведчаных людзей для ўсіх зацікаўленых актуальнай тэмай — выхаваннем новага пакалення.

**Валер Прычынец** гутарыць з паэтам **Віктарам Жыбулем.** Аснова гаворкі — праблемы сучаснай літаратуры і самога Жыбуля ў прыватнасці, асабістае жыццё якога тут таксама фігуруе… Канечне, тут больш прадстаўленне паэта на публіку, чым прадстаўлення паэтам сваёй абазнанасці ў запатрабаваннях гэтай публікі. Асоба навырост…

Напрыканцы часопіса чарговая гутарка **Кацярыны Безмацерных** з сям'ёй маладых мастакоў **Глебам і Веранікай Герасімавымі.** Артыкул **«Галоўная вуліца Мінска»** вядомага пісьменніка і дакументаліста **Леаніда Маракова.** Рэч вядзецца пра сталінную вуліцу Савецкую (былую Захар'еўскую). Прывабліваюць у артыкуле вельмі цікавыя і невядомыя архіўныя дакументы ды і сам, цягам азнаямлення набыты, аўтарскі досвед. Прынамсі, гэта ўсяго толькі прадмова да новай кнігі.

Малады крытык **Дзяніс Марціновіч** разважае над творчымі і надзённымі праблемамі Беларускага акадэмічнага музычнага тэатра ў сваім даволі аб'ёмным і аргументаваным артыкуле **«Музычны тэатр. Час адраджэння?»**

**Ала Петрушкевіч** піша пра ўзаемасувязі і пераклічку лёсаў дзвюх выбітных паэтак Беларусі **Ларысы Геніюш і Наталлі Арсенневай.**

**Тамара Кароткая** рэзка крытыкуе энцыклапедыю «Максім Багдановіч» **(«Асцярожна: псеўдаэнцыклапедыя!»),** выдадзеную ў «Энцыклапедыі імя П. Броўкі» ў 2011 годзе. Як аказалася, для гэтага ёсць процьма падстаў.

**Юрась Пацюпа** — наадварот — ухвальна паставіўся да выхаду ў свет «Вялікага слоўніка беларускай мовы», складзенага Ф. Піскуновым, дарэчы натуралістам, а па адукацыі хімікам («Адна галава добра, а дзве лепш…»). Наклад слоўніка: 20 асобнікаў. Не паспеў з'явіцца, а ўжо — рарытэт!

**Уладзіслаў Ахроменка** ў рубрыцы «Практыкум» прапануе расповед **«Як артысты «Харошак» танчылі для сына белагвардзейскага палкоўніка».** Намешана ўсяго, але ўсё чытэльна. З вычуваннем стылю, часу і гумару. Па такой спякоце і смех не грэх. Гэткая во аглабельная ад Ахроменкі на развітанне з чарговым нумарам «Дзеяслова». То і добра. Да новай сустрэчы!

ВЫДАННІ

# КНІГА ВІТА-ЖЫЦЦЯ

**«Слоўнік Свабоды: XX стагоддзе ў беларускай мове. Слова на дзень для памяці і роздуму» — так гучыць поўная назва кнігі, якая ўвойдзе ў гісторыю беларускай літаратуры, беларускай эсэістыкі і беларускай мовы як «Слоўнік Свабоды».**

Гэты зборнік выдадзены да 10-годдзя кніжнай серыі «Бібліятэка Свабоды», якую запачаткавала і пасяпахова выдае беларуская служба «Радыё Свабода». Кнігу склалі 380 эсэ пра беларускія словы. На прэзентацыі зборніка Уладзімір Арлоў, адзін з яго аўтараў, зазначыў, што «некаторыя літаратары паспрабавалі сябе ўпершыню ў якасці эсэіста».

Эсэістаў — 36. Сярод іх Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Ігар Бабкоў, Сяргей Дубавец, Леанід Галубовіч, Ян Максімюк, Вінцэсь Мудроў, Міхась Скобла, Алена Ціхановіч… Сяржук Сокалаў-Воюш стаў самым актыўным аўтарам Слоўніка — на ягоным рахунку 71 слова!




Перад намі некалькі слоўнікаў пад адной вокладкай: этымалагічны, тлумачальны, слоўнік сінонімаў, слоўнік запазычванняў і слоўнік неалагізмаў, дыялектны слоўнік… Акрамя ўсяго, гэта і нядрэнны зборнік цытатаў з твораў беларускіх пісьменнікаў, якімі эсэісты апісвалі выбраныя словы.

Мэта кнігі — з'яднаць, злучыць, прытуліць і сагрэць. Сабраць разам не толькі беларускія словы, не толькі густоўныя і трапныя эсэ, не толькі вядомых нам літаратараў, але і нас, чытачоў. «Толькі на прасторы беларускага тэксту мы можам сустрэцца разам», — трапна зазначае Валянцін Акудовіч.

Разам з тым, гэта вельмі рэзкая, часам нават жорсткая кніга. Эсэ прасякнуты праўдзівасцю, што мяжуе са зрокам. Нават тэкст Уладзіміра Арлова пра вясёлае і бестурботнае, здавалася б, слова «анекдот» утрымлівае суіцыдальны матыў: «Каб апрача гэткай ідыёцкай цярплівасці ў беларуса не было пачуцця гумару, яму б сапраўды заставалася адно павесіцца». Усе словы і, адпаведна, з'явы жыцця, што за імі стаяць, пераносяцца на беларускую глебу. Не заўсёды ўрадлівую, часта кепска ўзараную, часам непалітую альбо палітую чарнобыльскімі дажджамі. Аўтары знялі «ружовыя акуляры» і ўбачылі, што «самі лянуемся скінуць з сябе прычэпістую часцінку а- ды чэрпаць нагбом віта-жыццё». «Нядаўна мы зразумелі, што мы жывыя і што ў нас ёсць будучыня», — піша Ігар Бабкоў.

Вызначэнне мінулага стагоддзя ў словах для нашай краіны дае Валянцін Акудовіч у эсэ пра меліярацыю: «Гісторыю Беларусі ў ХХ стагоддзі збольшага можна ўкласці ў пяць словаў: рэвалюцыя, вайна, меліярацыя, Чарнобыль і незалежнасць». Як бачым, усе словы — змрочныя, з негатыўнай канатацыяй. Нават, здавалася б, светлая «незалежнасць» не мае таго прыемнага прысмаку сапраўднае вольнасці і свабоды.

Многія эсэ-словы кнігі скіраваны ў будучыню, звернутыя да сучаснага, XXI стагоддзя. Аўтары прагназуюць нашае жыццё «ў нулявых», выказваюць свае надзеі і спадзевы альбо проста задаюць прасторы, будучыні, Богу рытарычныя пытанні. «Ходзіць Бай па сцяне… І калі ж ён зваліцца?» — цікавіцца Антаніна Хатэнка. Аляксандр Лукашук завяршае роздум пра слова «беларусізацыя» гэткім чынам: «Хацелася б верыць, што гэтае значэнне слова беларусізацыя, якое не мае анічога супольнага з Беларушчынай, гэтак і застанецца ў ХХ стагоддзі і не пяройдзе ў стагоддзе XXI-ае». Сяргей Навумчык дадае аптымізму: «Зрэшты, шмат хто перакананы, што Беларуская Народная Рэспубліка будзе не проста сімвалам, а назвай Беларусі ў трэцім тысячагоддзі». Перагукаецца з працытаванай думкай Навумчыка і прадбачанне Сяргея Шупы: «Выглядае, што ў XXI стагоддзі нас чакаюць цяжкія рамонтныя працы…».

Усе эсэ «Слоўніка» прыпраўленыя не самай смачнай прыправай — пафасам. Яно, па вялікім рахунку, і зразумела. Пісаць беларусу (асабліва — эмігранту, якімі мы ўсе з вамі з'яўляемся) пра беларускае, пра тое, што баліць і шчыміць унутры, складана без сыходу ў пафасныя інтанацыі. «Свае» зразумеюць, асабліва сентыментальныя часам нават расчуляцца, а «чужыя», якім і беларуская мова, і беларуская культура, і беларускія словы непатрэбныя і нясмачныя, нават частавацца ад стравы-Слоўніка не стануць…

Каб і без таго змястоўная кніга стала яшчэ больш напоўненай і глыбокай, мне не хапіла эсэ пра словы Каханне і Любоў.

**Ася ПАПЛАЎСКАЯ**

КНІГАГЛЯД

# ВЫЗВАЛЕННЕ ПРАЗ КНІГУ

**Сенсацыйная для беларускага «рэжымнага» вуха навіна прыйшла з Бразіліі. За чытанне кніг бразільскім зняволеным… скароцяць тэрміны!**

Дзеля таго, каб разгрузіць перапоўненыя турмы, улады краіны дазволяць вязням паменшыць свой тэрмін знаходжання за кратамі на 48 дзён за кожны год тэрміна. Адпаведны закон быў апублікаваны ў афіцыйнай дзяржаўнай газеце «Diario Oficial da Uniao».

Каб атрымаць такое паслабленне, бразільскім зняволеным варта прачытаць у год 12 кніг класічнай літаратуры, гістарычных ці філасофскіх зборнікаў. Зняволены мусіць напісаць пра прачытаную кнігу сачыненне ці эсэ без памылак і выпраўленняў у тэксце. Плагіят прывядзе да выключэння нядобрасумленнага ўдзельніка з праграмы, якая пачала рэалізоўвацца ў чатырох турмах Бразіліі.

Менавіта такім чынам праз праграму, якая атрымала назву «Вызваленне праз кнігу», можна будзе датэрмінова выпускаць з турмаў людзей, пашырыўшы іх светапогляд і зацікавіўшы літаратурай.

У бразільскіх турмах і раней скарачалі тэрмін, калі зняволены вучыўся. Аднак гэта першы закон, які выразна ўсталёўвае суадносіны паміж прачытанымі кнігамі і колькасцю дзён, на якую будзе скарочаны тэрмін.

Беларусі ж і яе вязням аб падобным застаецца толькі сніць маркотныя сны — у афіцыйна абвешчаны Год кнігі…

# ВОСЕНЬ МАРКЕСА

**Знакаміты калумбійскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры Габрыэль Гарсія Маркес цяжка хворы, паведамілі першымі «BBC News» і «The Guardians». Як распавёў брат пісьменніка Хаім Гарсія Маркес на сустрэчы са студэнтамі ўніверсітэта ў Картахене, 85-гадовы Габрыэль Гарсія Маркес пакутуе ад сенільнай дэменцыі.**

«У яго праблемы з памяццю. Часам я плачу, разумеючы, што губляю яго, — распавёў брат пісьменніка, дадаўшы, што праз праблемы са здароўем Габрыэль Гарсія Маркес больш не можа пісаць. — У нашай сям'і многія пакутавалі ад дэменцыі, але яго хвароба звязаная з ракам, які паставіў яго на мяжу паміж жыццём і смерцю. Хіміятэрапія выратавала яго, але заадно знішчыла занадта шмат нейронаў і паскорыла працэс. Але ён па-ранейшаму захоўвае гумар, радасць да жыцця і запал, якія заўсёды былі ўласцівыя яму». Хаім паведаміў, што хацеў захаваць дыягназ у таямніцы, бо гэта прыватнае жыццё яго брата. Але змушаны распавесці пра хваробу з-за таго, што ў апошні час з'явілася шмат чутак і спекуляцый на гэтую тэму.

У калумбійскіх СМІ раней неаднаразова з'яўляліся паведамленні пра цяжкае захворванне знакамітага пісьменніка, аднак афіцыйнага пацвярджэння гэтых звестак да цяперашняга моманту не было.

Габрыэль Гарсія Маркес — адна з ключавых фігур лацінаамерыканскага «літаратурнага феномену» 1960-х гадоў. Найбольш вядомым творам калумбійскага пісьменніка лічыцца раман «Сто гадоў адзіноты». На абсягах былога СССР па-расійску творы Маркеса ўпершыню былі апублікаваныя ў перакладзе Карласа Шэрмана (часопіс «Нёман»). На беларускую мову перакладзены яго раман «Каханне падчас халеры» («El amor en los tiempos del c lera», пер. К. Шэрман, «ARCHE», 2005, № 4, 5), урывак з рамана «Успамін пра маіх сумных бл.дзей» («Memoria de mis putas tristes», пер. Б. Арлоў, «Наша Ніва», 2005), некалькі навэлаў з кнігі «Дванаццаць дзіўных навэлаў» (пер. В. Буйвала, «Дзеяслоў», № 8).

# 47 КАНЦОВАК У «БЫВАЙ, ЗБРОЯ!»

**У сёлетнім ліпені, паведаміла «New York Times», выйшла новае выданне рамана Эрнэста Хэмінгуэя «Бывай, зброя!». Яно змяшчае 47 альтэрнатыўных канцовак рамана, чарнавыя варыянты назвы, а таксама раннія чарнавікі ды эпізоды, якія не публікаваліся раней.**

У дадатку да новага выдання, які складаецца з 330 старонак, сабраныя ўсе варыянты канцоўкі рамана. Памер альтэрнатыўных канцовак вар'іруецца ад кароткіх прапаноў да некалькіх абзацаў. Аб выданні рамана спадчыннікі Хэмінгуэя дамовіліся з друкарняй «Scribner» амерыканскага выдавецтва «Simon & Schuster».

У 1958 годзе ў інтэрв'ю літаратурнаму часопісу «The Paris Review» пісьменнік прызнаваўся, што апошнія словы рамана «Бывай, зброя!» ён перапісваў 39 разоў. Гэтыя альтэрнатыўныя канцоўкі, вядомыя літаратуразнаўцам, раней ніколі не друкаваліся. Рукапісы Хэмінгуэя захоўваюцца ў Калекцыі Эрнэста Хэмінгуэя ў бібліятэцы Джона Ф. Кэнэдзі. Па сведчанні ўнука пісьменніка Шона Хэмінгуэя (Sean Hemingway), які займаўся іх вывучэннем, альтэрнатыўных фіналаў рамана, пра якія казаў Хэмінгуэй, аказалася на самай справе не 39, а 47.

У выданні таксама будзе надрукаваны спіс чарнавых назваў рамана, які пакінуў Хэмінгуэй. Пісьменнік хацеў назваць раман «Каханне на вайне» (Love in War), «Хопіць і свету, і часу» (World Enough and Time), «Зачараванне» (The Enchantment) і па-іншаму. На вокладцы кнігі змешчаны малюнак самога аўтара.

Раман Хэмінгуэя «Бывай, зброя!», які быў упершыню надрукаваны ў 1929 годзе, шмат у чым аўтабіяграфічны. Хэмінгуэй падчас Першай сусветнай вайны служыў добраахвотнікам Чырвонага Крыжа на італьянскім фронце. Пасля ранення патрапіў у шпіталь у Мілане, дзе ў яго завязаўся раман з медсястрой…

# ВУЛІЧНЫЯ БІБЛІЯТЭКІ-АЎТАМАТЫ

**У ЗША з'явіліся вулічныя бібліятэкі-аўтаматы. «Вендзінгавыя» машыны цяпер выкарыстоўваюцца не толькі дзеля продажу кавы, ахаладжальных напояў ды іншых прадуктаў. Сёння ў гандлёвых аўтаматах можна купіць гарачую свежую піцу, парасон і нават зрабіць інвестыцыі ў золата. Прычым колькасць варыянтаў выкарыстання аўтаматаў пашыраецца з кожным днём.**

Развіццё ідэй аўтаматычнага гандлю ў ЗША нядаўна прывяло да сумяшчэння выгоды і даступнасці аўтаматычных продажаў з запатрабаваннем грамадства ў публічных бібліятэках. У акрузе Полк (Фларыда) пачалася ўсталёўка аўтаматаў-бібліятэк, у якіх можна ўзяць кнігу напракат.

Перавага бібліятэчных аўтаматаў перад звыклай бібліятэкай відавочная: аўтаматы працуюць днём і ноччу і без выхадных. Адзіны іх недахоп — немагчымасць залезці ўнутр і папярэдне пакорпацца-пагартаць кнігі.

Аднак супрацоўнікі акругоўай бібліятэкі, якім і належыць ідэя ўстаноўкі аўтаматаў, мяркуюць, што ў чытачоў не з'явіцца пэўныя праблемы з выбарам, паколькі аўтаматы-бібліятэкі галоўным чынам прапануюць бэстсэлеры.

Акрамя папулярных кніг, аўтамат можа выдаваць у пракат таксама і DVD-дыскі. Зрабіць усё можна з дапамогай бібліятэчнай карты. Вяртаць кнігі пасля чытання пакуль што давядзецца ўсё ж не ў аўтамат, а ў бібліятэку.

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 3 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА

### Беларусь 1

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 01.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё цябе дзякую-2».
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.40** Журналісцкае расследаванне.
**11.10** Мультфільмы.
**12.10** Серыял «Маргоша».
**14.05** Серыял «Доктар Хаўс-6» (ЗША).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дак.серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША). Фільм «Зальцбург і азёрны край».
**16.00** Забаўляльная праграма пра турызм.
**16.30** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.10** Каробка перадач.
**18.45, 01.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна). Фільм «Бітва за дзяцей».
**21.00** Панарама.
**21.45** Ведай нашых.
**21.55** «Не толькі жанчына ведае». Ток-шоў.
**23.05** Фільм жахаў «Чужой» (ЗША-Вялікабрытанія).
**01.35** Дзень спорту.

### ОНТ

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхаілам Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Зваротны адлік». «Гульні якія не спраўдзіліся надзей».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом узорнага ўтрымання».
**22.15** Фільм «Стаць Джонам Ленанам».
**00.00** «Мой лепшы палюбоўнік».
**01.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** «Алібі». ЗША-Нідэрланды, 2006 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Ніна». Серыял.
**13.50** «Халасцякі». Серыял.
**14.35** «Забойная сіла 5». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суда з Паўлам Астахавым».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ніна». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** «Выгляд зверху лепш». ЗША, 2003 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.50** «Расійская покерная серыя».
**00.40** Прэм'ера! «Адмысловы праект»: «Змова супраць рускіх».

### Беларусь 2

**07.30** Рэгіянальная праграма.
**09.00** Лондан-2012. Гандбол. Мужчыны. Сербія - Данія.
**10.30** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**10.55** Лондан-2012. Баскетбол. Жанчыны. Ангола - Харватыя. Прамая трансляцыя.
**12.40** Лондан-2012. Веславанне акадэмічная. Лёгкая атлетыка. Плаванне. Стральба. Прамая трансляцыя.
**15.45** Лондан-2012. Фехтаванне. Дзюдо. Цяжкая атлетыка. Тэніс. Прамая трансляцыя.
**19.05** Тэлебарометр.
**19.10** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**19.30** Лондан-2012. Веласпорт. Фехтаванне. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Лондан-2012. Цяжкая атлетыка. Лёгкая атлетыка. Плаванне. Прамая трансляцыя.
**23.55** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**00.20** Лондан-2012. Гандбол. Жанчыны. Данія - Нарвегія.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Веру».
**11.00** Весці.
**11.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**11.45** Весці. Дзяжурная частка.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Гарадок». Дайджэст.
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**22.15** «З прывітаннем, Казаностра». 2010 г.
**00.05** Навіны - Беларусь.
**00.15** «Дэтэктыўнае агенцтва «Іван ды Мар'я».

### НТВ

**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**10.00** Сёння.
**10.20** І зноў добры дзень!
**11.10** «Да суда».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.20** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Сярод белая дня» з Віктарам Набутавым.
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.20** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў з Леанідам Закашанскім.
**18.10** Прафесія-рэпарцёр.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзала».
**21.20** Вострасюжэтны серыял «Наркатрафік».
**23.10** «Ахтунг, русіш!».
**00.05** Трылер «Турбулентнасць».

### Eurosport

**00.45** Баскетбол: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - :ЗША - Нігерыя.
**02.00** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.
**03.30** Спартовая гімнастыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал Жанчыны.
**04.00** Акадэмічнае веславанне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фіналы.
**04.45** Веславанне на байдарках і каноэ: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Слалам.
**06.15** Спартовая гімнастыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал Жанчыны.
**07.00** Алімпійскія гульні.
**07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Алімпійскіягульні: «Ангельскі сняданак».
**09.30** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.
**10.30** Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**12.00** Лёгкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**15.40** Алімпійскія гульні: .
**15.45** Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**18.00** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Жанчыны. 75кг.
**19.15** Веласпорт: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Трэк.
**20.40** Алімпійскія гульні. .
**20.45** Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**21.30** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.
**22.30** Лёгкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.

### Белсат

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак: «Аблавушак».
**07.40** «Акварыум», серыял: 4 серыя.
**08.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.40** «Час гонару», серыял: 36 серыя.
**09.30** «Тэра постсавецка. Дагестан», дак. фільм, рэж. Барбара Владарчык, 2011 г., Польшча.
**09.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.05** Euromaxx.
**10.35** «Дранько-Майсюк. Цацачны гандляр з Давыд-Гарадка», рэпартаж.
**10.55** Паляванне на дзівосы.
**11.15** «Дэфект», тэлесерыял: 9 серыя.
**12.05** «Урок беларускай мовы», дак. фільм, рэж. Міраслаў Дэмбінскі, 2006 г., Польшча.
**12.55** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Крама».
**13.30** «Акварыум», серыял: 4 серыя.
**14.25** Лета з дэтэктывам: «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Згаі», серыял.
**15.10** «Тэра постсавецка. Дагестан», дак. фільм, рэж. Барбара Владарчык, 2011 г., Польшча.
**15.40** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**15.50** Euromaxx.
**16.15** «Дранько-Майсюк. Цацачны гандляр з Давыд-Гарадка», рэпартаж.
**16.40** Паляванне на дзівосы.
**16.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.10** «Кароль-вінароб», серыял: 7 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Прыстань», прыгодніцкі серыял.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Беларускія лёсы: «Уладзімір Драбо – Камандор», рэпартаж, 2007 г., Беларусь.
**19.40** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах.
**20.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**20.50** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Гісторыя – на вакацыі: «Генерал няскончанай вайны», дак. фільм, рэж. Сяргей Ісакаў, аўтар сцэнара Уладзімір Халіп, 2009 г., Беларусь: ч. 2.
**21.55** «Завітай да мяне ў сне», маст. фільм, рэж. Тэрэса Катлярчык, 1996 г., Польшча.
**23.10** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**23.30** Аб'ектыў.
**00.00** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 8 серыя.
**00.45** Вагон.

## 4 ЖНІЎНЯ, СУБОТА

### Беларусь 1

**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 16.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя».
**11.00** Дак.серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША). Фільм «Зальцбург і азёрны край».
**11.30** Забаўляльная праграма пра турызм.
**12.15** Мультфільмы.
**13.05** Вакол планеты.
**13.50** Лондан-2012. Алімпійскія гульні. Футбол. 1\4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**16.10** Навіны рэгіёна.
**16.25** «Месца сустрэчы».
**17.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.10** Дэтэктыў «Забойства ў дачны сезон» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** «Хросны бацька» (ЗША).
**00.45** Дзень спорту.
**00.55** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя».

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.40** «Смак».
**11.25** «Смешарыкі. ПІН-код».
**11.45** Фільм «Радня».
**13.30** Алег Меньшыкаў, Леанід Бранявой, Іна Ульянава ў фільме «Пакроўскія вароты».
**16.00** Нашы навіны (з субцітрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Зваротны адлік». «Гульні паралельных светаў ці наш адказ Амстэрдаму».
**16.55** «Дзякуй, жыццё!». Канцэрт Эдзіты П'ехі.
**18.30** «Хірамант». Шматсерыйны фільм. Заключныя серыі.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Вялікая розніца».
**22.10** Фільм «Што будзе, тое будзе».
**23.45** Фільм «Індыга».

### СТВ

**06.20** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**07.10** «Далёкія сваякі».
**07.35** «Салдаты-14». Серыял.
**09.10** «Я - вандроўца».
**09.35** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчукі».
**11.00** «Выгляд зверху лепш». ЗША, 2003 г.
**12.40** «Прыгоды дылетанта».
**13.10** «Дзе знаходзіцца нафелет?». СССР.
**14.45** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Жанчыны XX стагоддзі» з Элеанорай Езерскай.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Гучная справа».
**17.45** «Каханне Аўроры». Украіна, 2007 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «Сусветны блокбастар».
**22.20** «Зорны рынг». Лепшае.
**23.20** «Густ забойства». Серыял.

### Беларусь 2

**07.30** Лондан-2012. Баскетбол. Жанчыны. Чэхія - ЗША.
**09.00** Лондан-2012. Валейбол. Жанчыны. ЗША - Сербія.
**10.30** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**10.55** Лондан-2012. Баскетбол. Мужчыны. Туніс - Францыя. Прамая трансляцыя.
**12.45** Лондан-2012. Веславанне акадэмічная. Лёгкая атлетыка. Бокс. Прамая трансляцыя.
**16.25** Лондан-2012. Футбол. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**18.20** Тэлебарометр.
**18.25** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**18.55** Лондан-2012. Футбол. Мужчыны. Прамая Трансляцыя.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Лондан-2012. Лёгкая атлетыка. Цяжкая атлетыка. Плаванне. Прамая трансляцыя.
**23.55** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.

### Россия

**07.00** «Уся Расія».
**07.15** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.55** «Жартаваць дазволіце?».
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00, 14.00, 20.00** Весці.
**11.15** «Суботнік».
**11.50** «З прывітаннем, Казаностра» (2010 г.).
**13.30** «У свеце жывёл».
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма Эдуарда Пятрова.
**14.50** «Эзіта П'еха».
**15.40** «Шукальнікі».
**16.30** «Чужая радня».
**18.15** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.30** «Скрыня Пандоры» (2011 г.).
**23.40** «Дуэль» (2011 г.).

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Мужы».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Жывуць жа людзі!».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** Кулінарны паядынак з Аскарам Кучерам.
**11.55** Кватэрнае пытанне.
**13.25** Серыял «Дарожны патруль».
**15.05** «Развод па-руску».
**16.00** «Пракурорская праверка».
**17.05** Вочная стаўка.
**18.00** Выратавальнікі.
**18.30** «Прафесія - рэпарцёр».
**19.25** «Прамень Света».
**20.00** «Самыя гучныя Рускія сенсацыі».
**21.45** Ты не паверыш!
**22.35** Вострасюжэтны фільм «Апошняе каханне кілера» з цыклу «Важняк».
**00.15** «Пытанне гонару».

### Eurosport

**00.00** Алімпійскія гульні: .
**00.30** Валейбол: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - :Алжыр - Італія.
**01.30** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Мужчыны. 85кг.
**02.30** Лёгкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**04.00** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.
**04.00** Веласпорт: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Трэк.
**06.00** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Жанчыны. 75кг.
**07.00** Алімпійскія гульні .
**07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Алімпійскіягульні: «Ангельскі сняданак».
**09.30** Лёгкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.
**10.30** Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**12.00** Лёгкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**15.40** Алімпійскія гульні: .
**15.45** Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**16.30** Скачкі ў ваду: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**18.00** Веласпорт: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Трэк.
**20.40** Алімпійскія гульні: .
**20.45** Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**21.30** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.
**22.30** Лёгкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.

### Белсат

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**08.00** «Пiпi Доўгая панчоха», серыял.
**08.30** «Мой родны горад», серыял.
**08.55** Размовы эксперта.
**09.15** Навігатар.
**09.30** Прыватная калекцыя.
**09.50** На колах.
**10.20** «Прыстань», прыгодніцкі серыял.
**11.05** «Акварыум», серыял: 4 серыя.
**12.00** Англійская для дзяцей.
**12.05** Казкі для дзетак.
**12.35** «Піпі Доўгая панчоха», серыял.
**13.05** Беларускія лёсы: «Уладзімір Драбо – Камандор», рэпартаж, 2007 г., Беларусь.
**13.35** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 8 серыя.
**14.20** Гісторыя – на вакацыі: «Генерал няскончанай вайны», дак. фільм, рэж. Сяргей Ісакаў, аўтар сцэнара Уладзімір Халіп, 2009 г., Беларусь: ч. 2.
**14.55** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Крама».
**15.30** «Завітай да мяне ў сне», маст. фільм, рэж. Тэрэса Катлярчык, 1996 г., Польшча.
**16.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.00** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 6 серыя.
**17.50** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Дэфект», тэлесерыял: 9 серыя.
**18.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.35** Англійская для дзяцей.
**19.40** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**19.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавaўчая праграма).
**20.10** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Побач з намі.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Лонданская крама», дак. фільм, рэж. Крыст'ян Кэлер, 2006 г.,.Германія.
**21.40** Суботні сеанс: «Кроўны брат», маст. фільм, рэж. Джэймз Гантэр, 2001 г., ЗША.
**23.25** Аб'ектыў.
**23.40** Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 17 серыя.
**00.40** Жаўтуха (сатырычная праграма).

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 5 ЖНІЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.05** Існасць.
**07.30** Дэтэктыў «Забойства ў дачны сезон» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм АТН «Віцебск. На скрыжаванні часоў» цыкла «Зямля беларуская».
**09.50** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна).
**10.55** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**11.30** Мультфільм.
**12.10** Медычныя таямніцы з доктарам А.Цярэшчанкам.
**13.00** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна). Фільм «Івар Калныньш».
**14.00** Час Саюза.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Мультфільм.
**16.00** Залатая калекцыя савецкага кінематографа. Камедыя «Жаніцьба Бальзамінава» (СССР).
**17.45** Каробка перадач.
**18.20** Суперлато.
**19.10** Меладрама «Права на Надзею» (Украіна).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне. «Імперыі змяну».
**22.30** Прыгодніцкі фільм «Ізгой» (ЗША).
**01.05** Камедыйны серыял «Байкі Міцяя» (Украіна).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** «Фазэнда».
**11.45** Фільм «Шукайце жанчыну».
**14.25** «КВЗ». Прэм'ер-ліга.
**16.00** Нашы навіны (з субцітрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Зваротны адлік». «Берлін 36-га. Алімпіяда ў цені свастыкі».
**16.55** Прэм'ера. «Алена Ісінбаева. Дзяўчына з тычкай».
**17.55** «Стромкая кампанія».
**20.00** Контуры.
**21.05** Фільм «Жыццё ў ружовым колеры».
**23.35** «Божа, якая дробязь!». Канцэрт Аляксандра Іванова і групы «Ронда».

### СТВ

**06.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.10** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-14». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «100 адсоткаў».
**10.15** «Вялікі сняданак».
**10.55** «Кіно».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.35** «Спартлато-82». СССР, 1983 г.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.15** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** «Фільм тыдня».
**22.30** Прафесійны бокс.
**23.10** «Пякельная кухня».
**00.30** «Арт-хаўс»:»Пакой». Бельгія, 2006 г.

### Беларусь 2

**07.30** Лондан-2012. Баскетбол. Мужчыны. Нігерыя - Аргентына.
**09.00** Лондан-2012. Гандбол. Мужчыны. Ісландыя - Францыя.
**10.30** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**10.55** Лондан-2012. Баскетбол. Жанчыны. Францыя - Расія. Прамая трансляцыя.
**12.45** Лондан-2012. Веласпорт. Тэніс. Прамая трансляцыя.
**15.00** Лондан-2012. Барацьба грэка-рымская. Прамая трансляцыя.
**17.45** Лондан-2012. Цяжкая атлетыка. Прамая трансляцыя.
**19.05** Тэлебарометр.
**19.10** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**19.30** Лондан-2012. Веласпорт. Барацьба грэка-рымская. Прамая трансляцыя.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлата 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Лондан-2012. Лёгкая атлетыка. Прамая трансляцыя.
**23.55** Лондан-2012. Дзённік Алімпіяды. Прамая трансляцыя.
**00.15** Лондан-2012. Валейбол. Жанчыны. Бразілія - Сербія. Прамая трансляцыя.

### РОССИЯ

**07.00** «Уся Расія».
**07.15** Мультфільм.
**07.45** «Скрыня Пандоры» (2011 г.).
**11.00** Весці.
**11.15** «Сам сабе рэжысёр».
**12.00** «Смехапанарама Яўгенія Петрасяна».
**12.30** «Першы рэйс».
**14.00** Весці.
**14.15** «Лекары. Адплата за невуцтва».
**15.10** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.35** «Дванаццатая ноч».
**18.15** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весці.
**20.30** «Спадчынніца» (2011 г.).
**23.55** «Неспадзеўка».

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Мужы».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** Іх норавы.
**09.25** Ямо хаты!
**10.00** Сёння.
**10.20** «Жаночы погляд» Аксаны Пушкінай. Уладзімір Леўкін.
**11.05** Дачны адказ.
**12.10** «Крамлёўскія пахаванні».
**13.00** Сёння.
**13.20** Серыял «Дарожны патруль».
**15.05** «Развод па-руску».
**16.00** «Пракурорская праверка».
**17.05** І зноў добры дзень!
**18.00** «Бывае ж такое!».
**18.30** «Прафесія - рэпарцёр».
**19.00** Сёння.
**19.25** Чыстасардэчнае прызнанне.
**21.45** «Таемны шоў-бізнэс».
**22.45** Фільм з цыклу «Важняк».
**00.25** «Увага: вышук!».

### EUROSPORT

**00.00** Алімпійскія гульні: .
**00.30** Валейбол: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - :Бразілія - Сербія.
**02.00** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Мужчыны. 94кг.
**02.45** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.
**04.00** Лёгкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.
**04.00** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Мужчыны. 94кг.
**04.45** Плаванне: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.
**07.00** Алімпійскія гульні: .
**07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Алімпійскіягульні: «Ангельскі сняданак».
**09.30** Лёгкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.
**10.30** Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**12.00** Веласпорт: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Трэк.
**13.30** Лёгкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**15.30** Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан.
**16.00** Спартовая гімнастыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фіналы.
**16.25** Алімпійскія гульні. .
**16.30** Спартовая гімнастыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фіналы.
**18.15** Цяжкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Жанчыны. +75кг.
**19.15** Веласпорт: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Трэк.
**20.55** Алімпійскія гульні. .
**21.00** Лёгкая атлетыка: Летнія Алімпійскія Гульні. Лондан - Фінал.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Англійская для дзяцей.
**07.20** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Аповеды таты Бабра».
**07.50** «Піпі Доўгая панчоха», серыял.
**08.15** «Мой родны горад», серыял.
**08.40** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.55** Побач з намі.
**09.10** «Дэфект», тэлесерыял: 9 серыя.
**10.00** Еўропа сёння.
**10.30** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 6 серыя.
**11.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.40** Англійская для дзяцей.
**11.45** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Аповеды таты Бабра».
**12.15** «Піпі Доўгая панчоха», серыял.
**12.45** Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 17 серыя.
**13.45** Прыватная калекцыя.
**14.15** «Лонданская крама», дак. фільм, рэж. Крыст'ян Кэлер, 2006 г., Германія.
**14.40** Паляванне на дзівосы.
**15.00** «Кроўны брат», маст. фільм, рэж. Джэймз Гантэр, 2001 г., ЗША.
**16.40** Форум (ток-шоу).
**17.20** «Дзень, калі памёр Ціта», дак. фільм, рэж. Ігар Стаймэнаў, 2009 г., Сербія.
**18.15** «Каралева Бона», тэлесерыял.
**19.15** Басаном па свеце.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**20.05** Дакументальная гадзіна: «Піянеры зменаў. ЗША», дак. фільм, 2009 г., Францыя.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.20** Фільматэка майстроў: «Дні футболу», камедыя, 2003 г., Іспанія.
**22.25** Лета з дэтэктывам: «Арол: крымінальная сага», серыял: 18 серыя.
**00.20** «Бульбаны», мультсерыял.

---

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанк», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 044) 755 66 48, Марына

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________

ЦІКАВА

# ВЕНГЕРСКІЯ ШАМАНЫ

Алег НОВІКАЎ

**Правы рух Jobbik («За лепшую Венгрыю») у Венгрыі набірае моц і патрабуе вяртання краіны да паганскіх культаў.**




Сцэна, якая адбылася ў сакавіку ў будынку венгерскага парламента, знешне нагадвае ілюстрацыю да анекдота. Перад каронай караля Іштвана (дарэчы, галоўны святы патрон Венгрыі) танчыў шаман з далёкай сібірскай Тувінскай рэспублікі. Ён праводзіў старажытны абрад ачышчэння, які, на думку дэпутатаў, што запрасілі шамана, павінен дапамагчы венграм.

Падобнае захапленне старажытнымі культамі ў Венгрыі не фрагментарнае. Трошкі пазней у Будапешт даставілі з Казахстана дрэва вышынёй у 9 метраў, якое ўрачыста пасадзілі на беразе Дунаю, назваўшы «Дрэва салідарнасці стэпавых народаў». Дрэвы таксама былі аб'ектам культу продкаў цяперашніх венграў. Аднак дрэва мае яшчэ адно сімвалічнае значэнне. Доўгі час яно было знакам супраціву мадзьяраў хрысціянізацыі. Культуролагі таксама адзначаюць, што сярод простых людзей пачалася мода на розныя паганскія фішкі. Напрыклад, часта пішуць назвы вёсак старажытнымі рунамі, якія былі забароненыя хрысціянскімі місіянерамі. Усё часцей дзяцей называюць імёнамі герояў венгерскага эпасу — Мес, Магор, Копань, Альмос, што таксама не вітаецца Касцёлам.

На думку палітолагаў, у краіне заўважнымі тэмпамі расце інтарэс да паганства, які робіцца чымсьці большым за простыя забабоны. Пасля падзення камунізму і з пачаткам дэпрэсіі краіна знаходзіцца ў стане крызісу ідэнтычнасці, выхад з якога яна шукае ў мінулым. Часткова адказнасць за гэта нясе кіруючая кансерватыўная партыя Fidesz, якая хаця і бачыць Венгрыю бастыёнам хрысціянства, часта шукае прыклады для пераймання ў далёкім мінулым. Культ мінулага выклікае ў абывацеля, як піша французскі журналіст Вінцэнт Багарнэ, устаноўку шукаць «страчаны рай».

Небяспечны момант палягае тым, што неапаганства з'яўляецца часткай палітычнага праекту партыі Jobbik. Jobbik — правая радыкальная сіла, якая і зараз разам з сацыялістамі з'яўляецца галоўнай апазіцыйнай сілай у Венгрыі. Калі Fidesz робіць большы акцэнт на прамоцыю хрысціянскіх каштоўнасцяў, Jobbik, наадварот, выступае як лабіст неапаганства.

Пры гэтым нацыяналісты не заклікаюць маліцца фіна-угорскім багам кшталту Юмале (бог неба) або прыносіць ахвяры Шаркань (цмок са змеепадобным целам і крыламі). Ідэолагі Jobbik абвяргаюць афіцыйную тэорыю, якая выводзіць венграў з фіна-ўгорскай групы народаў. На іх думку, венграм больш блізкія традыцыі народаў стэпу — цюркаў. Кожны год пры ўдзеле актыву Jobbik праходзіць фестываль Nagy-Kurultaj, які прапагандуе культурнае адзінства венграў і народаў Цэнтральнай Азіі.

Па вялікім рахунку, нічога новага тут няма. Яшчэ ў 70-я гады XIX стагоддзя навуковая супольнасць Венгрыі раскалолася паміж прыхільнікамі тэорыі фіна-ўгорскага і цюркскага паходжання венграў. Кумірам апошніх быў нямецкі лінгвіст Макс Мюлер, вучні якога заснавалі ў 1910 годзе арганізацыю цюркістаў. Хаця піянерамі накірунку былі венгры яўрэйскага паходжання, пасля Першай сусветнай вайны цюркісты сталі часткай мясцовага фашысцкага руху. Логіка тут была простая. На думку радыкалаў, нацыя павінна была рыхтавацца ўзяць рэванш за прайграную вайну і вярнуць трацінну этнічных венгерскіх зямель, якія ў яе адабрала Антанта паводле Трыанонскай дамовы. Канцэпцыя таго, што венгры падобныя на мірных фінаў, эстонцаў і удмуртаў, не ўкладвалася ў гэтую ваяўнічую патэтыку фашыстаў, якім бліжэй былі орды Батыя або Тамерлана.

У выніку гістарычных медытацый венгерскія цюркісты дайшлі да таго, што запісалі ў венгры нават Ісуса Хрыста, які, на іх думку, быў прынцам з Парфіі (старажытная дзяржава на тэрыторыі цяперашніха Ірану і Іраку). Калі пачалася Другая сусветная вайна, венгерскія фашысты наіўна лічылі, што Гітлер абавязкова падтрымае геапалітычны праект адраджэння адзінай цюркскай дзяржавы са сталіцай у Будапешце.

Пасля вайны цюркска-венгерскі нацыяналізм надоўга знік з мясцовай грамадскай дыскусіі, і цяпер дзякуючы партыі Jobbik перажывае другое нараджэнне.

Галоўным персанажам неапаганскага венгерскага міфу, па версіі Jobbik, з'яўляецца прынц Копань — палітычны дзеяч X стагоддзя, які змагаўся супраць прапанаванай Іштванам ідэі інтэграцыі Венгрыі ў склад еўрапейскай хрысціянскай матрыц. У вырашальнай бітве Іштван разбіў Копаня, а яго цела, паводле легенды, рассек на чатыры часткі, кожная з якіх пасля вісела на сценах чатырох самых буйных гарадоў каралеўства. Цікава, што сярод гісторыкаў ёсць версія пра тое, што Копань не быў паганцам, а належаў да праваслаўнай царквы.

Нельга сказаць, што каталіцкая царква пасіўна глядзіць на неапаганства. Яшчэ ў 2009 годзе Венгерская канферэнцыя біскупаў асудзіла праявы паганства ў лагеры правых радыкалаў.

«Доўгі час мы лічылі, што галоўная небяспекай для царквы з'яўляецца секулярызацыя — прыярытэт спажывання і геданізм. Аднак сёння мы адзначаем небяспечныя праявы неапаганства, якія ўвасабляе дзейнасць правай партыі Jobbik», — гаворыцца ў дакуменце.

Выданне «Fiertes europeennes» цытуе венгерскага прафесара Аціллу Якаба. Той лічыць, што цяперашняя царква ў Венгрыі не здольная спыніць моду на паганства. Па яго словах, у часы камунізму венгерская царква ператварылася ў нешта падобнае на царкву часоў Візантыі — стала служкай улады. Пасля акупацыі Венгрыі ў 1956 годзе царкву ачысцілі ад радыкальных і адначасова ад думаючых самастойна элементаў кшталту кардынала Міндсенці (герой венгерскага паўстання, якія пасля прыходу савецкіх войскаў 15 гадоў жыў на тэрыторыі пасольства ЗША ў Будапешце).

«У цяперашні час традыцыйныя канфесіі (каталіцтва і пратэстанцтва) вельмі бедныя з пункту гледжання духоўнасці і інтэлектуальнай думкі. Яны не маюць рэсурсаў супрацьстаяць праблескам неапаганства. Акрамя таго, шмат пастараў маюць кепскую адукацыю, а некаторыя нават самі з'яўляюцца адэптамі неапаганскіх ідэяў», — кажа Аціла Якаб.

Аднак у Касцёла яшчэ ёсць час рэабілітавацца. Тое ж выданне «Fiertes europeennes» піша: «Апазіцыя паміж хрысціянствам і паганствам выйшла на палітычны рынак. Неапаганства — гэта кропка разладу паміж правымі: адны з якіх карыстаюцца падтрымкай традыцыйнай царквы, для іншых жа характэрна неапаганская рыторыка. Аднак нельга казаць пра тое, што гэта апазіцыя дасягнула ўзроўню абсалютнай палітычнай канфрантацыі. Нават у самой партыі Jobbik пакуль што абвінавачваюць Fidesz не ў тым, што яны хрысціяне, а толькі ў тым, што кансерватары адмаўляюцца прызнаваць паганскую традыцыю венграў, тым самым грэбуючы іх культурай».

Акрамя таго, на бок кансерватараў у гэтай праблеме яўна становяцца сацыялісты, якія кантралююць трацінну электарату. Калі ў сакавіку згаданы шаман прыйшоў па запрашэнні дэпутатаў у будынак парламента, сацыялісты зладзілі скандал, патрабуючы «прыбраць гэтага клоўна». Цікава, што таго рытуалу тувінскага шамана спалохаліся нават некаторыя дэпутаты ад Jobbik. Усё ж не прынята ў Еўропе скакаць з бубнам і нешта енчыць.

Відавочна, што неапаганства — яшчэ вельмі размыты і сінкрэтычны накірунак у венгерскім грамадстве і палітычным жыцці. Аднак сталы попыт на неапаганскія прыбамбасы сведчыць, што ва ўмовах зацягнутага эканамічнага крызісу калектыўная думка ўсходнееўрапейскага грамадства здольная рабіць самыя непрагодныя зігзагі.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У Беларусі прайшлі новыя арышты падазраваных у датычнасці да нядаўняй акцыі шведскіх праваабаронцаў, якая атрымала назву «плюшавае бамбаванне». Незалежныя эксперты лічаць, што працягваецца закручванне гаек і назіраецца спроба адцягнуць увагу ад правалу сістэмы СПА краіны, якая не здолела спыніць несанкцыянаваны палёт шведскага лёгкаматорнага самалёта з агітацыйнымі матэрыяламі ў падтрымку дэмакратыі ў Беларусі.

**«Коммерсант» (Расія)**

Падводныя камяні чакаюць Мінск таксама і ў сувязі з разлікам канчатковага кошту Беларускай АЭС, які стане вядомы не раней за 2013 год пасля распрацоўкі, дзяржаўнай экспертызы і зацвярджэння праекта. Каштарыс можа павялічыцца. Павелічэнне фінансавання ад першапачаткова запланаванага, хутчэй за ўсё, будзе патрэбна і падчас будаўніцтва рэактараў. Дый закрыццё АЭС праз 50 гадоў эксплуатацыі абыдзецца будучым пакаленням беларусаў у немалую суму. Паколькі ўласных сродкаў на АЭС у Беларусі няма, яна можа разлічваць толькі на новыя крэдыты, павялічваючы дзяржпазыку. У такіх умовах нават пасля пуску атамнай станцыі наўрад ці можна спадзявацца на зніжэнне тарыфаў на электраэнергію. Прымаючы «царскі падарунак» Масквы ў выглядзе АЭС «пад ключ», пабудаваную на расійскія ж грошы, Мінск рызыкуе патрапіць у эканамічную пастку і апынуцца ў яшчэ большай залежнасці ад усходняга суседа.

**«Deutche Welle» ( Германія)**

Міліцыянеры бягуць. Таму што ў Беларусі міліцыянер, які звольніўся з органаў, практычна асуджаны на выезд на ПМЖ за мяжу. Унутры краіны знайсці працу не па прафесіі ён усё адно не зможа. Яго папросту нікуды не возьмуць, таму што ён нічога не ўмее. Таму беларускім уладам час задумацца б: падняць сілавікам аклады і неяк скараціць іх колькасць. Інакш падобныя непрыемныя выкрыцці, накшталт тых, якія робіць Макар, будуць з'яўляцца ў еўрапейскіх і апазіцыйных СМІ ўсё часцей і часцей.

**«СЛОН» (Расія)**

Рэжым Лукашэнкі досыць аўтарытарны, і ад такіх (ліберальных) рэформаў ён можа папросту разваліцца. Расія, зразумела, у гэтым не зацікаўлена, і яна, нягледзячы на ўсе рознагалоссі, будзе падтрымліваць Лукашэнку, тым больш, што ў палітыцы Расіі цяпер назіраецца аўтарытарны трэнд. Ніякіх ліберальных рэформаў у Беларусі не будзе, а будуць толькі спробы Масквы дысцыплінаваць беларускую эканамічную палітыку і прымусіць Лукашэнку выконваць дадзеныя Расіі абяцанні.

**«РЕГНУМ» (Расія)**

Для таго, каб сітуацыя ў Беларусі змянілася ў лепшы бок, неабходна папросту звярнуць на яе ўвагу. Пакуль, на жаль, Беларусь далёка не ў прыярытэтах у палітыцы Еўрасаюза і ЗША. Так, усё ведаюць, што ў краіне дыктатура. Але паколькі Беларусь не ў полі зроку стратэгічных інтарэсаў Захаду, наяўнасць у турмах палітычных зняволеных, уключаючы такіх гераічных асоб, як Дзмітрый Дашкевіч, выклікае толькі заявы пратэсту і сімвалічныя санкцыі.

**«Voice of America» (ЗША)**

Інтэграцыйная рыторыка для Мінска заўсёды была толькі адным з бакоў медалю. Колькі б Аляксандр Лукашэнка ні кляўся ідэямі братэрства і адзінства, як палітык, які стварыў рэжым асабістай улады, ён зусім не мроіць пра страту свайго эксклюзіўнага ўплыву на пытанні ўлады і ўласнасці ў падведамнай рэспубліцы. І, вядома ж, ён не гатовы да таго, каб наўпрост увязваць пытанні фінансавай дапамогі з РФ з ператварэннем у беларускага адміністратара Крамля. Адсюль і імкненне да захавання знешнепалітычнай самастойнасці. Чаго варта адна толькі гісторыя з зацягваннем пытання пра прызнанне Абхазіі і Паўднёвай Асеціі і дэманстратыўныя знакі ўвагі да Міхаіла Саакашвілі, які ў Крамлі лічыцца персонай, якой нельга паціснуць руку.

**«Республика» (Казахстан)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПОЛЬШЧА. УЛАДА БАІЦЦА ГРУНВАЛЬДА?

Польская левая партыя RACJA Polskiej Lewicy незвычайным чынам пракаментавала фармат святкавання ў гэтым годзе гадавіны славутай бітвы пад Грунвальдам, якая, як вядома, адбылася 15 ліпеня 1410 года. На гэты раз на полі, дзе калісьці змагаліся крыжакі і аб'яднанае войска палякаў, літоўцаў і беларусаў, сабралася каля 100 тысячы чалавек. Аднак чамусьці мерапрыемства праігнаравалі прадстаўнікі Касцёла і ўлады. Гэты дало левым добрую нагоду, каб абвінаваціць польскую каталіцкую царкву ў нейкіх таемных сімпатыях да Тэўтонскага ордэну. Крыжакі, як вядома, былі рэлігійна-вайсковай арганізацыяй, якая мела прамую падтрымку з боку Ватыкана. Ёсць версіі, што кіраўніцтва Ватыкана дасюль разглядае вынікі Грунвальда як сваю паразу ва Усходняй Еўропе. Тым больш, што цяперашні Рымскі Папа — этнічны немец. Версія цікавая, калі б не інфармацыя пра намер цяперашняга Папы наведаць Польшчу ў 2015 годзе. Па словах прэсы, магчыма, пантыфік наведае таксама і Грунвальд.

**Паводле польскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. НОВЫ СКАНДАЛ З-ЗА ЎБОРАЎ МІНІСТРА



Гардэроб Сесіль Дзюфло, сябры французскіх Зялёных, міністра жылля, зноў стаў прычынай палітычнага скандалу. Нагадаем, што ў чэрвені кансерватыўная прэса і палітыкі з партыі «Саюз за народны рух» (UMP) атакавалі Сесіль за тое, што яна з'явілася на пасяджэнне савета міністраў у джынсах. На думку правых, такая вопратка — здзек з інстытутаў дзяржавы і выбарцаў. Сесіль, здаецца, вырашыла выправіцца. На пачатку тыдня на пасяджэнне парламенту яна прыйшла ў эфектнай стракатай беласіняй сукенцы, за што была асвістаная дэпутатамі, якія займаюць правы сектар залы парламенту. Спікеру нават давялося заклікаць «свістуноў» замоўкнуць. Цяпер усё грамадства дружна асуджае тую выхадку. Што тычыцца Сесіль, дык яна заявіла, што партыя галістаў даказала: гэта структура — партыя рэтраградаў. Мадам Дзюфло таксама публічна паспачувала жонкам лідараў UMP.

**Паводле французскай прэсы**

### СЕРБІЯ. ПРАЦЯГВАЕЦЦА РАСКОЛ

Бялград пасварыўся з Новым Садам, сталіцай Ваяводзіны — краю, які мае статус аўтаноміі. Пралогам канфлікту стаў намер кіраўніцтва аўтаноміі правесці буйны міжнародны музычны фестываль, на які чакаецца да 100 тысяч гледачоў. На думку ўладаў Сербіі, некаторыя асобы намагаюцца выкарыстаць культурную падзею для прапаганды сепаратызму. У сувязі з гэтым Канстытуцыйны суд Сербіі прыняў шэраг пастаноў. Сярод іншага ён забараніў называць Новы Сад сталіцай (горад, на думку суддзяў, павінен называцца выключна «адміністратыўны цэнтр»). Адначасова Ваяводзіне забаранілі мець асобнае прадстаўніцтва ў Брусэлі. Абмежаваныя таксама правы мясцовага парламента ў сферы заканадаўства. Сацыял-дэмакраты, якія кіруюць краем, вельмі незадаволеныя ініцыятывамі Бялграда і бачаць тут нейкую агрэсіўную палітычную гульню, якую вядзе новы сербскі прэзідэнт-нацыяналіст Таміслаў Ніколіч. Супраць рашэнняў Бялграда выступіла і мясцовая партыя этнічных венграў, якая мае добрыя кантакты з Будапештам, што, у сваю чаргу, выводзіць канфлікт на новую, больш напружаную фазу.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ГРУЗІЯ. ЦІ МОЖНА ЛАЯЦЦА НА ПРЭЗІДЭНТА?



Гэта пытанне не дае спакойна спаць грузінскім юрыстам. Сюжэтам для прававога аналізу стаў выпадак у раёне Сачхерэ, дзе з-за нецэнзурнай лаянкі на адрас дзеючага кіраўніка дзяржавы арыштавалі трох чалавек. Інцыдэнт адбыўся, калі мясцовыя жыхары Бача Мачарашвілі, Эмзар Гагалідзэ і Леры Міхеілідзэ, якія знаходзіліся побач з базай, дзе праходзілі ваенныя вучэнні, даволі гучна сталі абражаць прэзідэнта. Усіх траіх арыштавалі на наступны ж дзень, але ў пастарунак патрапілі толькі двое. Трэці арыштаваны апынуўся ў рэанімацыі. Справа ў тым, што паліцэйскі пікап, у якім яго везлі ў ізалятар, перавярнуўся. Абодвух затрыманых абвінавацілі ў дробным хуліганстве, што выклікала буру пратэсту з боку праваабаронцаў. Як тлумачаць юрысты, паводле заканадаўства Грузіі, нецэнзурныя выразы на адрас прэзідэнта не з'яўляюцца злачынствам. Акрамя таго, да абвінавачаных своечасова не выклікалі адваката. Цяпер усе чакаюць пасяджэння суда, вердыкт якога можа стаць прававым прэцэдэнтам.

**Паводле грузінскай прэсы**

КІНО

# МАРКІЗА ДЭ САД

Алег НОВІКАЎ

**Рэкорды продажу бестселераў «Код Да Вінчы» і «Гары Потэр» пабітыя. Па аб'ёму накладаў іх апярэдзіла кніжка «Пяцьдзесят адценняў шэрага» брытанкі Эрыкі Леанард (псеўданім E.L. James). Грамадства ў шоку: самая папулярная ў свеце кніжка — раман пра каханне садамазахістаў.**



На першы погляд, «Пяцьдзесят адценняў шэрага» — тыповы раман, у цэнтры якога няпростыя адносіны Анастасіі Стыл (Anastasia Steele) — студэнткі каледжу і маладога бізнэс-магната Крысціяна Грэя (Christian Grey). Анастасія сустракае Крысціяна падчас інтэрв'ю, якое прасіла зрабіць для яе хворая сяброўка. Пасля адбываецца яшчэ пару выпадковых сустрэч, якія паступова перарастаюць у нешта сур'ёзнае.

Усё б было добра, калі б парачка не захаплялася садамазахізмам. У рамане хапае сцэнаў, у якіх героі дасягаюць фізічнай гармоніі з дапамогаю кайданкаў, вяровак і іншага начыння ды прыёмаў садамазахістаў, або, як іх яшчэ называюць, аматараў BDSM (ад англійскага: абмежаванне рухомасці, дамінаванне і падпарадкаванне, садызм і мазахізм).

Увогуле, добрая частка тэксту — апісанне ўнутранага маналогу Анастасіі, якая не можа рашыцца на тое, каб падпісаць з Крысціянам кантракт гаспадара і рабыні. Гэты кантракт — прыняты ў асяроддзі аматараў BDSM — устанаўлівае правілы, як, чым і куды можна біць і да якой ступені болю. Для Анастасіі, сучаснай жанчыны, якая робіць добрую кар'еру, падпісаць кантракт — гэта значыць страціць павагу да сябе. Пасля доўгіх пакут галоўная гераіня ўсё ж падпісвае той дакумент.

Увогуле, тэма BDSM раней някепска прадавалася на рынку. Дастаткова згадаць сталы рынкавы попыт на філасофскія эцюды маркіза дэ Сада. Пасля ў 1980-я гады быў фільм «9 з паловай тыдняў» з Мікі Руркам і Кім Бэсінджэр. Дарэчы, нават самыя заўзятыя ханжы прызналі фільм культавым, паколькі ў ім удала апісана, як сыходзіць спіраль адносін партнёраў. Не кажучы ўжо пра стваральнікаў камедый. На сцэну, у якой Мікі Рурк праводзіць па целе Кім лёдам або корміць яе з лыжачкі, завязаўшы ёй перад гэтым вочы, не рабіў пароды хіба толькі лянівы рэжысёр.

Аднак маштабы продажу кнігі «Пяцьдзесят адценняў шэрага» папросту здзіўляюць. Гэтым летам кніга знаходзіцца ў топе продажаў у Злучаных Штатах і Вялікабрытаніі і яшчэ ў 35 англамоўных краінах. Колькасць прададзеных асобнікаў ужо пераваліла за 31 мільён. Часопіс «Time» уключыў пісьменніцу ў ліст 100 самых уплывовых людзей на планеце.

Яшчэ адзін цікавы нюанс звязаны з тым, што спачатку кніга не друкавалася. Яе фрагменты можна было прачытаць у інтэрнэце і пасля замовіць поўны тэкст у электронным фармаце. Поспех продажаў у фармаце e-book прымусіў выдавецтвы выкупіць у аўтаркі права на друкаванне трылогіі, першая частка якой выйшла ў мінулым верасні. Гісторыя кніжкі дазваляе шмат каму называць Е.Л. Джэймс першай паспяховай пісьменніцай часу новых тэхналогій.

Пры гэтым крытыка вельмі асцярожна ставіцца да буму інтарэсу да творчасці Е.Л. Джэймс. Рэцэнзіі на кнігу дастаткова сярэднія, паколькі сюжэт яўна скрадзены. Літаратуразнаўцы лёгка ўстанавілі, што сюжэтная лінія кнігі «Пяцьдзесят адценняў шэрага» шмат у чым нагадвае фабулу папулярнай сярод падлеткаў сагі «Змярканне» (англ. «Twilight») рэжысёра Кэтрын Хардвік па аднайменным рамане Стэфані Майер. З той розніцай, што героі «Змяркання» пакутуюць не на глебе сэксу, а наконт таго, ці павінен малады вампір Эдвард Кален пакусаць сваю каханую дзяўчыну Бэлу Свон.

Блізкасць сюжэтаў не дазваляе крытыкам ставіць кнізе высокія ацэнкі. Так, лонданскі «The Telegraph» назваў твор «прымітыўным клішэ». Амерыканскі часопіс «Entertainment Weekly» лічыць, што кніжка цягне на слабую чацвёрку. «Chicago Tribune» увогуле назвала раман «дэпрэсіўным» і «дурным», паколькі амерыканцы (па сюжэту героі жывуць у ЗША) не ўжываюць англійскіх ідыёмаў, што ўклала ім у вусны англічанка Е.Л. Джэймс, якая, дарэчы, да таго, як падацца ў літаратуру, працавала на BBC.

Аднак, канстатуючы слабасць літаратурных якасцяў кнігі, аўтары рэцэнзій мусяць адказаць на пытанне: чаму ўсе (асабліва жаночая аўдыторыя) звар'яцелі ад «Пяцідзесяці адценняў шэрага»? Як добра адзначыла газета «The Columbus Dispatch», «нягледзячы на тое, што тэкст яўна кульгае, Е.Л. Джэймс прымушае гартаць старонку за старонкай».

Крытыкі лонданскай газеты «The Guardian» мяркуюць, што чытачы ў нейкім сэнсе прыколваюцца, чытаючы пра апісаныя ў кнізе падпольныя сэксуальныя практыкі. На думку аўтара рэцэнзіі, чытанне кніжкі чымсьці нагадвае рытуалы BDSM, калі партнёры, якіх лупяць па целу, разумеюць, што гэта ўсё забаўны прыкол. Амерыканская газета «Ledger-Enquirer» лічыць, што аўтарцы ўдалося закрануць у сваёй кнізе нейкі важны аспект жаночай экзістэнцыі, які нават пакуль слаба ведаюць жаночыя псіхолагі.

Як і трэба было чакаць, аматары BDSM успрынялі фурор трылогіі як падставу для рэабілітацыі свайго вучэння. Зноў чуваць заклікі перагледзець падыходы да ролі гвалту ў партнёрскіх адносінах. Атрымаўшы дзякуючы поспеху «Пяцідзесяці адценняў шэрага» пропуск на старонкі вядучых СМІ, фанаты BDSM разважаюць пра тое, што BDSM — вышэйшая ступень даверу паміж мужчынам і жанчынай. Яны называюць кнігу прапагандай свядомых сексуальных адносін са спасылкай на тое, што галоўная гераіня доўга думае, ці трэба ёй ставіць подпіс пад тым кантрактам.

Супраць такіх падыходаў сфармавалася моцная партыя, першую скрыпку ў якой гуляюць феміністкі. Феміністкі баяцца, што «Пяцьдзесят адценняў шэрага» — не што іншае, як хітрая атака на лозунг за роўнасць палоў. Свядомы выбар Анастасіі на карысць таго, каб стаць рабыняй, на думку феміністак, нехта можа трактаваць як прыродную схільнасць жанчын да таго, каб быць залежнымі, слабым полам. Амерыканскі «Newsweek», сапраўды, так і піша: «Чаму для некаторых жанчын свабода — гэта цяжар? Можа, пачуццё самастойнасці сапраўды не вельмі прыемна шмат каму. Магчыма, ёсць сферы, дзе ўлада, самастойнасць і яе імператыў могуць быць сумнымі і некамфортнымі?»

Як не дзіўна, аднак на гэты раз феміністак падтрымалі кансерватары. У сакавіку дырэкцыя публічных бібліятэк штату Фларыда пастанавіла прыбраць кнігі Е.Л. Джэймс з бібліятэчных фондаў. Прадстаўнікі адміністрацыі кажуць, што кнігам з падобным сэксуальным кантэнтам не месца на кніжных паліцах.

Думаецца, што мы знаходзімся толькі ў пачатку дыскусіі наконт феномену кнігі «Пяцьдзесят адценняў шэрага». Бум інтарэсу да яе фактычна толькі пачынаецца. Яна яшчэ не перакладзеная на іншыя мовы. У дадатак у гэтую вясну кінакампанія «Universal Pictures» падпісала кантракт з пісьменніцай наконт экранізацыі. Кошт кантракту — 5 мільёнаў долараў. Яшчэ 1,5 мільёна Е.Л. Джэймс зарабіла на продажы кнігі.

Ужо вядома, што на галоўную ролю Анастасіі сватаюць аўстралійскую мадэль Эмілі Браўнінг, якую глядач ведае па фільму «Лемані Снікет: 33 няшчасці». А вось кандыдатаў на рэжысёра значна больш. Ёсць чуткі, што здымаць перыпетыі адносін парачкі садамазахістаў будзе вядомая актрыса Анжэліна Джалі.

ЦІКАВА

# АЛЬТЭРНАТЫЎНЫЯ АЛІМПІЯДЫ

Алег НОВІКАЎ

**Малавядомай часткай гісторыі алімпійскага руху з'яўляюцца альтэрнатыўныя Алімпіяды, якія праводзіліся краінамі, калі яны калектыўна байкатавалі афіцыйныя Алімпійскія гульні.**

Відавочна, для тых, хто памятае СССР, самай вядомай альтэрнатыўнай Алімпіядай з'яўляюцца гульні «Дружба–84», якія прайшлі ў Маскве ўлетку 1984-га ў рамках байкоту Алімпіяды ў Лос-Анжэлесе. Байкот быў нашым парытэтным адказам на байкот Алімпіяды–80 з боку 65 краін Захаду. Хаця афіцыйна нашы атлеты ў 1984 годзе не паехалі за акіян па наступных прычынах: «адмова прадставіць СССР і іншым сацыялістычным краінам адмысловыя пісьмовыя гарантыі бяспекі», а таксама адмова ўладаў ЗША дазволіць «Аэрафлоту» чартарныя рэйсы для дастаўкі савецкай дэлегацыі, плюс адмова прыняць у порце Лос-Анжэлеса цеплаход «Грузія», які планавалася выкарыстоўваць як алімпійскую плывучую базу».

Аднак байкотам гульняў у Каліфорніі справа абмежавацца не магла. Трэба было абавязкова рабіць альтэрнатыўную Алімпіяду, накшталт той, якую ў 1980 годзе правялі амерыканцы. Мала хто ведае, што на зло Саветам улетку 1980-га на базе ўніверсітэту Пенсільваніі пад Філадэльфіяй «байкатоўцы» з 29 дзяржаў правялі свае спаборніцтвы. Дарэчы, амерыканцы спачатку шукалі іншае месца пад альтэрнатыўную Алімпіяду. Сярод краін-кандыдатаў фігуравалі Кот-д'Івуар, Японія, Кітай і Італія.

Чамусьці Вашынгтону асабліва хацелася правесці гульні ў Кот-д'Івуары. Нядаўна брытанскі «The Telegraph» апублікаваў ліставанне паміж Вашынгтонам і пасольствам ЗША ў Абіджане, якому было даручана абавязкова атрымаць ад кіраўніцтва краіны згоду на прыём гульняў. З дакументаў высвятляецца, што адміністрацыя Картэра за кошт Алімпіяды ў Афрыцы хацела падарваць пазіцыі СССР на Чорным кантыненце.

Паводле зместу тых жа дакументаў, ЗША адначасова ціснулі на Міжнародны алімпійскі камітэт (IOC), каб Самаранч забраў у Масквы права на правядзенне Алімпійскіх гульняў. Распрацоўваўся план правядзення іх у Мельбурне або ў Афінах. Была яшчэ адна экзатычная ідэя — праводзіць альтэрнатыўную Алімпіяду на пяці кантынентах адразу.

Аднак у выніку гульні, якія афіцыйна называліся Liberty Bell Classic, прайшлі ў Злучаных Штатах. Усяго ў рамках альтэрнатыўнай Алімпіяды змагаліся за 33 камплекты ўзнагарод. Відавочна, дамінавалі на стадыёнах амерыканцы. У фінальным заліку ў іх было 19 медалёў. Нейкую канкурэнцыю янкі паспрабавалі зрабіць канадцы і кітайцы. Тым не менш, у некаторых відах былі паказаны лепшыя вынікі, чым на паралельных Алімпійскіх гульнях у Маскве.



«Дружба–84»

Пасля Liberty Bell Classic было зразумела, што часткай канцэпцыі байкоту з боку СССР Алімпіяды ў Лос-Анжэлесе абавязкова стане правядзенне сваёй альтэрнатыўнай Алімпіяды. Гаворка пра тыя самыя гульні «Дружба–84». У спаборніцтвах удзельнічалі спартоўцы дзяржаў, якія байкатавалі Гульні ў Лос-Анжэлесе: СССР, Балгарыя, Венгрыя, ГДР, КНДР, Куба, Манголія, Польшча, Чэхаславакія, Эфіопія і інш. Усяго ў спаборніцтвах удзельнічалі спартоўцы з больш чым 50 краін.

Увогуле, «Дружба–84» была не першай спробай арганізацыі «антыамерыканскіх» альтэрнатыўных Алімпіяд. У 1963 годзе ў Джакарце (Інданезія) адбыліся так званыя гульні GANEFO — абрэвіятура ад англійскай Games of the New Emerging Forces (Гульні новых узнікаючых сілаў). Гэта была маштабная спартовая падзея. 2 700 атлетаў прадстаўлялі 51 дзяржаву. Па сутнасці GANEFO былі спробай стварыць нейкі Міжнародны алімпійскі камітэт для краін трэцяга свету, лідары якіх у той час марылі пра новы геапалітычны полюс.

Перадгісторыя GANEFO была такая. У лютым 1963 года выканкам IOC прыняў рэзкую заяву, у якой асудзіў адмову Інданезіі выдаваць уязныя візы для ўдзелу ў IV Азіяцкіх гульнях дэлегацыям Ізраілю і Тайваня, і, як следства, прыпыніў сяброўства Інданезіі ў арганізацыі. У адказ прэзідэнт Інданезіі Сухарта прапанаваў правесці спаборніцтва для спартоўцаў краін «антыімперыялістычнай» арыентацыі. Ініцыятыва адразу атрымала падтрымку Мао Цзэдуна. Як вядома, КНР з 1956 года байкатавала IOC, які дазволіў удзел у Алімпіядзе камандзе Тайваня.

У выніку СССР і краіны Варшаўскай дамовы апынуліся ў цяжкай сітуацыі. З аднаго боку, у СССР, алімпійская каманда якога была адной з самых моцных у свеце, не было жадання сварыцца з IOC. З іншага — ігнараваць гульні ў Джакарце значыла аддаць палітычную ініцыятыву Кітаю ў трэцім свеце. У выніку ў Маскве выдумалі кампраміснную формулу: савецкія спартсмены прынялі ўдзел у спаборніцтвах, аднак не ў самым моцным складзе. Адпаведна, тон на спаборніцтвах задавалі кітайцы, якія выйгралі 65 залатых медалёў. На другім месцы былі савецкія атлеты (27 залатых медалёў). Інданезіі дасталася трэцяе месца (22 залатых медаля).

Наступныя гульні GANEFO планавалася правесці ў 1967 годзе ў Каіры. Пры гэтым Кітай абяцаў дапамогу Егіпту ў будаўніцтве спартовых аб'ектаў. Аднак працэсы «культурнай рэвалюцыі» выклікалі зніжэнне ўвагі кітайскага кіраўніцтва да спорту, у выніку чаго падтрымка не была аказана, што прывяло да адмены другога GANEFO. Пераварот у Інданезіі, ахвярай якога стаў прэзідэнт Сухарта, таксама адмоўна адбіўся на далейшым лёсе праекту.

У Камбоджы прайшлі другія GANEFO з удзелам каманд з 17 краін. Турнір перайменавалі ў азіяцкія гульні GANEFO. Чарговыя GANEFO павінны былі адбыцца ў 1970 годзе ў КНР. На іх прыехала ўсяго 300 спартсменаў. У выніку Пекін капітуляваў, і ў 1971 годзе (упершыню з 1956-га) пагадзіўся ўдзельнічаць у мерапрыемствах пад эгідай IOC.

У сваю чаргу, GANEFO таксама не былі першай альтэрнатыўнай Алімпіядай. Першы раз альтэрнатыўную Алімпіяду зладзіў урад іспанскай рэспублікі ў 1936 годзе. Сацыялісты, якія складалі касцяк ураду, вырашылі не накіроўваць спартсменаў у нацысцкі Берлін, які прымаў Алімпіяду. Усе, хто не хацеў ехаць да Гітлера, сабраліся ў Барселоне. Удзельнічаць у альтэрнатыўных гульнях збіраліся 6 тысяч спартсменаў з 22 краін. Але ў выніку «Народная Алімпіяда» — так называлася акцыя — не адбылася. Якраз напярэдадні адкрыцця Гульняў пачаўся мяцеж Франка. Каля 200 спартоўцаў вырашылі застацца ў Іспаніі і змагацца на баку рэспубліканцаў.

Сёння падаецца, што альтэрнатыўныя Алімпіяды — фрагменты мінулага. Аднак не трэба спяшацца. На думку назіральнікаў, карупцыйныя скандалы, якія рэгулярна адбываюцца ў апараце IOC, могуць прывесці да расколу арганізацыі. Не кажучы пра тое, што ў спартовым свеце існуе фракцыя, якая крытыкуе IOC за адыход ад прынцыпаў алімпійскага руху — спорт павінен мець аматарскі і некамерцыйны характар. Нарэшце, з улікам росту ўплыву ісламу, свае Гульні могуць арганізаваць мусульмане, што таксама падарве манаполію IOC на Алімпіяду. Нешта падобнае ўжо спрабавалі зрабіць у 2005 годзе ў Саудаўскай Аравіі, дзе прайшлі Гульні ісламскай салідарнасці з удзелам 6000 атлетаў з 55 краін. Другія Гульні былі прызначаныя на 2010 год, аднак з-за напружанасці ў зоне Персідскага заліву яны дасюль не праведзеныя.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АЛЯКСЕЙ АРЛОЎ



Цяпер ад кіраўніка адміністрацыі Калмыкіі Арлова залежыць стабільнасць фінансавай сістэмы ўсёй Расійскай Федэрацыі і яе імідж. Справа ў тым, што ў Калмыкіі пачаўся сапраўдны «судовы» бунт. Каля 2 тысяч калмыкаў падалі іскі з патрабаваннем выплаты ім матэрыяльнай кампенсацыі як ахвярам палітычных рэпрэсій. Яны лічаць, што за гады, якія яны правялі ў сталінскай высылцы, ім павінны выплаціць як мінімум тры мільёны рублёў. З-за наплыву іскавых заяў на працягу тыдня праца гарадскога суда калмыцкай сталіцы была фактычна паралізавана. Аднак гэта толькі кветачкі. Фактычна Эліста і разам з ёй Масква трапілі ў палітычную пастку. Калі хаця б адзін іск задаволяць, гэта прывядзе да сапраўднага выбуху іскаў усіх ахвяраў сталінскага рэжыму з негатыўнымі наступствамі для дзяржаўнага бюджэту РФ. Калі расійскія ўлады пачнуць перашкаджаць выдачы кампенсацый і выхаду судовых іскаў на еўрапейскі ўзровень, то гэта прывядзе да неадкладнага абвастрэння сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў Калмыкіі. Адзіны, хто можа супакоіць былых рэпрэсаваных, — мясцовая ўлада, аднак пакуль яна не ведае, што рабіць. Зараз у Калмыкіі пражываюць каля 60 тысяч чалавек, якія былі дэпартаваныя па загаду Сталіна ў Сібір або нарадзіліся ў сібірскай высылцы.

### ДЭВІД МУНГУА ПАЕС



Міністр грамадскай бяспекі Сальвадора блізкі да таго, каб пазбавіць краіну ад войнаў моладзевых крымінальных груповак (mara). Міністэрства арганізавала дыялог двух самых вялікіх банд краіны — Mara 18 і Salvatrucha, якія даўно знаходзяцца ў стане вайны, ахвярамі якой часта робяцца звычайныя людзі. У выніку лідары груповак вырашылі заключыць мір. Праўда, яшчэ не вядома, як доўга ён працягнецца, паколькі падпісаны на паперы дакумент не падрывае структуру рэпрадукцыі крыміналу ў Сальвадоры. Як правіла, сябры mara — гэта выхадцы з бедных сямей або дзеці эмігрантаў, якія нарадзіліся ў турмах ЗША, і якіх дэпартавалі на радзіму бацькоў. У 1990-х гадах створаныя імі банды пачалі браць пад кантроль камерцыю, гандаль наркотыкамі і зброяй і ў выніку ператварыліся ў дзяржаву ў дзяржаве. Па падліках таго ж Паеса, сёння ў краіне каля 100 тысяч чалавек непасрэдна з'яўляюцца сябрамі розных mara, а яшчэ 400 тысяч ускосна ўваходзяць у гэтыя структуры. Цяжка зразумець, чым цяпер будзе займацца такая маса людзей. Палітолагі лічаць, што mara пайшлі на міравую, каб забяспечыць стабільнасць наркатрафіку. Праўда, для Сальвадора нават кепскі мір паміж mara лепш, чым вайна. Апошнім часам сябры груповак mara штомесяц забівалі каля 300 чалавек.

### ЛЕЙЛА ТРАБЕЛСІ



Другая жонка экс-прэзідэнта Туніса Бен Алі, што, як і яе муж, атрымала палітычны прытулак у Саудаўскай Аравіі, напісала кнігу пад назвай «Мая праўда», якая на мінулым тыдні з'явілася ў кніжных крамах Францыі. На яе старонках былая першая лэдзі падзялілася сваімі поглядамі на рэвалюцыю ў Тунісе і на працэсы ў арабскім свеце. Як і трэба было чакаць, Лейла аспрэчвае тэзіс пра тое, што ў Тунісе мела месца рэвалюцыя. Па яе словах, Бен Алі дэзынфармавалі і прымусілі збегчы. Як піша Лейла, генералы прапанавалі прэзідэнту падацца ў эміграцыю, хаця сітуацыю на вуліцах яшчэ можна было нармалізаваць. Нельга без слёз чытаць апісанне таго, як сям'я Бен Алі збіраецца ў палёт, як бярэ з сабою толькі самае неабходнае, як плача іх прыслуга, як у час пералёту ў Саудаўскую Аравію бацькам не было чым накарміць дзяцей. Праўда, асаблівага жалю ў самім Тунісе гэтыя фрагменты кніжкі Лейлы не выклікалі. Як пішуць туніскія назіральнікі, ніхто так моцна не сапсаваў імідж Бен Алі, як яго жонка, якая вяла занадта шыкоўны лад жыцця. У дадатак туніскі суд абвінавачвае сужэнства ў тым, што падчас уцёкаў яны прыхапілі з сабой ладную частку туніскага бюджэту.

ЦІКАВА

# ЮЗАФ ПІЛСУДСКІ І БЕЛАРУСЬ. НЕШАБЛОННЫ ПОГЛЯД

Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук

**Постаць «начальніка польскай дзяржавы» да сённяшняга дня неадназначна ўспрымаецца ў беларускім грамадстве. Савецкая дактрына разглядала Пілсудскага як аднаго з галоўных ворагаў «краіны рабочых і сялян», называючы маршала «ланцуговым сабакам імперыялізму і капіталізму». Беларуская дзяржаўная ідэалогія таксама паўтарае гэтыя замшэлыя пастулаты. Паспрабуем разабрацца ў тым, якой хацеў бачыць нашу частку еўрапейскага кантыненту Юзэф Пілсудскі.**



Ю. Пілсудскі, 1928 г.

У 1918 годзе Польшча стала незалежнай. Ю. Пілсудскі імкнуўся аднавіць Рэч Паспалітую ў межах 1772 года, гэта значыць з беларускімі, украінскімі і літоўскімі землямі. Сам маршал любіў паўтараць фразу: «Польшча — як бублік. Пасярэдзіне дзірка, а самае смачнае па краях, на крэсах». Народжаны на Віленшчыне, Пілсудскі меў сантыменты да ўсходніх тэрыторый І Рэчы Паспалітай. Менавіта гэтым тлумачыцца і яго эмацыянальная адозва «Да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага», якую ён выдаў 22 красавіка 1919 года ў Вільні. У ёй у прыватнасці адзначалася: «Я хачу даць вам магчымасць вырашэння спраў унутраных, нацыянальных і рэлігійных так, як вы самі гэтага пажадаеце, без гвалту альбо ціску з боку Польшчы».

Віленская адозва аказала вялікае ўражанне на беларускіх нацыянальных дзеячаў. Беларускі друк у Мінску і Вільні пісаў аб гістарычнай супольнасці палякаў і беларусаў, дзякаваў за вызваленне з-пад расійскага імперыялізму, выказваў спадзяванне на дапамогу Ю. Пілсудскага ў пабудове незалежнай беларускай дзяржавы. 19 верасня Пілсудскі ў Мінску прыняў дэлегацыю беларускіх нацыянальных дзеячаў на чале са старшынёй Рады БНР Я. Лёсікам. Маршал заверыў беларусаў, што ён з'яўляецца прыхільнікам беларускай справы.

Аднак не трэба думаць, што Ю. Пілсудскі ва ўсходнім пытанні (і ў беларускім яго кантэксце ў прыватнасці) быў бязмежным альтруістам. Маршал быў глыбокім і цвярозым прагматыкам. Паводле яго меркаванняў, у выніку савецка-польскай вайны павінны былі паўстаць незалежныя беларуская, літоўская і ўкраінская дзяржавы, звязаныя з Польшчай на правах федэрацыі. Польскі гісторык Марэк Корнат лічыць, што Пілсудскі быў не столькі федэралістам, колькі прыхільнікам ідэй «рэальнай




Помнік Пілсудскаму ў Вілейцы, 2012 г.

палітыкі». Па меркаванні даследчыка, маршал рабіў моцную стаўку на стварэнне незалежнай украінскай дзяржавы, якая пад уплывам небяспекі з усходу будзе цягнуцца да Польшчы. Ю. Пілсудскі быў скептычна настроены ў дачыненні да перспектыў стварэння беларускай незалежнай дзяржавы. Па меркаванні «начальніка польскай дзяржавы», лягчэй было б стварыць сумесную літоўска-беларускую дзяржаву, якая па сваёй сутнасці стала б новым ВКЛ. Стратэгічнай мэтай федэралістычнай палітыкі маршала было стварэнне памежнага буфера, які б засцерагаў Польшчу ад небяспечнага суседа на ўсходзе.

Пілсудскі лічыў, што яго федэралізм можа прывесці да геапалітычных змен ва Усходняй Еўропе, у выніку якіх польская дзяржава атрымае магчымасць устаць на ногі ў палітычным і эканамічным сэнсах, а ўсходнія суседзі будуць вернымі хаўруснікамі і «памежнай аховай». Маршал быў упэўнены, што Польшча павінна выкарыстаць свае «пяць хвілін», каб у будучым забяспечыць стабільнасць у гэтым рэгіёне.

Аднак усё пайшло не так, як планаваў «бацька» ІІ Рэчы Паспалітай. 18 сакавіка 1921 года ў Рызе была падпісана мірная дамова, якая скончыла савецка-польскую вайну. У яе выніку ў склад Польшчы ўвайшлі Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна. Гэтых тэрыторый, безумоўна, не хапала для стварэння буферных дзяржаў Беларусі і Украіны. Да таго ж, трэба было ўлічваць антыпольскія настроі ў Літве, якая не жадала ісці на саюз з Польшчай. Такім чынам, перамагла «інкарпарацыйная канцэпцыя» Рамана Дмоўскага, паводле якой Польшча павінна была ўключыць у свой склад тэрыторыі, якія ўваходзілі ў склад І Рэчы Паспалітай да другога падзелу ў 1793 года. Дмоўскі быў перакананы, што нацыянальная самасвядомасць беларускага і ўкраінскага народаў не развітая, і дзякуючы гэтаму дадзеныя этнічныя групы лёгка ўдасца паланізаваць. Лідар нацыянал-дэмакратычнай партыі не падзяляў ідэю Пілсудскага аб Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. Ён выказваўся за далучэння да польскай дзяржавы Вільна і Львова і той часткі ўсходніх тэрыторый, дзе, па яго меркаванню, «дамінаваў польскі нацыянальны элемент».

Выйграўшы вайну з бальшавікамі, Ю. Пілсудскі прайграў унутрыпалітычную барацьбу. У выніку савецка-польскай вайны Польшча атрымала не толькі тэрыторыі на ўсходзе, але і даволі працяглую мяжу з небяспечнай Савецкай Расіяй, якая не магла дараваць Пілсудскаму тое, што ён не «пусціў» палкі Будзёнага і Тухачэўскага ў Еўропу. У той час, як савецкія дыверсанты, якія дзейнічалі па лініі актыўнай выведкі ў Заходняй Беларусі, грамілі польскую адміністрацыю і забівалі паліцыянтаў, спрабуючы выклікаць у гэтым рэгіёне «рэвалюцыйную сітуацыю», савецкая прэса пісала аб тым, што Польшча рыхтуе новую вайну супраць Саўдэпіі. Бальшавіцкія газеты стракацелі карыкатурамі кшталту «Пілсудскі точыць зубы на СССР». Аднак сам маршал добра разумеў, што Савецкая Расія ўзору другой паловы 1920 — пачатку 1930-х гадоў — гэта моцны і небяспечны праціўнік. Новая вайна з бальшавікамі магла дорага каштаваць Польшчы.

Мала хто ведае, што ў чэрвені 1926 года міністр замежных спраў Польшчы Аўгуст Залескі арганізаваў сустрэчу Пілсудскага з савецкім пасольм у Варшаве Пятром Войкавым. Падчас размовы з дыпламатам маршал сказаў: «Я ведаю, што ў вашай краіне многія лічаць, нібыта я рыхтую новую вайну супраць Расіі. Які інтарэс Польшча можа мець у новай вайне? Наша галоўная мэта — гэта рэканструкцыя польскай эканомікі. Мы не маем аніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій да Расіі і не збіраемся звяргаць камуністычную ўладу ў вас. Чаму? Таму што любая іншая палітычная сістэма будзе больш небяспечнай для Польшчы, чым існуючая зараз. Я асабіста, у выпадку вайны, таксама панясу страты. Зараз я пераможца, а ў выпадку новай вайны рызыкую страціць гэтую пазіцыю».

Гэтыя словы Пілсудскага падаюцца шчырымі. Маршал разумеў, што яго краіне трэба зрабіць даволі шмат, каб з «задворкаў Еўропы» стаць моцным гульцом на еўрапейскай палітычнай арэне. Што ж тычыцца спроб інтэграцыі Заходніх Беларусі і Украіны з Польшчай, то, як вядома, вырашэнне гэтага пытання з дапамогай палітыкі паланізацыі і каланізацыі праз асадніцтва, якую ажыццяўлялі польскія ўлады, дало адмоўны вынік. Украінцы і беларусы адкрыта сталі змагацца супраць польскіх улад, і скончылася гэта «інтэграцыя» вітальнымі брамамі, якімі сустракалі жыхары «усходніх крэсаў» Чырвоную Армію ў верасні 1939 года.

…Гісторыя не ведае ўмоўнага ладу. Але мапа Усходняй Еўропы, напэўна, выглядала б інакш, калі б перамагла федэралісцкая канцэпцыя Ю. Пілсудскага і замест «крэсаў» і марыянеткавых савецкіх рэспублік з'явіліся б незалежныя дзяржавы, няхай і звязаныя з Польшчай агульнасцю палітычных і эканамічных інтарэсаў.

Да сённяшняга дня ў беларусаў неадназначнае стаўленне да постаці «начальніка польскай дзяржавы», і ўвогуле да ІІ Рэчы Паспалітай. Але на тэрыторыі нашай краіны захаваўся самы сапраўдны помнік Юзафу Пілсудскаму. У Вілейцы на тэрыторыі адной з устаноў стаіць вялізны, вагай амаль у тону, камень, пастаўлены ў гонар маршала ў 1935 годзе. Першапачаткова помнік стаяў каля школы ў вёсцы Буцькі. У верасні 1939-га камень быў вывезены ў поле і праляжаў там да 2004 года, калі супрацоўнікі польскай амбасады ў Мінску пажадалі размясціць яго каля будынку свайго дыпрадстаўніцтва. Палякам у гэтым адмовілі, але помнік перавезлі ў Вілейку.

Будучы вялікім патрыётам Польшчы, Ю. Пілсудскі дзесьці ў глыбіні душы захаваў вялікую павагу і любоў да былога Вялікага Княства Літоўскага і яго народаў. Аднак геапалітычныя рэаліі пачатку ХХ стагоддзя паклалі свой адбітак на дзейнасць «начальніка польскай дзяржавы» і прымусілі яго адмовіцца ад свайго бачання будучыні Усходняй Еўропы.



Пахаванне сэрца Пілсудскага ў Вільні, 1935 г. Са збораў аўтара

ДОЛЯ БЕЛАРУСА

# ЛЁС МІКАЛАЯ БЕЛАКОЗА

Сяргей ЧЫГРЫН

**Беларускай Беларусі добра вядома імя Алеся Мікалаевіча Белакоза. Настаўніка, краязнаўца. Аднаго з выбітных грамадскіх дзеячаў, асветніка з адраджэнскага руху найноўшага часу. Усё сваё жыццё ён аддаў дзецям, вёў шырокую нацыянальна-выхаваўчую работу з вучнямі, збіраў краязнаўчыя матэрыялы, стварыў Літаратурна-краязнаўчы музей у Гудзевічах Мастоўскага раёна, атрымаў званне заслужанага работніка культуры Беларусі. А нядаўна быў уганараваны прэміяй «За свабоду думкі». Я ж хачу распавесці пра яго бацьку — Мікалая Язэпавіча Белакоза.**



Мікалай Белакоз — кавалерыст, 1917 г.

Лёс беларуса Мікалая Белакоза — гэта лёс многіх беларусаў ХХ стагоддзя: пакручасты і драматычны. Але беларусы не падалі духам: жылі, працавалі на зямлі, кармілі свае сем'і.

Даслаў ліст у вёску Гудзевічы Мастоўскага раёна Алесю Мікалаевічу Белакозу, што хачу напісаць пра ягонага бацьку Мікалая Язэпавіча Белакоза. Хутка ад яго прыйшоў пакет з адказамі на мае пытанні, з фотаздымкамі, успамінамі пра бацьку. А ў пісьме Алесь Белакоз напісаў: «Дарагі Сяргей, шчыра дзякую, што хочаце ўспомніць і пра майго тату, бо ён быў прадстаўніком бяднейшага сялянства і заставаўся ім пры ўсіх уладах, хоць бальшавікі лічылі тату амерыканцам, ворагам, кулаком. Праўда, тры гектара зямлі і адна карова не давалі падставы называць яго кулаком, але бальшавікоў ён не любіў усё жыццё». Алесь Мікалаевіч дазволіў мне карыстацца ўсімі ягонымі дакументамі і ўспамінамі пра бацьку, а калі што не зразумела — звяртацца да яго па дапамогу.

Мікалай Белакоз нарадзіўся ў 1890 годзе ў сям'і Язэпа Белакоза і Вольгі Прытыцкай у вёсцы Юраўляны каля Крынак на Беласточчыне. «У Яраўлянах, — кажа Алесь Мікалаевіч, — там спрадвеку жылі мае прашчуры. Мова Яраўлянаў мне даражэйшая і прыгажэйшая за мясцовую, дзе я жыву. Я, напрыклад, кажу: «дзякуй Богаві», «гобруць» і іншыя словы, характэрныя для Яраўлянаў. І ў нас ёсць прыстаўное «г», мы кажам: «гостры», «гараць», а не «араць» і г.д. Кажу «Яраўляны», а не «Юраўляны», таму што ў 1939 годзе там, каля вёскі, бачыў яры. Просты польскі пісар, каб паздзекавацца з селяніна ў XVI стагоддзі, даваў сялянам прозвішчы Сярун, Сцака, Пенес і іншыя непрыстойнасці. А чаму б не абразіць усю вёску, хоць «юр» не мае дачынення да вёскі, але чужынцы навязалі такое гучанне: Юраўляны…»

Калі бацькі Мікалая Белакоза Язэп і Вольга вярнуліся з бежанства — засеялі ў Юраўлянах ад радасці роднае поле, але першага ўраджаю так і не дачакаліся, хутка паўміралі ад тыфу. Вольга была вельмі прыгожай жанчынай: чарнявая, стройная. Прыгожым і высокім быў і Язэп. Іх сын Мікола Белакоз быў самым старэйшым у сям'і, рос вельмі здольным хлопчыкам. Ён «на выдатна» скончыў Крынскае гарадское вучылішча, за што атрымаў нават адпаведную грамату і падарунак. Але ў той час далей вучыцца не было магчымасці. Таму дужы, працавіты Мікалай Белакоз вымушаны быў застацца ў хаце ў Юраўлянах, каб араць, касіць, сеяць, малаціць.

Зямлі ў бацькоў Мікалая было чатыры дзесяціны. Яе неабходна было падзяліць на чатырох сыноў — Мікалая, Пятра, Гальяша і Івана, а таксама на дачку Алесю. Гальяш загінуў падчас рэвалюцыі ў Расіі. Самы малодшы Іван з польскага войска ў сярэдзіне 1920-х гадоў уцёк у СССР, дзе быў узнагароджаны за тое, што перайшоў мяжу са зброяй у руках. Аднак у Краснаярску, калі вучыўся на трэцім курсе інстытута, яго арыштавалі і расстралялі. Пятрук вывучыўся на краўца, жыў у Беларусі, а пасля выехаў на радзіму жонкі ў Харкаў. Сястра Алеся выйшла замуж за свайго хлопца і нарадзіла чатырох сыноў і дачку. Вось такі лёс братоў Мікалая Белакоза.

У 1910 годзе Мікалая забралі ў войска. Праслужыў чатыры гады. Пачалася Першая сусветная вайна. Ваяваў тры гады ў той самай кавалерыі, у якой служыў, удзельнічаў у Брусілаўскім прарыве. У 1917 годзе трапіў пад кулямётны агонь, яму параніла галаву, руку і правую нагу. Пасля вайны моцна кульгаў. Калі ажаніўся з Волькай Петрашэвіч, якая трохі заікалася, часта жартаваў: «Кульгаваму найбольш хадзіць, а заікліваму найбольш гаварыць».

«Мая мама паходзіла з вёскі Падбараны, якую ў народзе называюць чамусьці Радзівонаўцы, — успамінае Алесь Мікалаевіч Белакоз. — Да Падбаранаў ад Гудзевіч 9 кіламетраў, калі ісці палявымі сцежкамі, а калі па тракце — больш за 14. Пазнаёміліся і пажаніліся бацькі ў бежанстве каля Харкава напачатку 1919 года. А калі вярнуліся з бежанства ў Юраўляны, то на трох братоў і сястру было толькі чатыры гектары зямлі. Гэта вельмі мала».



Белакоз Алесь Мікалаевіч

З Харкава Мікалай і Волька Белакозы прывезлі тры мільёны керанак (грашовыя купюры, якія выпускаліся Часовым урадам у Расіі ў 1917 годзе і Дзяржбанкам РСФСР у 1917–1919 гадах. — С.Ч.). Каб сабраць столькі на дарогу, прадалі ў Харкаве асабістыя цяжэйшыя рэчы, збіралі заробак. «Заўтра сходзім у Крынкі на кірмаш, трэба грошы распускаць, бо яны прападуць», — сказаў жонцы Мікалай. Раніцай пайшлі на рынак. І Мікалай заўважыў, што керанак людзі не бяруць. Толькі адзін яўрэй прадае за керанкі саганчыкі.

— Колькі хочаце за гэты саганчык? — пытаецца вясковец у яўрэя.

— Тры мільёны керанак, — адказвае яўрэй.

— Пабойцеся Бога, — абурыўся Мікалай. — Каб зарабіць тры мільёны, я год працаваў.

— Ну якія гэта грошы, заўтра за гэтыя грошы, можа, і бульбіны не купіш, — даказваў сваё яўрэй.

Мікалай купіў саганчык.

Мікалай Белакоз быў вельмі веруючым чалавекам. Алесь Мікалаевіч Белакоз успамінае: «Кожную нядзельку ці ў іншае свята ён шчыра маліўся ў царкве, кожны раз перад сном і пасля сну хвілін дваццаць маліўся на каленях. Іншы раз абураўся, што святароў польскія ўлады прымушаюць казаць пропаведзі па-польску, што праваслаўную рэлігію бацюшка ў школе выкладае па-польску, што дзіця ў школе караюць бізуном нават за тое, што на перапынку звернецца да сябра па-беларуску, што не дазваляюць беларусам купляць зямлю, не прымаюць на працу на фабрыкі ды заводы, у дзяржаўныя ўстановы».

Пры Польшчы ўлады не вельмі хацелі пускаць беларусаў на заробкі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, бо там яны маглі зарабіць прыстойныя грошы. Таму беларусы ехалі ў іншыя краіны. Вырашыў паехаць на заробкі ў Бразілію і Мікалай Белакоз са сваім сваяком Філімонам Белакозам. Два месяцы плылі яны ў Бразілію. Па дарозе бачылі, як ляцелі з выраю буслы. Яны ў акіяне сядалі на карабель і больш падняцца ў паветра не маглі. Ад лішняга грузу карабель запавольваў ход. Матросы скідалі буслоў у ваду. Усе яны гінулі. «Гэта ж нашы, з Беларусі», — гараваў Мікалай.

Калі хлопцы прыехалі ў Бразілію, то толькі на чацвёрты дзень ім удалося ўладкавацца на працу ў лядоўню. Праца была цяжкая, але плацілі за яе добра. Потым уладкаваліся да аднаго фермера з Латвіі, а пасля распачалі свой уласны бізнэс. У Бразіліі Мікалай Белакоз часта марыў, як ён вернецца дахаты з далярамі, навязе гасцінцаў Волечцы і дочанькам Веры і Аленцы, як купіць гектараў сем зямлі ды стане сапраўдным гаспадаром, як гэта зямелька будзе самая ўрадлівая, бо ён прыкладзе рукі да яе, сэрцам адчуе яе патрэбы.

Планаваў, як будзе апекаваць непаўнагадовых хлопчыкаў Бароўскіх, матулю якіх пасадзілі ў турму, што не аддавала секвестратару прыгожы падвойны дыван, які выткала разам з ягонай Волечкай. Такіх дываноў у Юраўлянах ніхто не ўмеў ткаць, а яе Волька навучыла. Мікалай разважаў, што навучыць сыноў Бароўскіх, як трэба гаспадарыць, каб зямля радзіла. Ён ім дапаможа купіць чацвёра парасят, малочную цялушку. Паціху ўзаб'юцца на ногі. Ён аддзячыць Петрушу за ўсё тое добрае, што атрымаў ад разумнага ды разважлівага суседа. Ён дапаможа сястры Алесі, брату Пятру, пашле грошай у Сібір Ясю, які ўцёк у Савецкі Саюз…

Так марыў, але адкрылася рана на назе. Пайшоў да хірурга. Той сказаў, што адкрылася ад перамены клімату, і не загоіцца ад бразільскай гарачыні, што можа прывесці да гангрэны — а значыць, да смерці.

Мікалай Белакоз пачаў збірацца дамоў. Не захацеў заставацца там і Філімон. Разам падлічылі зробленыя грошы, купілі падарункі суседзям, сваякам, білеты на карабель, новае адзенне, мяшкі апельсінаў, бананаў, ананасаў, фісташак і паехалі на Радзіму. Вярнуліся дахаты ў разгар лета. Крынкаўскі балагол за невялікую плату прывёз мужчын у Юраўляны. Збеглася ўся вёска. Запрасілі за стол суседзяў, пачалі частаваць вяскоўцаў цукеркамі, заморскай садавінай і гароднінай. Гэта быў 1927 год. Прывёз Мікалай Белакоз дамоў тады 1870 даляраў, што на той час у Польшчы склала каля 17 тысяч злотых, альбо 170 кароў.

Працаваць з хворай нагой на зямлі Мікалаю было цяжка. Таму вырашыў ён разам з жонкай адкрыць у Юраўлянах краму. Але крыху раней краму адкрыў Філімон з жонкай, таму мець у вёсцы дзве крамы не было ніякага сэнсу. У 1928 годзе ў Лятках, цяпер гэта вёсачка злілася з Гудзевічамі на Мастоўшчыне, купілі хатку, пераехалі туды і пачалі гандляваць.

Канкурэнты, імкнучыся выкурыць Белакозаў з Ляткоў, падпалілі хлеў, а пасля падклалі самагонку. Хоць былі сведкі, якія бачылі, як падкладвалі Белакозам самагонку, усё ж падкуплены суд прыгаварыў Мікалая Белакоза да 9 месяцаў турмы. Адбыў тэрмін і вярнуўся дамоў, а потым на сваю матулю вытрабаваў дазвол на гандаль гарэлкай. «У нашай хаце часта пілі сяляне і службоўцы. Я кожны дзень чуў іх размовы пра прыгнёт, — успамінае Алесь Мікалаевіч. — І сам пачаў разумець, што беларусы на сваёй роднай зямельцы не могуць гаспадарыць, не маюць права на працу і на вучобу. Вяскоўцы часта пыталіся ў мяне: чаму селянін не любіць есці неабабраную бульбу. Я адказваў: з селяніна ўсе дзяруць скуру, то ён хоць з бульбы абдзірае. Гэта заўсёды выклікала рогат».

Падчас Другой сусветнай вайны Мікалай Белакоз з сям'ёй жыў у вёсцы, апрацоўваў тры гектары зямлі, трымаў дзве каровы, некалькі авечак, чацвёра свіней, хатніх птушак. Па начах, акрамя партызанаў і розных бандытаў, хадзілі ўласаўцы і пераапранутыя немцы. У чэрвені 1943 года да іх пад хату прыйшла вялікая банда. Сярод іх не было ніводнага знаёмага чалавека. Мікалай іх у хату не пусціў. Пачалася страляніна. Ад куль загінуў Мікалай Белакоз.

Алесь Белакоз прыгадвае: «Пасля вызвалення доўга адпаведныя органы вялі следства, аднак ніхто дрэннага слова пра бацьку не сказаў. Паўплывала і тое, што сястра мая ў час вайны патаемна па савецкіх падручніках — іншых не было — вучыла дзяцей зусім бясплатна, хоць на кожным кроку рызыкавала жыццём. Сярод яе вучняў трое былі дзецьмі расстраляных фашыстамі бацькоў. А найхутчэй, паўплывала тое, што следства вёў прыстойны чалавек. Сястра на допытах казала адкрыта ўсё, што думала, аднак не ўсё запісвалася ў пратаколы, бо інакш цяжка было б растлумачыць, як мы перажылі той час…»

Так абарваўся лёс беларуса Мікалая Белакоза з Юраўлянаў. Насуперак прыдуманаму міфу, зусім не ціхмянага і пакорлівага, а моцнага і прадпрыемлівага, здольнага на рашучую барацьбу за свой гонар і сваё дабро.

▸ **КНІГАРНЯ**

## АРЛОЎ І ГЕРАСІМОВІЧ — ПРА ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА

**Выйшла ў свет новая кніга Уладзімера Арлова і Змітра Герасімовіча «Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя», якая з'яўляецца своеасаблівым працягам папулярнага выдання «Краіна Беларусь».**




Займальная і даступная для чытача любога ўзросту і ўзроўню адукацыі, кніга прысвечаная найцікавейшай эпосе нашай мінуўшчыны — часам Вялікага Княства, дзе кансалідаваўся беларускі народ, беларускія землі адыгрывалі вызначальную ролю, а старабеларуская мова была дзяржаўнай.

Чытача чакае сустрэча з выдатнымі гістарычнымі асобамі: палітыкамі, военачальнікамі, асветнікамі. Кніга знаёміць з жыццём і побытам, ваеннымі перамогамі і культурнымі дасягненнямі продкаў. На аснове гістарычных фактаў даводзіцца, што найменні «Літва» і «ліцьвіны» на працягу некалькіх стагоддзяў былі назвамі Беларусі і беларусаў.

Аўтары не абмяжоўваюцца храналагічнымі межамі існавання Вялікага Княства Літоўскага. Шэраг раздзелаў апавядаюць пра становішча нашых земляў у Расійскай імперыі, вызвольную барацьбу і спробы адрадзіць дзяржаву, нацыянальнае адраджэнне і лёс Віленшчыны ў XX стагоддзі.

Выданне разбурае многія гістарыяграфічныя стэрэатыпы, а некаторыя звесткі прагучаць амаль як сенсацыя.

У кнізе блізу 2000 ілюстрацый, у тым ліку летапісныя мініяцюры, сярэднявечныя гравюры, унікальныя фотаздымкі і рэканструкцыі. Шмат якія ілюстрацыі беларускаму чытачу былі дагэтуль не вядомыя.

Гісторыя нашай краіны разглядаецца як частка агульнаеўрапейскага руху цывілізацыі.

Адначасова перавыдадзеная кніга «Краіна Беларусь», якая даўно стала бібліяграфічным рарытэтам.

Абодва важкія, багата ілюстраваныя тамы выйшлі ў вядомым славацкім выдавецтве «Kalligram» (Брацілава). Выдатную паліграфію забяспечыла кнігам друкарня «Neografia» (г. Марцін, Славакія).

▸ **ВЫСТАВА**

# ВЯРТАННЕ МАРКА ШАГАЛА

Аляксей ХАДЫКА

**24 ліпеня ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адбылося святкаванне 125-й гадавіны Марка Шагала. Цэнтральнай падзеяй мерапрыемства зрабілася перадача ў калекцыю галоўнай мастацкай скарбонкі краіны двух графічных аркушаў мэтра — акватынтаў-афортаў «Крыжовы шлях» і «Візія Апакаліпсісу».**


Фота аўтара

Дар «Белгазпрамбанка»

У перапоўненым фае новага корпуса гасцей віталі дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў, старшыня праўлення «Белгазпрамбанка» Віктар Бабарыка, міністр культуры Беларусі Павел Латушка і пасол Ізраіля ў Беларусі Іосіф Шагал.

Прысутнасць Віктара Бабарыкі выклікала асаблівую цікаўнасць: менавіта на сродкі «Белгазпрамбанка» апошні год актыўна фармуецца тэматычная карпаратыўная калекцыя твораў выяўленчага мастацтва «Мастакі парыжскай школы родам з Беларусі». У калекцыі ўжо налічваецца больш за 40 прац. Сярод іх — творы Міхаіла Кікоіна, Пінхуса Крэменя, Восіпа Любіча, Восіпа Цадкіна, Хаіма Суціна, Марка Шагала. Вяртанню твораў Шагала на радзіму ўвесь час узнікалі перашкоды.

У 1961 годзе, калі адзін маскоўскі калекцыянер меркаваў перадаць Віцебску некалькі работ майстра, яго спыніла варварскае знішчэнне мясцовымі ўладамі радзімы Шагала — Дабравешчанскай царквы. У 1975-м, праз два гады, як Марк Шагал, здавалася, быў «рэабілітаваны» ў Маскве, і адбылася выстава яго работ у Траццякоўцы, беларускія партыйныя лідары на спробу арганізаваць наведванне мастаком Віцебску заявілі, што такога творцы з Беларусі не існуе. І нават пасля 1997 года, калі ўнучкі Шагала Бэла і Мерэт Мейер правялі ў Нацыянальным мастацкім першы паказ твораў знакамітага дзеда, дамовіўшыся і надалей адзначаць яго гадавіны чарговымі экспазіцыямі, здабыць яго працы ў мінскую калекцыю не атрымалася.

Заканамерна, што міністр Павел Латушка з удзячнасцю адзначыў прыход да справы вяртання шэдэўраў прыватнага капіталу. Бо хаця сума ў 10 мільярдаў беларускіх рублёў, выдаткаваная сёлета дзяржавай на закупку мастацкіх твораў, і вялікая, але недастатковая. Як цуд пракаментаваў падзею і пасол Ізраіля, заявіўшы, што 25 гадоў таму ўявіць сітуацыю, калі дыпламат з яго краіны будзе вітаць у Мінску перадачу ў музей графічных аркушаў Шагала, было практычна немагчыма. Ні ў сэнсе юрыдычнага існавання гэтакага дыпламата, ні ў сэнсе прыязнай сустрэчы прыгаданых работ.

«Зліквідаваць прабел у калекцыі мастацкага музея», як назваў тое, што адбылося, прадстаўнік ахвярадаўцы Віктар Бабарыка, бізнесоўцы ўспрымалі за свой пачэсны абавязак. Вяртанне краіне культурных пазык яе грамадзянамі. А магчымым гэта стала пасля набыцця аркушаў на аўкцыёне Christie's у Лондане 20 верасня 2011 года. Наступным крокам творы знакамітага суайчынніка зоймуць пачэснае месца ў сталай экспазіцыі музея. Гэта 24-я адбіткі з 35 асобнікаў накладу, надрукаванага ў 1967 годзе. Не выпадковая і хрысціянская тэматыка, да якой Шагал звяртаўся праз усё жыццё, ад самых ранніх работ, суадносячы яе з нацыянальнымі габрэйскімі матывамі.

Падчас перадачы твораў музею адбылося ўрачыстае гашэнне канверта з маркай, спецыяльна падрыхтаванага міністэрствам сувязі і інфарматызацыі Беларусі да 125-годдзя мастака. Фінальным акордам вечара зрабілася прэм'ерная дэманстрацыя фільма «Марк Шагал. Нерэальная рэальнасць» — мастацка-дакументальнай прыпавесці пра жыццё творцы, у якой сюжэты яго работ ажывалі праз архіўныя кіназдымкі, кіназамалёўкі родных мясцін, пастановачныя сюжэты і каментары спецыялістаў. Работа створана на «Беларускім відэацэнтры» рэжысёрам-дакументалістам Зояй Катовіч па сцэнары Веры Савінай у 2012 годзе.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ: Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 651 21 12, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 723

Падпісана да друку 27.07.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.